# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае*
*свайго мінулага,*
*не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 4 ( 36 ) КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ 2006 г.

## У НУМАРЫ:



*Уладзімір Руль*

### Нацкая полечка

У нашай хаце ад паўдня
Весяляцца госці,
Пазбіралася радня
І з суседзяў хтосьці.
Скоцім хуценька на бок
Модныя паласы,
Робяць ногі вольна крок,
Стукаюць абцасы.
Польку нацкую зайграй,
Дарагі музыка.
Льецца радасць цераз край,
Патанцуем з шыкам!
Эх, і весела, аднак,
Бразгацяць відэльцы,
Нехта скінуў свой пінжак -
Скача ў камізэльцы.
Круціць сваццю мажны сват -
Зззяе смех на тварах,
Тут жа цешча, кум і брат
У вясёлых парах.
Ох, і звонкія басы
Ў нашага музыкі!
Не змаўкаюць галасы,
Раздаюцца крыкі!
Хата весела дрыжыць,
А найбольш - святліца.
Вам, спадарства, так бы жыць,
Так бы весяліцца!
Скача кум, тупоча сват
І суседзі ў руху,
Кожны круціць на свой лад
Полечку-трасуху.
Ах, гармонічак ты наш,
Лепшы на ўсю Начу!
Грай, хлапчына, польку - смаж!
Мы цябе аддзячым!..
Не знайсці, браткі, нідзе
Лепшага музыкі.
Ад танцораў пар ідзе.
Стогнуць чаравікі!
Усё!

*в. Нача.*



**Валер Антоні Ўрублеўскі** - **герой паўстання 1863-64 гг., паплечнік Кастуся Каліноўскага, палкоўнік паўстанцкіх войскаў, генерал Парыжскай камуны, асабісты сябар Карла Маркса і Фрыдрыха Энгельса, дзеяч І Інтэрнацыяналу.** ***Фота 1863 г.***

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

**№ 4 ( 36 )** **КАСТРЫЧНІК - СНЕЖАНЬ** **2006 г.**


# Лідскі замак на паштовым канверце Рэспублікі Беларусь



У канцы 2006 года Рэспубліканскае унітарнае прадпрыемства паштовай сувязі "Белпошта" выпусціла маркаваны канверт з выяваю Лідскага замка. Ініцыятыва выпуску канверта належала ГА "Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны".

На канверце здымак і малюнак Лідскага замка, а таксама гады будаўніцтва 1323-1325.

Упершыню на знаку паштовай аплаты пададзена выява заснавальніка Лідскага замка і горада Ліды Вялікага князя Гедзіміна з указаннем гадоў жыцця (1275 - 1341).

Пададзены герб горада Ліды.

Дызайнер А Грахоўская.

Канверт выпушчаны на "Папяровай фабрыцы" Дзяржзнаку, г. Барысаў.



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**


ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ № 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 250 асобнікаў**
**7 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.
Замова № 8
Часопіс падпісаны да друку 30. 12. 2006 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1740 руб.
індывід. 6 мес.- 3480 руб.
Кошт у розніцу: вольны

# ПАНЕГІРЫК НА ГЕРБ ГОРАДА ЛІДЫ

*17 верасня 1590 года прывілеем Вялікага князя Літоўскага і караля Польскага Жыгімонта IV Вазы гораду Лідзе было нададзена Магдэбургскае права і гарадская пячатка з гербам: ільвом і двума перакрыжаванымі ключамі.*



**Як сядалі Паны-Рада**
**ды на стольнай Вільні,**
**Як давалі Паны-Рада**
**герб для места Ліды.**

***Першы кажа:***
- Хай ён ззяе
на французскай тарчы,
Каб шляхетнасць тога Краю
мы маглі адзначыць.

***Другі кажа:***
- Ўспомнім толькі,
як ім там жылося,
І крыві чырвонай колькі
ў Лідзе пралілося.

А як біліся лідзяне
на Грунвальдскім полі,
Ні адзін адтуль дадому
не прыйшоў ніколі.

Колер мужнасці чырвоны
ім дамо па праву,
Хай унукі ды прымножаць
дзедаўскую славу.

***Трэці кажа:***
- Пан вяльможны,
за Грунвальда ззянне,
Дзе, як леў, лідзянін кожны
біўся да скanання,

Леў павінен быць на гербе
ў слаўным месце Лідзе,
І ніколі горад гэты
мужнасць не абыдзе.

***А чацвёрты кажа:***
- Далей,
не забыць нам трэба,
Што пад Лідай адчынялі
для ліцьвінаў неба,

Што кароль Ягайла з Ліды
пачынаў хрышчэнне
Ўсёй Літвы, і мы блакіту
дзеля праслаўлення

Той вялікае падзеі
на герб Ліды сыпнем,
Будзе сімвалам надзеі
у жыццёвым кіпні.

***Пяты кажа:***
- Кожны знае:
з Божага рачэння
Адчыняе дзверы раю
нам усім хрышчэнне.

То ключы Пятра Святога
ды ад райскай брамы
Ў завяршэнне герба тога
дадамо таксама.

***Шосты кажа:***
- Як зацвердзіць
герб Вялікі княжа,
Слаўны шлях на векі векаў
гораду пакажа.

**Як ставалі Паны-Рада**
**ды на стольнай Вільні,**
**Як няслі да Жыгімонта**
**герб для места Ліды.**

**Як рукою каралеўскай**
**герб той змацавалі,**
**Каб ніякія зладзействы**
**ў нас яго не ўкралі.**

**Каб далёкія нашчадкі**
**герб той шанавалі,**
**Паміж мужнасцю і небам**
**шлях свой выбіралі.**

***Станіслаў Суднік.***

# КРОНІКА ЛІДЫ




У кастрычніку 2006 г. у выдавецтве “Про Хрысто”, г. Менск выйшла кніга Яна Паўла II “Памяць і самасвядомасць. Размовы на пераломе тысячагоддзяў.” На беларускую мову кнігу пераклала Хрысціна Лялько.



28 кастрычніка 2006 г. на конкурсе “Ах, прынцэса” тытул “Прынцэса Лідчыны - 2006” атрымала Насця Сарока.



16 лістапада 2006 г. завершана рэканструкцыя крамы па вул. Камуністычнай.

У лістападзе 2006 г. пабачыла свет першая кніга лідскай паэтэсы Васілісы Пазнуховай “Мілавіца”.







У лістападзе 2006 г. пабачыла свет кніга лідскага паэта Аляксандра Слукі “Воздух паэзии”.




У лістападзе 2006 г. пабачыла свет кніга паэта і краязнаўца з вёскі Нача Воранаўскага раёна Уладзіміра Руля “На зорных шалях вечнасці”.




2 снежня 2006 г. прайшоў фінал конкурсу “Міс Лідчыны - 2006”.
“Міс Лідчыны - 2006” стала студэнтка Менскага каледжа Вольга Муліца.
Яна ж стала “Міс глядацкіх сімпатый”.

4 снежня 2006 г. прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўручыў ордэн “За асабістую мужнасць” лідскаму лётчыку Канстанціну Гансавічу Ябараву за пасадку на Лідскім аэрадроме самалёта Л-39 з няспраўным шасі.





14 снежня 2006 г. у Лідскім райвыканкаме былі ўручаны “Ордэны Маці” Марыі Канстанцінаўне Алефіровіч, Тарэсе Калінсаўне Багалейшы, Лідзіі Іванаўне Гушчы, Гражыне Станіславаўне Лябецкай, Тарэсе Леанідаўне Чылек.

У снежні 2006 г. выйшла кніга “З гісторыі краю і лёсаў людзей Воранаўшчыны. Матэрыялы навуковай гісторыка-краязнаўчай канферэнцыі (г.п. Радунь, 11 снежня 2004 г.)”. Усе матэрыялы кнігі тычацца гісторыі Лідскага павету.





У 2006 - 2007 навучальным годзе адміністрацыя Пецярбургскай кансерваторыі за актыўную канцэртна-асветную дзейнасць прызначыла лідзянцы Дзінары Мазітавай тры стыпендыі: Пракоф’еўскую, Рахманінскую і Спецыяльную прэмію за прапаганду сучасных пецярбургскіх кампазітараў.




У снежні 2006 г. выйшаў фотаальбом “Навагрудак” лідскага фотамастака Ігара Пешахонава. Гэта другі фотаальбом Ігара Пешахонава. Першы быў фотаальбом “Ліда”.



У снежні 2006 г. завершана рэканструкцыя будынка 1930 года па вуліцы 7-га лістапада, 5
у г. Лідзе.
30 снежня ў будынак усялілася “Дзяржаўная інспекцыя аховы жывёльнага і расліннага свету пры прэзідэнце Рэспублікі Беларусь па Лідскім раёне”.

# Кроніка айкумены

Лідскі гістарычны каляндар

## кастрычнік – снежань

**1506 год.** Двор Олдава (Голдава) перайшоў да Настассі Алізаравіч, пасля да яе мужа Яна Міхайлавіча Вішнявецкамга.

Двор Дакудаў перайшоў да Пятра Аляхновіча, намесніка скерстамонскага.

**1536 год.** У грамаце караля Жыгімонта прадпісана, што ўладальнікі параконных вазоў за пераезд праз мост у Лідзе абавязаныя плаціць пабор у *"грош вузкі, у якім осм пенезей". (Першае згадванне аб наяўнасці маста ў Лідзе.)*

**1566 год.** Да Лідскага намесніцтва далучаныя Васілішкаўскае і Эйшышскае намесніцтвы з складу Троцкага ваяводства. **Утвораны Лідскі павет**.

**1566 год.** Упершыню згадваецца дарога з Гародні ў Наваградак з пераправай праз Нёман каля Беліцы.

**1566 год.** Кароль Жыгімонт- Аўгуст выдзеліў у Лідзе два пляцы Паўлу Рошчыму.

**1586 год, 3 снежня.** У Беліцы складзены межавы акт паміж зблянскімі землямі князя Мікалая Радзівіла і голдаўскімі землямі пана Трызны.

**1596 год.** Сталіца Рэчы Паспалітай перанесеная з Кракава ў Варшаву.

**1626 год.** У Лідзе існавала аптэка.

**1656 год, кастрычнік.** Расійскі цар Аляксей Міхайлавіч дазволіў шляхце Лідскага павету, якая прысягнулася яму захаваць спавяданыя канфесіі: каталіцызм, уніяцтва і кальвінізм.

**1656 год.** Неўрадлівы год на Лідчыне.

**1666 год.** Казімір і Аляксандра Францкевічы заснавалі драўляны касцёл Святога Юрыя ў Осаве (Восаве).



*Лідскі павет у канцы 16-га стагоддзя*

**1676 год.** Адмысловым указам (канстытуцыяй) Сойма Рэчы Паспалітай Ліда на чатыры гады вызваленая ад усіх грашовых і натуральных павіннасцяў, пастояў войскаў, пастаўкі коней для перавозкі пошты.

**1696 год.** Мсціслаўскі ваявода Аляксандр Масевіч запісаў Куроўшчыну на карысць Лідскага фарнага касцёла.

**1776 год.** Варшаўскі сойм пазбавіў магдэбургскага права мноства гарадоў і мястэчкаў ВКЛ, пакінуўшы яго толькі *"... у галоўных гарадах ваяводскіх і павятовых, а менавіта: у Вільні, Лідзе, Троках, Коўне, Навагрудку, Ваўкавыску, Пінску, Менску і Мазыры, што цалкам досыць для забеспячэння правасуддзя і адпавядае значэнню гэтых гарадоў, а таксама ў лепшых з гарадоў нашых эканомій, як: у Бярэсці і Гародні..."*

**1786 год.** У Лідзе 514 жыхароў.

**1786 год.** У Жырмунах згарэў касцёл Знаходжання Святога Крыжа.

**1796 год.** Па распараджэнні імператрыцы Кацярыны II і загаду генерал-губернатара М.У. Рапніна пачалося будаўніцтва кацярынінскіх гасцінцаў на Лідчыне. З Ліды праз Лупеніцы і Беліцу пракладзены гасцінец на Слонім і Навагрудак, а праз Раклёўцы, Малы Ольжаў, Тарноўшчыну, Лебяду, Вялікі Мажэйкаў - гасцінец на Гародню.

**1796 год.** Сяляне маёнтка Домбрава (591 душа мужчынскага полу) і фальварка Любары (170 душ) прыналежылі да царкоўных, а сяляне маёнткаў Зарэчча, Крупа, Ельна, Фалькавічы (676 душ) да манастырскіх.

**1796 год, 23 (12) снежня.** Указам Паўла I шляхам аб'яднання Віленскай і Слонімскай губерняў створаная Літоўская губерня з цэнтрам у Вільні.

**1806 год.** 7 маёнткаў Лідскага павету нахадзіліся ў субарэндзе без ведання скарбовай палаты.

**1806 год.** Справа ў земскім судзе па спрэчцы плябана шляхціца Альшэўскага з ксяндзом мытнянским Славутам за ўчастак зямлі ў м. Мыто.

**1826 год.** Пажар у Лідзе, згарэў дах кармеліцкага касцёла.

**1836 год.** Паводле імператарскага ўказу ва ўсіх навучальных установах Беларусі ўведзена навучанне на рускай мове.

Гарэла Дакудаўская царква, згарэлі метрычныя кнігі за 1818-1821 гг.

**1846 год.** Браты Франц і Аляксандр Далеўскія, М.Клячкоўскі і А.Янкоўскі арганізавалі "Саюз вольных братоў". У Лідзе створана аддзяленне гэтага саюза.

**1846 год.** Целы пахаваных у фарным касцёле, якія ляжалі пад прэсбітэрыем закапаныя ў зямлю.

**1846 год, 13 кастрычніка.** Дзячком Лідскай Мікалаеўскай царквы прызначаны Амельяновіч.

**1856 год.** Пры плябаніі фарнага касцёла ўладкованы мураваны ляднік, крыты гонтай.

Ксёндз Хлявінскі ахвяраваў фарнаму касцёлу абраз Святога Станіслава намалява-ны мастаком Мірскім.

**1866 год.** Пад кіраўніцтвам архітэктара Дэ-Лазары у з. Мыто пабудаваная з каменю царква.

**1866 год, 27 лістапада.** Свята-Пакроўская царква ў Мыто асвечана протаіярэем Іосіфам Каяловічам.



***Свята-Пакроўская царква ў Мыто***

**1876 год, 27 снежня.** Зацверджана расклад па якім на ўтрыманне свята- і царкоўных служак Саборнай царквы адпускаецца 1100 рублёў.

**1886 год.** Віленскі генерал-губернатар Кахано без суда па таемным данясенні паліцыі выслаў навечна Міхала Ётку (Ёдку) у Сібір “за злачынства”.

**1886 год.** Ганчарская царква абнесеная мураванай агароджай. Пабудаваная новая драўляная званіца.

На шклозаводзе З. Ленскага за 1886 год выраблена прадукцыі на 1500 руб., колькасць працоўных 26 мужчын і 2 жанчыны.

**1896 год.** На філіял шклозавода “Новая Гута” закупленае новае нямецкае абсталяванне: шліфавальныя станкі, машыны для шліфоўкі шклянак, паўаўтаматы для шліфоўкі і нанясення рознага віду дэкораў. Здым шкломасы дасягнуў 3600 кг у суткі. У цэху апрацоўкі 130 станкоў.

**1896 год.** Адчыняецца Лідская друкарня, аб’ём вытворчасці ў першы год 800 руб.

**1896 год.** Збудавана цагляная сінагога - найпрыгожы будынак горада.



***Царква ў Ганчарах***

**1896 год.** На Рудненскай вадзяной мукамольна-сукнавальнай вытворчасці ў Лідскім павеце выпушчана 5 паставаў сукна.

**1896 год.** Лідскі натарыюс Андрэй Мікалаевіч Селянін меў кантору на Ферме ў хаце Клімантовіч.

Селянін Тамаш Восіпавіч Лябецкі ва ўрочышчы Канюшанскія моргі прадаў сялянам Васілю Францаву Макарэвічу, Паўлу Іванавічу Данейку і Вікторыі Венедыктаўне Данейка ў іх агульнае валоданне 2 участкі пустапарожняй зямлі (1 і 3 дзесяціны), якія мяжуюць з землямі сялян Ясялевіча, Рудзевічаў, Шэндрыка, Качана, Лябецкай, Жыгана і абшарніка Слюсарава за 140 рублёў.



***Лідская сінагога і ешыбот***

**1906 год, 15 лістапада.** Кіеўскі купец Н.М.Літвак усе свае правы па дамове аб арэндзе пад высечку 30 тысяч дзесяцін лесу ў Беліцкім маёнтку князя Вітгенштэйна на агульную суму 150 тысяч рублёў саступіў лідскаму купцу Гершону Аронавічу Пупко, “ад якога поўнае задавальненне спаўна атрымаў”.

**1906 год.** Пачаўся рух цягнікоў на чыгуначнай лініі Маладзечна- Ваўкавыск праз Юрацішкі -Гаўе-Ліду- Скрыбаўцы-Ражанку.

Пабудавана новае цаглянае дэпо на 4 паравоза і адміністрацыйны 2-павярховы будынак.

Лідская паштова-тэлеграфная кантора атрымала 4 клас.

У Дакудаве пры валасным кіраванні адчыненая пошта.

Зачыненая паштовая станцыя ў Мосевічах і Лебядзе.

Адчыненая паштовая станцыя ў Скрыбаўцах

Скончана будаўніцтва Белагрудского касцёла - аднаго з лепшых у раёне.

Распарцалёваны маёнтак Рулевічы.

**1926 год.** Пачата будаўніцтва школы № 1, будаўніцтва вёў падрадчык Сухавольскі з Ваўка-выска.

**1926 год.** Браты Чарткі пабудавалі цвікова завод, на якім выраблялiся цвікі, падковы, дзвярныя і аконныя завесы.

Акцыянеры Народнага акцыянернага банка ў Лідзе купілі ў магістрата пляц на вуглу вуліц Перацкага і 3 траўня.

**1926 год.** Вяртанне ўласнасці піарскаму кале-гіюму.

Адчынена турма на на вул. Сыракомлі (“Сыракомля”) у былых прыватных аптовых спіртавых складах купца Стругача.

**1926 год.** Капітан Ба-ляслаў Арлінскі праляцеў трасу Варшава-Токіё і назад з рэкордам 22600 км за 121 гадзіну.

**1926 год, снежань.** У Лідскім павеце налічалася 49 гурткоў Грамады, у тым ліку ў Дроздаве (старшыня Кудла), у Табале, Ганчарах, Бенявічах, Дакудаве, Агародніках.

**1936 год, кастрычнік .** У Лідзе выдадзены зборнік паэтычных твораў Эльжбеты Красіцкай “Крошкі” (“Okruchi”).

**1936 год, 22 лістапада.** Пажар на драцяна-цвіковай фабрыцы “Друт-індустрыя” Шымона Савіцкага. Пачаўся ў рабочай сталовай. 100 працоўных засталіся без працы.

**1936 год, 2 снежня.** Пастановай Віленскага старостава закрыта ТБШ.

**1936 год.** Частковая амністыя, вызвалены каля 4 тысяч палітычных зняволеных.

**1936 год.** У Лідскай бальніцы 63 ложкі, 2 лекары, 5 медсясцёр, 17 чалавек абслуговага персаналу. Адчынены рэнтгенаўскі кабінет.

**1936 год.** На Сувальскай, 20 адчынена кафля-



***Белагрудскі касцёл***



***Школа № 1, сучасны выгляд***




***Урачыстая сустрэча капітана Баляслава Арлінскага на аэрадроме ў Лідзе пасля яго пералёту Варшава-Токіё-Варшава***

ная фабрыка “Нешар” Шымана Пупко з сынамі.

Адчынены рэстаран “Варшавянка” Ігнацы Расіконя на Сувальскай, 21.

Адчынены “Бар гастранамічны” Элеаноры Вячоркі на вул. 3 траўня, 4.

**1946 год, 4 кастрычніка.** У горадзе 162 шматдзетныя і 273 самотных маці; 2 маці-гераіні: Гаеўская Юлія Леапольдаўна - 12 дзяцей і Каханоўская Яўгенія Васільеўна -10 дзяцей. З 8 ліпеня 44 г. ордэнамі і медалямі ўзнагароджаныя 231 шматдзетня маці.

**1946 год, 23 кастрычніка.** Калектыў птушкакамбіната выканаў гадавую праграму і стаў пераможцам Усесаюзнага сац. спаборніцтва па Міністэрстве мясной і малочнай прамысловасці СССР. Камбінату прысуджаная 1 -ая прэмія.

**1946 год.** На заводзе сельгасмашын № 1 выпушчана прадукцыі на 1841,3 тыс. рублёў, выраблена 330 малатарань, 220 арф, 380 конных прывадаў, 1150 плугоў, 845 плужкоў (акучнікаў), 2300 восяў, 900 палукашкаў для гофманскіх печаў.

Прамысловасць горада выпусціла прадукцыі на 5745,2 тыс. рублёў.

Зачыненыя Беліцкі і Крывіцкі касцёлы.

У горадзе 2643 навучэнцы.

**1946 год, кастрычнік.** Каля в. Агароднікі будуецца мост праз Нёман

**1956 год, 26 кастрычніка.** Дзяржпрыёмка гаркаму партыі плошчай 900 м2.

**1956 год, 1 лістапада.** У горадзе 2400 гектараў зямлі, з іх 611 у часовым карыстанні калгасаў ім. Молатава і Шверніка, пад спецпрызначэнеем - 534 га, агароды - 484 га, сенажаці - 18 га, пад вадой - 5 га, пад дарогамі - 298 га, пад пабудовамі, вуліцамі, завулкамі, пляцамі і дварамі - 256 га, няўдобіцаў - 4 га.



***Мост цераз Нёман***

**1956 год, 28 снежня.** Зацверджаны акт дзяржпрыёмкі 12 кв. жылога дома па вул. Астроўскага, 19 плошчай 396 м2.

**1956 год.** Ксёндз Клеменс Мар’ян Чабаноўскі пасля 5 гадоў зняволення вярнуўся ў Ліду.

Забудоўваліся вуліцы Гастэла, Крылова, Мендзялеева, Глінкі, Сечанава, Паўзунова, зав. Дзяржынскага.

Знесены стары будынак пажарнага дэпо па вул. Савецкай.

**1966 год.** У Ліду прыйшоў прыродны газ- газіфікавана 4000 кватэр.

Сетка вадаправода 23 км.

У школах 400 настаўнікаў.

У бальніцы 435 ложкаў.

Выраблена прадукцыі на 100 млн. рублёў.

Аб’ём капітальных укладанняў 6561 тыс. руб.

Таваразварот 20 млн. рублёў.

**1966 год.** Першыя калектывы камуністычнай працы - брыгада паравознага дэпо ў складзе: А. Валейша, У. Барысевіч, А. Даўлюд, Б. Калюта (брыгадзір) і брыгада кантрольнага пункта вагоннага дэпо ў складзе І. Савіч (брыгадзір), Т. Гаўрылава, У. Муха, Е. Паваляева, М. Цітова, У. Маладчыніна.

**Канец 1966 года.** Насельніцтва - 38600, мужчыны- 16915, жанчыны 21685, палякі -13410, белорусcы-12330, рускія 10258, украінцы -1620, іншыя -882. У горадзе 11 школ, 210 класаў, 7110 навучэнцаў.

**1976 год, кастрычнік.** Выбары народных засядацеляў гарадскога народнага суда.

**1976 год.** Уступіла ў дзеянне трэцяя чарга лакафарбавага завода, у якой наладжаны выпуск аднаго з найскладаных прадуктаў хіміі - фталевага ангідрыду.

**1976 год.** Аб'ём капукладанняў 18147 тысяч. Сетка вадаправода 44 км, горад поўнасцю газіфікаваны. Гарадская бальніца - 870 ложкаў, 2 паліклінікі, прыём па 25 медычных спецыяльнасцях, 211 лекараў і 680 чалавек сярэдняга медыцынскага персанала, 14 СШ -11 тысяч навучэнцаў, тэхнікум і музвучэльня - 1600 навучэнцаў, 22 дзіцячыя дашкольныя ўстановы -3500 дзяцей, Дом піянераў, станцыя маладых тэхнікаў, 4 ДСШ, 700 настаўнікаў, 4 кінатэатры, 4 ДК, 18 бібліятэк - у іх 176 тыс. кніг, 45 тысяч чытачоў. Планетар, краязнаўчы музей, 2 паркі, 3 тысячы гараджан прымаюць удзел у мастацкай самадзейнасці, 4 народныя калектывы - ансамбль песні і танца "Лідчанка", драмкалектыў ГДК, ансамбль песні і танца абутковай фабрыкі, мужчынскі хор завода "Лідсельмаш". Таваразварот -55 мільёнаў 780 тысяч рублёў. Аб'ём бытавых паслуг 36 рублёў на чалавека. Тры атэлье індывідуальнага пашыву і рамонту абутку, філіял Гарадзенскай фабрыкі "Праца" індывідуальнага пашыву і рамонту абутку, камбінат бытавых паслуг з механічнай пральняй і фабрыкай хімчысткі і афарбоўкі адзежы, майстэрня "Рамбыттэхнікі", СТА аўтамабіляў, гасцініца на 304 месцы, 24 сталовыя і рэстараны на 3090 месцаў, 76 крамаў.

**1996 год, 6 кастрычніка.** Памёр ксёндз-дэкан Станіслаў Каласанты Роек (1908-1996)

**1996 год, 15 кастрычніка.** Зарэгістраваная першая харцэрская арганізацыя ў Лідзе

**1996 год, 2 лістапада.** Сябры Лідскай арганізацыі БНФ "Адраджэньне" высвянцілі ў фарным касцёле і усталявалі на магілее ксяндза Адама Фалькоўскага ў парку драўляны 5 м крыж.

**1996 год, 4 лістапада.** Крыж на магіле Фалькоўскага знесены.

**1996 год, 19 лістапада.** Адчыненая новая кацельня на прадпрыемстве "Лідабудматэрыялы". У кацельні устаноўлена абсталяванне сумеснага беларуска-французскага прадпрыемства "Камконт", арганізаванага на базе Гомельскага завода "Камунальнік". Кацельня працуе на пілавінні, кары і небольшых брусках. У прэзентацыі прынялі ўдзел амбасадар Францыі Жуліф Клод, камерцыйны дараднік Дамінік Граншэ

**1996 год, 21 лістапада.** У дзень Святога Архі-анёла Міхаіла адбылося асвячэнне Архістратыга-Міхайлаўскага Кафедральнага сабора ў прысутнасці архібіскупа Беластоцкага і Гданьского Савы, біскупаў Гарадзенскага і Ваўкавыскага Арцемія, Наваградскага і Лідскага Гурыя.



***Устаноўка крыжа на магіле ксендза Адама Фалькоўскага 2 лістапада 1996 года***

**1996 год, 24 лістапада.** Агульнабеларускі рэферэндум і выбары ў ВС. 81 % гараджан і 93,6 % жыхароў раёна удзельнічалі ў рэферэндуме. Было 7 пытанняў. Перанеслі Дзень Незалежнасці РБ на 3 ліпеня. Прынялі канстытуцыю А.Лукашэнкі. Адпрэчылі свабоны продаж зямлі. Не пагадзіліся на адмену смяротнай кары. Выступілі супраць канстытуцыі ВС. Выступілі супраць абрання мясцовай улады жыхарамі. Выступілі супраць галоснага фінансавання ўсіх галін улады з дзяржбюджэту. Жыхары раёна галасавалі так, як ім раіў А. Лукашэнка. За канстытуцыю Лукашэнкі галасавалі 60% гараджан (42 тысячы) і 84 % сельскіх жыхароў

Па 134 выбарчым участку па выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у другі тур выйшлі П. Ярошка і С. Суднік.

**1996 год, 27 лістапада.** Апошняя ракета СС-25 "Таполя" з дывізіі генерал-маёра Анатоля Іванцова выехала ў Расію з Яцукоў. Рэспубліка Беларусь стала бяз'ядзернай дзяржавай.

# Лідскія юбіляры 2006 года

**БАЛЬЦЭВІЧ Вацлаў Мартынавіч** (1876 -1902). Нарадзіўся ў в. Лелянцы Лідскага павету, цяпер Воранаўскі раён. Рэвалюцыянер, адзін з родапачынальнікаў сацыял-дэмакратычнага руху на Беларусі і ў Літве.

**КРЫПЕЦ Данііл Аляксандравіч.**

"Нарадзіўся 29 снежня 1896 года ў Дакудаве.

Скончыўшы двухкласную прыходскую школу я паехаў у Кранштадт - набіралі ў школу юнгаў - матросаў. Прабыў я там каля двух месяцаў, захварэў і вярнуўся дадому. Потым добраахвотна паехалі брыгадай у некалькі чалавек будаваць Гарадзенскую цвердзь, прабылі там зіму, а на вясну адбылі дадому. А потым узялі нас будаваць лінію акопаў.

21 жніўня 1915 г. прызваны ў войска, накіравалі ў Царскае Сяло, гэта за 25 км ад Петраграда. Вызначылі ў лейб-гвардзейскі Маскоўскі полк. Лейб-гвардыя мела ў Царскім сяле летнія кватэры, а зімовыя былі ў Петраградзе. Нас павучылі два месяца і адправілі на фронт маршавымі ротамі. На фронце мяне накіравалі ў вучэбную каманду. Калі я скончыў вучэбную школу, стаў камандзірам аддзялення. Быў на фронце да 1917 г. У канцы вясны захварэў цынгой, не я адзін, амаль палова часткі. Нас накіравалі на лячэнне ў Калугу, пасля папраўкі мяне накіравалі ў запасны батальён у Петраград.

Калі пачалі выбіраць камітэты салдацкіх дэпутатаў, мяне прызначылі наместнікам старшыні. Калі старшыня камітэту дэмабілізаваўся, мяне прызначылі старшынём камітэта салдацкіх дэпутатаў 7-й роты 3-га батальёна.



***Д.І. Крыпец***

Удзельнічаў ва ўзброеным паўстанні супраць Керанскага 17 і 18 ліпеня. Керанскі хацеў склікаць Устаноўчы Сход, каб яго зацвердзілі, таму што яго ўлада была часовая. Але бальшавікі сарвалі Устаноўчы Сход. Пачалі рыхтаваць галасаванне. Бальшавіцкі нумар восьмы, перавысіў усе нумары, а іх было 18 нумароў. Улада Керанскага ў той час нахадзілася ў Зімовым палацы. Крэйсер "Аўрора" пачаткаў бамбардзіраваць Зімовы. Там былі абаронцамі жаночы батальён смерці і юнкеры. Войскі ўсё пайшлі за бальшавікамі. Кожнай частцы паказана было заняць які-небудзь будынак. Наш батальён заняў юнкерскую вучэльню. Быў зроблены пяратрус, адна частка засталася ў вучэльні.

Ленін пачаў набіраць дабраахвотніцкае войска і тады мы ў колькасці 30 чалавек з старога войска паступілі добраахвотна ў Чырвонае войска. Нас прызначаюць для аховы Петраграда. У 1918 г. я патрапіў пад Архангельск супраць ангельскага генерала Мілера, які камандаваў фронтам.

Мы стаялі за станцыяй Абазёрскай на рацэ Емцы, знаходзячыся ў вагонах. Наш цягнік стаяў у ляску. Як раз пралятаў над намі нізка самалёт. Мы па камандзе выскачылі ў лес і залпам пазвязна па самалёце і самалёт збілі, аказваецца гэта быў наш самалёт.

На Паўночным фронце спачатку былі два палкі на чыгунцы Архангельск-Волагда. Адзін полк арганізаваўся з войска, а іншы полк, у якім я быў, з гвардыі. Адзін раз, калі мы знаходзіліся ў вагоне, прыйшоў загад, што выбілі полк з акопаў. Тады мы пайшлі на дапамогу гэтаму палку і пайшлі ў абыход, Там вайна па дарогах, а направа і налева балоты непралазныя на сотні км. Калі мы справа і злевва ангельцаў абыйшлі далі сігнал, пачалі надыходзіць галоўныя часткі. Англічане пачалі адыходзіць, а мы перакрыжаваным, як стукнулі, то мала жывых уцякло, а параненыя, якія не маглі хадзіць прасіліся, каб іх дабілі і гаворацы, што бальшавікі з іх будуць здзіраць шкуру. Вось там якая была агітацыя. Мы ім гаворым, што ніхто не будзе шкуру дзерці. Там былі параненыя ангельцы, французы, амерыканцы, італьянцы, але ангельцаў больш за ўсіх. Гэтых параненых мы адвезлі ў

Волагду. Там іх добра кармілі, вылечылі, вадзілі па тэатрах. Адным словам было ім вольна, як дома. А потым іх узялі перакінулі праз фронт і пусцілі да сваіх. Пасля гэтага пачалі пераходзіць на наш бок не толькі асобныя людзі, але пачалі пераходзіць кучай, звязамі, ротамі. На Паўночным фронце было цяжка ваяваць. Вопратка слабая ў тыя поры, бруд, маразы вялікія і снегу шмат, харчы слабыя - што дадуць на два дня, то некаторыя за дзень, а то і за раз з'ядуць. Мясцовыя сяляне ўсе былі за белых. Бывала заставу здымуць, зойдуць з нашага боку пароль усе ведаюць, і то мы не пераходзілі на іх бок.

Я трапляю інструктарам у вучэбную школу камандзіраў 157 палка, і там я прабыў каля двух гадоў перш у палкавой, а потым у брыгаднай школе. За выдатную службу Ленін узнагародзіў нагрудным знакам. А падчас наступлення на Польшчу я быў ужо камандзірам аддзялення ў дывізіённай школе 11-й дывізіі. Пры адступленні бальшавікоў мы былі ў выведцы, а потым апынуліся ў тыле палякаў. Было не так далёка дадому, я прабіраўся ўначы і прабраўся.

Пры Польшчы пабудаваў новы дом. Пры адступленні немцы спалілі вёску Дакудава, у тым ліку згарэлі і ўсе мае пабудовы. Дзяржава дапамогі пагарэльцам не аказала.

Жонка з 1897 года, у 1945 годзе нарадзіўся сын.

З 1950 года працаваў у калгасе "Іскра" фуражырам. Жонка працавала ў калгасе на апрацоўцы льну. Сын быў на цаліне, у 1964 годзе вярнуўся і працаваў трактарыстам у калгасе "Іскра". Дом у мяне стары і драхлы. Я сам сляпы на адно вока. Мы ўтраіх працуем у калгасе і не можам пабудаваць сабе новы дом, таму што любяць толькі багатых, а мы змагаліся за бедных. 5 мая 1964 г."

**ЛАМАКА Іосіф Фаміч** (1896-) Нарадзіўся ў в. Дубляны Менскай вобл. Служыў у 1917 г у Петраградзе ў Валынскім палку, быў камандзірам звяза. Прымаў удзел у Лютаўскай рэвалюцыі, штурме Зімовага палаца, ваяваў на франтах Грамадзянскай, быў паранены. Адзін з арганізатараў калгасу "Новы быт" у Менскам раёне. Падчас ВАВ вывезены ў Нямеччыну. Пасля вайны працаваў трактарыстам у тым ж калгасе. У 1964 годзе пераехаў у Ліду.

**ІВАШКА Зміцер Філіпавіч** (26.10.1896-25.02.1973). Свой слаўны працоўны шлях пе-дагога пачаў у 1919 г. у Гомелі ў якасці настаўніка хіміі сярэдняй школы. Працаваў на рабфаку і курсах па падрыхтоўцы настаўнікаў пры Гомельскім пед-інстытуце Скончыў Менскі педагагічны інстытут (1930), Маскоўскі педа-гагічны інстытут (1939). Працаваў у Краснадарскім краі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З снежня 1945 г. настаўнік хіміі і завуч СШ № 1 г. Ліды. Паўстагоддзя свайго жыцця аддаў справе выхавання і навучання маладога пакалення. Шчасліва спалучаў у сваёй працы любоў да сваёй справы з прыроджаным талентам педагога. "Заслужаны настаўнік БССР" (1957). Навуковы карэспандэнт НДІ МП БССР з 15.08.1947 г. Узнагароджаны ордэнамі Леніна, "Знак Пашаны" (1949), медалямі. "Заслужаны настаўнік школы БССР" (1957). Занесены ў кнігу пашаны Міністэрства асветы БССР (1968).



***З.Ф. Івашка***

**ЮДЗІН Вячаслаў Васільевіч** (1906-1978). Нарадзіўся ў Лідзе адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Гомельскай вобласці, кандыдат у члены ЦК КПБ (1952-54) начальнік кіравання Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР (1960-1968), першы сакратар Маладзечанскага абкама КПБ.

**КУШАЛЬ Міхаіл Лук'янавіч.** Нарадзіўся 29 кастрычніка 1946 г. у Дакудаве. Скончыў 8 класаў Дакудаўскай школы, Гарадзенскае ПТВ № 64, Калінінградскую вышэйшую вайскова-інжынерную вучэльню ім. Жданова (1968), Вайскова-інжынерную акадэмію ім Куйбышава (1975). Пасля Акадэміі праходзіў службу ў войсках Усходняй памежнай акругі КДБ СССР. За выкананне ўрадавай задачы па інжынерным абсталяванні дзяржмяжы ў 1980 г. атрымаў прэмію Ленінскага камсамолу. Ордэн "За службу Радзіме ў ВС" 3 ступені (1981). Генерал-палкоўнік.

# Валер Антоні Урублеўскі ў паўстанні 1863-64 гг.

## *170 гадоў з дня нараджэння, 15.12.1836 - 5.8.1908*



***Дзеяч беларускага, польскага і міжнароднага рэвалюцыйнага руху. Нарадзіўся ў мяст. Жалудок Лідскага павету (цяпер гар. пасёлак у Шчучынскім раёне) у сям'і дробнага беларускага шляхціца Антона Войцаха Урублеўскага і Разаліі з роду Юравік (Юраўскіх). Бацька яго працаваў лесніком, потым скарбнікам у графа Тызенгаўза.***

***Калі ў 1846 годзе памёр бацька, сям'я Валерыя Урублеўскага перабралася ў Вільню, дзе Валерый пазнаёміўся з дзядзькам Яўстахам Урублеўскім, які прытрымліваўся рэвалюцыйных поглядаў. Арышт Яўстаха ў 1848 годзе і асуджэнне на 8 гадоў катаргі моцна паўплывалі на Валерыя. Гады навучання ў Віленскім шляхочым інстытуце (Віленскай гімназіі) яшчо больш абудзілі свабодалюбівыя пачуцці.***

***Скончыўшы ў 1853 Віленскую гімназію, Валер разам з братам Станіславам у 1854 г. паступіў у Пецярбургскі лясны інстытут. У час вучобы ўдзельнічаў у студэнцкім руху, быў членам нелега-льнага рэвалюцыйнага гуртка, якім кіравалі польскія рэвалюцыянеры-дэмакраты З. Серакоўскі і Я. Дамброўскі. У 1859 г. Урублеўскі, паручнік рускай службы, накіраваны інспектарам лясной школы ў в. Саколка Гарадзенскай губ. (цяпер Польшча). У 1861-62 ён актыўна ўдзельнічаў у стварэнні нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі на Гарадзеншчыне, вёў прапаганду сярод навучэнцаў школы. Разам з Кастусём Каліноўскім рэдагаваў, друкаваў і распаўсюджваў нелегальную рэвалюцыйна-дэмакратычную газету "Мужыцкая праўда". Дасканала валодаў беларускай мовай.***

***У час паўстання 1863-64 Урублеўскі кіраваў паўстанцкімі аддзеламі. Ён быў прыхільнікам левага крыла "чырвоных" - найбольш актыўных барацьбітоў, якія прытрымліваліся рэвалюцыйных поглядаў, - апоры на сялянскія масы, ліквідацыі памешчыцкага землеўладання, роўных правоў усіх народаў краю. За умелае кіраўніцтва баявымі дзеяннямі атрымаў годнасць палкоўніка. У час бою з казакамі 7.8.1864 Урублеўскі быў моцна пасечаны шаблямі. Казакі палічылі яго мёртвым.***

***Крыху падлячыўшыся ў маёнтку Ксаверыя Складоўскага, ён эміграваў у Францыю. У Парыжы кіраваў дэмакратычнымі арганізацыямі беларуска-польскіх эмігрантаў. Калі 18.3.1871 у Францыі адбылася рэвалюцыя і быў створаны першы ў гісторыі чалавецтва працоўны ўрад - Парыжская камуна, Урублеўскі, як і многія іншыя яго суайчыннікі, актыўна падтрымаў рэвалюцыйныя памкненні парыжан. Урублеўскі (палкоўнік) прапанаваў камунарам свае паслугі і план ваенных дзеянняў. Неўзабаве яму было прысвоена званне генерала, і ён узначаліў адну з трох рэвалюцыйных армій, якая абараняла паўднёвую частку Парыжа. У баях Урублеўскі паказаў сябе ўмелым, разважлівым і прадбачлівым палкаводцам і змагаўся на чале арміі да апошняга дня Парыжскай камуны. Версальцы завочна прыгаварылі яго да пакарання смерцю. З фальшывым пашпартам Урублеўскі пераехаў у Англію, дзе блізка пазнаёміўся з К. Марксам і Ф. Энгельсам. Гэта адзіны беларус, які быў не толькі асабіста знаёмы, а і супрацоўнічаў з класікамі марксізму. У гэты ж час здароўе яго ў выніку шматлікіх раненняў моцна пахіснулася, яму з цяжкасцю ўдалося пазбегнуць ампутацыі рукі.***

***Падлячыўшыся ў бальніцы Лонданскага універсітэта, Урублеўскі ўступіў у І Інтэрнацыянал. У кастрычніку 1871 яго выбралі членам Генеральнага савета 1 Інтэрнацыяналу, сакратаром-карэспандэнтам для Польшчы. Ідэі Інтэрнацыяналу Урублеўскі прапаведаваў у эміграцкай арганізацыі "Люд польскі", створанай у Лондане па яго ініцыятыве. У 1871-72 У. быў старшынём судовай ("трацейскай") камісіі, якая разбірала канфлікты паміж членамі 1 Інтэрнацыяналу. Пасля распаду 1 Інтэрнацыяналу і арганізацыі "Люд польскі" (1876) Урублеўскі перабраўся ў Жэневу. У 1878 ён нелегальна***

***прыязджаў у Расію (Адэса, Пецярбург), сустракаўся з народнікамі-землявольцамі. Калі французскі ўрад абвясціў амністыю ўдзельнікам Парыжскай камуны, у 1885 Урублеўскі пераехаў у Францыю і пасяліўся ў г. Ніца. У 1901 французскі ўрад нават прызначыў яму пенсію. Апошнія гады жыцця ён правёў ва Уарвілі (каля Парыжа) у доме былога камунара Г. Геншынскага. Пахаваны ў Парыжы на могілках Пер-Лашэз, ля сцяны Камунараў. На магіле Валерыя Урублеўскага надпіс: “Удзельніку паўстання 1863 года, генералу Парыжскай камуны (18 сакавіка - 28 траўня 1871 г.). Гераічнаму сыну Польшчы - народ Парыжа”.***

***У час росквіту камуністычнай ідэалогіі постаць Валерыя Урублеўскага згадвалася, але не вельмі афішавалася і прапагандавалася. Што ж, нават У. І. Ленін не быў асабіста знаёмы з К. Марксам і Ф. Энгельсам, а тут нейкі шляхціц з-пад Ліды.***

Рэвалюцыйная сітуацыя, якая склалася ў Расіі на рубяжы 50—60-х гадоў XIX ст., захапіла і заходнюю ўскраіну Расійскай імперыі — Беларусь, Польшчу, Літву, Заходнюю Украіну. Найбольш вострa рэвалюцыйны крызіс выявіўся ў Польшчы. Тут назіраўся ўздым нацыянальна-вызвольнага руху ў спалучэнні з усеагульнай незадаволенасцю аграрнай рэформай.

Землі Вялікага Княства традыцыйна адставалі. У каторы раз тут вырашалася ў многім супярэчлівая задача сумяшчэння выгады супольнай барацьбы супраць Расійскай імперыі з рэалізацыяй імкнення да нацыянальнага самавызначэння беларускай нацыі, якая выкрышталізоўвалася з ліцьвінскага кангламерату.

Калі Цэнтральны нацыянальны камітэт Польшчы на экстраным пасяджэнні вырашыў пачаць паўстанне да рэкруцкага набору і 10 студзеня 1863 г. выдаў маніфест і два аграрныя дэкрэты, Літоўскі правінцыйны камітэт (паўстанцкі ўрад на землях ВКЛ) падтрымаў палякаў, хаця ні беларускі, ні літоўскія землі да паўстання не былі гатовыя.

Першыя паўстанцкія аддзелы ў заходніх паветах Беларусі з’явіліся ў канцы студзеня 1863 г. з Царства Польскага. Некаторыя камандзіры, якія імкнуліся перанесці паўстанне на ўсход, спрабавалі прайсці праз Гарадзенскую і Менскую губерні і далей. Самым буйным аддзелам, які паспяхова рухаўся на ўсход, было злучэнне Р. Рагінскага. Спачатку Рагінскі удзельнічаў у баі пры Сямяцічах 25-26 студзеня 1863 года. Нягледзячы на тое што аддзел перасьледавалі значныя сілы супраціўніка, ён здолеў з Польшчы праз Пружанскі павет дайсці да Менскай губерні, робячы смелыя рэйды па вёсках. На сваім шляху ён некалькі разоў сустракаўся з карнымі войскамі.

З афіцыйнай кронікі: *”30 января. Дело у Королевскаго Моста, Пружанскаго у. Русский отряд состоял из 5 рот Псковскаго полка, 3-х рот. Ревельскаго полка с 85 казаками N24 Донского полка при 4 орудиях нарезной N5 батареи, под командою ф.-ад. гр. Ностица и подполк. Вимберга. Ранено 12 чел. Состав шайки не указан. Начальник ея Рогинский. Убито 12, утонуло 5, в плен взято 4 и на другой день 16.”*

12 лютага 1863 г. аддзел паўстанцаў з 200 чалавек, узброеных стрэльбамі, пісталетамі, кінжаламі захапіў мястэчка Шарашова. Закупіўшы паўкажушкі, боты і іншае адзенне і ўзяўшы ў Шарашоўскім сельскім праўленяі 93 рублі казённых грошай, яны на 15 фурманках сталі рухацца ў кірунку Пружан.

13 лютага Рагінскім былі ўзяты Пружаны. Паўстанцы забралі з цэйхгауза ўсю зброю, амуніцыю, 1720 патронаў, увесь порах, у казначэйстве ўзялі 10 808 руб., выпусцілі з турмы ўсіх вязняў і напалі на кватэру гараднічага. Жыхары горада спачувальна аднесліся да паўстанцаў, а гарадскія ўлады былі не ў стане даць ім адпор.

25 лютага аддзел быў разбіты пад Боркамі. Але толькі ў Слуцкім павеце царскія войскі здолелі канчаткова дагнаць аддзел Рагінскага і разбіць яго. Сам Рагінскі трапіў у палон. У Пружанах ад аддзела Рагінскага адзяліўся аддзел Станіслава Сангіна каб вярнуцца пад Сямяцічы, але Станіслаў Сангін загінуў у баі пад в. Рэчыца Пружанскага раёна.

З афіцыйнай хронікі:”*3 февраля. Дело при ферме Речице, Пружанскаго уезда. Русский отряд состоял из 2-ой стрелковой и 3 и 7 линейной рот Псковскаго полка с казаками, под командою подп. Вимберга. Убито 2, ранено 3. Состав шайки до 250 чел. Начальник ея Рыльский (он убит). Убито 83 чел., ранено 34, в плен взято 14.”*

**Рэйды паказалі, што пакуль не паўстануць беларусы, палякі на беларускіх тэрыторыях нічога зрабіць не змогуць.**

Першыя беларускія паўстанцкія аддзелы пачалі фармавацца на паўночнай Лідчыне. Аддзел **Людвіка Нарбута** выйшаў у лес 14 лютага 1863 года. Праз два тыдні ён налічваў ужо 80 чалавек. З сакавіка пачаліся баі.

Выступленне Гарадзеншчыны затрымлівалася. Першыя аддзелы ў Гарадзенскай губерні пачалі стварацца толькі ў сакавіку — красавіку 1863 г. Сігналам для выступлення з’яўляліся вусныя або пісьмовыя загады, якія перадавалі сябрам паўстанцкай арганізацыі. Пры гэтым звычайна ўказвалася месца і час збору. І тут асноўная роля была наканавана яшчэ аднаму лідзяніну - **Валерыю Урублеўскаму**.

Агульнае паўстанне на Гарадзеншчыне

было прызначана на 12 (24) красавіка 1863 г. Калі ў гэты дзень Урублеўскі прыехаў на загадзя намечаны зборны пункт у лесе ля вёскі Каменка ў Белавежскай пушчы, то застаў там толькі аднаго паўстанца. Але паступова людзі пачалі падцягвацца. Прыбыло шэсць рэвалюцыйна настроеных афіцэраў Лібаўскага палка Беластоцкай залогі (браты Багуслаў і Юліян Эйтмантовічы, А. Баранцэвіч, А. Раман, П. Брандт, А. Міцэвіч) юнкер М. Ятаўт і сем дзесяткаў іншых дабраахвотнікаў з Беластока. Быў нават француз Сімана. Пазней падышоў аддзел на чале з Эдвардам Карсноўскім. Аснову зборнага аддзела складаў Сакольскі паўстанцкі аддзел, створаны начальнікам Сакольскай егерскай школы Валерыем Урублеўскім з вучняў гэтай школы і мясцовай варты Белавежскай пушчы. Зборны аддзел дасягнуў ліку каля 150 чалавек і вырушыў у бок Беластока. Па дарозе адна за адной далучаліся новыя групы з Бельска (130 чалавек), з Саколкі і Супраслі (30 чалавек начале з Вінцэнтам Гусцілам), са Свіслачы (50 чалавек).

**Урублеўскі** прыняў пасаду **начальніка штаба ўсіх паўстанцкіх сіл**, а камандуючым стаў **Духінскі**. На працягу некалькі дзён колькасць людзей у аддзеле павялічылася да 400 чалавек. Аддзел падзяляўся на дзве роты па 200 чалавек, якія ў сваю чаргу падзяляліся на дзесяткі. З усіх толькі 230 чалавек было ўзброена паляўнічымі стрэльбамі, а астатнія косамі. Коннай групай камандваў Кабылянскі.

Вялікую дапамогу паўстанцам аказвалі сяляне. Яны былі фуражырамі, выведнікамі, праважатымі для паўстанцаў. Асаблівую радушнасць адзначалі паплечнікі **Урублеўскага** сялян вёсак Лыскава, Мілавіды і Крынкі.

Супраць аддзелаў **Урублеўскага** дзейнічаў вайсковы рускі атрад генерала Манюкіна ў складзе 7 эскадронаў, 5 казачых соцень, 67 ротаў пры 38 гарматах.

*«**Урублеўскі**, начальнік Сакольскай егерскай ву чэльні, паручнік рускай службы. ..*

*Шайка пад яго камандаю больш дзейнічала ў Беластоцкім, Ваўкавыскім і Пружанскім паветах, да самага рассеяння яе ў апошнім месцы, і ён з некалькімі рэшткамі, як кажуць, выйшаў у Берасцейскі павет... Яшчэ будучы ў егерскім вучылішчы, ён падгаварыў вучняў яго да паступлення ў шайку.*

*Нерухомая маёмасць яго знаходзіцца ў адным з паветаў Гарадзенскай губерні, а рухомая прададзена на выплату даўгоў па вучэльні».*

17(29) красавіка, на пяты дзень узброенага выступлення, паўстанцы Урублеўскага ўжо ішлі ў бой. Гэта здарылася пад Пілатоўшчынай або Валілямі ў Сакольскай (Крынскай) пушчы. Для большасці, у тым ліку і для Валерыя, гэта быў першы бой у жыцці, і ён асабліва запомніўся.

Спачатку на дарозе перад пазіцыяй паўстанцаў паказаліся шэсць казакоў. Некаторыя пад трапнымі кулямі паўстанцаў пападалі з коней, іншыя ўцяклі. Потым Валер убачыў шчыльныя ланцугі пяхоты, тонкія джалы штыкоў. Лес напоўніўся дымам, грукатам, крыкамі, лаянкай... Толькі гадзіну неабучаныя толкам, слаба ўзброеныя паўстанцы здолелі стрымліваць карнікаў. Спачатку было збіта правае крыло аддзелу, потым левае трапіла пад перакрыжаваны агонь. Паўстанцы адкаціліся ў пушчу, пакінуўшы вазы, скарб, нават афіцыйную пячатку ваяводы Духінскага. 32 чалавекі, па звестках Арамовіча, былі забіты.

Аналізуючы бой, царскі генерал Манюкін быў вымушаны з трывогай адзначыць: *«Мяцежнікі дзейнічалі правільнымі ланцугамі і калонамі і сыходзіліся ў густым лесе шмат разоў у рукапашную схватку»*. Але ў цэлым тон яго данясення пакуль што мажорны. У часе адной з паўстанцкіх контратак *«былі перабіты іх начальнікі: Эйтмановіч і Урублеўскі»*,— паведаміў ён у Вільню 22 красавіка.

Аднак дарэмна царскія ўлады радаваліся гібелі Урублеўскага. Адважны паўстанцкі камандзір быў жывы, як, дарэчы, і іншыя пералічаныя ў рапартах афіцэры. Мужнасць капітана Урублеўскага (такі быў тады яго паўстанцкі чын) у гэтым баі адзначыла віленская падпольная газета «Ведамасці" пра паўстанне на Літве». Першы бой вырашыў лёс Урублеўскага. Ён адчуў, што можа не губляць галавы пад кулямі, кіраваць людзьмі ў баявых умовах, аператыўна прымаць правільныя рашэнні. За ім ішлі, яму верылі людзі.

Два з паловай тыдні паўстанцы залечвалі раны ў глухім лясным урочышчы Будзіск.

*«Няўдача Духінскага ў баі пад Сакалдою* (так называе **Каліноўскі** бой пад Пілатоўшчынай або Валілямі, хаця адлегласць паміж сённяшнімі вёскамі Валілы і Сакалда даволі вялікая), *хаця не такая страшная, як абвяшчалі афіцыйныя рускія паведамленні, дрэнна падзейнічала на навакольнае насельніцтва, аднак не спыніла яшчэ спачування да справы паўстання»,* — пісаў Кастусь Каліноўскі.

... Зноў прыбывалі падмацаванні. Аддзел вырас да 470 чалавек. Конная група пасылалася па навакольных вёсках чытаць паўстанцкі маніфест. Потым пад націскам карнікаў паўстанцы пакінулі абжытую мясціну ў пушчы і падаліся на ўсход у Пружанскі і Ваўкавысцкі паветы.

Побач, у Кобрынскім павеце ўзняў паўстанне **Рамуальд Траўгут**. Аддзелы Траўгута таксама заходзілі ў Ваўкавысцкі і Пружанскі паветы.

Касцяком першых паўстанскіх аддзелаў на



***Паўстанцы 1863 г. Мастак Я. Росен. 1880 г.***

Беларусі былі жыхары гарадоў — дробныя чыноўнікі, разначынная інтэлігенцыя, рамеснікі, навучэнцы. Яны былі найбольш падрыхтаванымі да выступлення, таму што сярод іх даўно вялася падрыхтоўчая работа членамі мясцовых рэвалюцыйных арганізацый, былі загадзя створаны падраздзяленні («дзесяткі» і «сотні»).

З сельскага насельніцтва да паўстання перш за ўсё далучыліся беззямельная і малазямельная шляхта, аднадворцы.

Памеснае дваранства пераважна было супраць узброенай барацьбы. Толькі дробныя памешчыкі, галоўным чынам іх сыны, ішлі ў паўстанцкія аддзелы. Разам з святарствам яны складалі каля 6% удзельнікаў паўстання. Памеснае дваранства дапамагала паўстанцам галоўным чынам матэрыяльна.

Ступень удзелу сялян у паўстанні была розная на ўсходзе і захадзе Беларусі. У Гарадзенскай губерні сярод паўстанцаў было шмат сялян, тут паўстанцкія аддзелы атрымлівалі шырокую падтрымку ад сельскага насельніцтва. На ўсходзе Беларусі сярод паўстанцаў было менш сялян . Сярод паўстанцаў сяляне складалі каля 18%. Галоўная прычына такіх адносін беларускага сялянства да паўстання тлумачыцца непаслядоўнасцю аграрнай праграмы, якая, хоць і знішчала выкупныя плацяжы, аднак не павялічвала сялянскіх надзелаў, захоўвала ў недатыкальнасці памешчыцкае землеўладанне.

Царызм настройваў сялян супраць паўстанцаў, тлумачыў, што паны паўсталі, каб вярнуць прыгоннае права. У сялянскім асяроддзі былі моцныя царысцкія ілюзіі.

Найбольш актыўна ў паўстанні ўдзельнічалі дзяржаўныя сяляне. К. Каліноўскі пісаў у час дазнання: *«Склад аддзелаў у большасці выпадкаў быў з казённых сялян, дробнапаместнай шляхты і гарадскіх жыхароў, у якіх шайкі знаходзілі самую моцную падтрымку. На памешчыкаў і іх сялян я атрымліваў пастаянныя скаргі ад ваенных начальнікаў».*

Сярод беларускіх губерняў у Гарадзенскай быў самы вялікі працэнт дзяржаўных сялян. У гэтым заключалася адна з прычын таго, што менавіта тут сярод паўстанцаў было шмат сялян (20%). На колькасць сялян у паўстанцкіх аддзелах Гарадзеншчыны ўплывала і агітацыйная дзейнасць паўстанцаў. Аддзел **Урублеўскага**, які бесперапынна манеўраваў, каб услізнуць ад карнікаў, праходзіў па вёсках, растлумачваў сялянам сэнс сваёй барацьбы і папаўняўся добраахвотнікамі з іх асяроддзя.

Аддзелы на сваім шляху знаёмілі сялян з маніфестам. Звычайна паўстанцы збіралі сялян навакольных вёсак, чыталі ім маніфест, пісалі акт аб перадачы зямлі ва ўласнасць сялян, прыводзілі іх да прысягі на вернасць рэвалюцыйнаму ўраду і толькі пасля гэтага рухаліся далей.

Праследаванне аддзелаў царскімі войскамі вымушала паустанцаў абмяжоўвацца адной толькі аб'явай новых законаў. Ажыццяўляць іх не было часу.

Віленскі генерал-губернатар, які баяўся масавага пераходу сялян на бок паўстання, загадваў губернатарам літоўскіх і беларускіх губерняў ужываць узброеную сілу для барацьбы з сялянскім рухам у выключных выпадках, калі ўсе іншыя сродкі ўздзеяння на сялян будуць вычарпаны.

Уся тэрыторыя, ахопленая паўстаннем, была падзелена на ваяводствы. На чале ваяводства стаяў цывільны рэвалюцыйны начальнік — ваяводскі. Як правіла, ваяводствы тэрытарыяльна супадалі з губернямі. Выключэннем з’яўлялася Гарадзенская губерня, якая была падзелена на ваяводствы — паўночнае і паўднёвае. З Менскай губерні быў вылучаны ў самастойную адзінку Наваградскі павет з падначаленнем яго Вільні.

У паўночных паветах Гарадзеншчыны ваяводскім быў назначаны Э. Заблоцкі — таварыш К. Каліноўскага, у паўднёвых — памешчык А. Гафмейстар. Ваяводскім Менскай губерні стаў памешчык К. Пялікша, а начальнікам Наваградскага павета — памешчык К. Кашыц.

На чале кожнага павета стаялі павятовыя. Яны выконвалі ў межах свайго павета функцыі ваяводскага. Паветы дзяліліся на акругі, на чале якіх стаялі акруговыя. Баявымі дзеяннямі ў ваяводствах кіравалі вайсковыя начальнікі. Адначасова вайсковыы начальнік камандаваў адным з найбольш буйных партызанскіх аддзелаў у губерні. У Гарадзенскай губерні гэту пасаду спачатку займаў **Валер Урублеўскі**.

17 траўня 1863 года аддзел паўстанцаў на чале з **Урублеўскім** уступіў у Свіслач. Паўстацы прачыталі жыхарам маніфест, атрымалі ад насельніцтва харчаванне, арыштавалі мясцовага прystава. Адсюль Урублеўскі рушыў у Грынкі і навакольныя лясы. 21 траўня 36 паўстанцаў зноў прыбылі ў Свіслач. Да іх далучылася некалькі жыхароў мястэчка, у іх ліку студэнт прагімназіі У. Азярніцкі. Затым аддзел зноў адбыў у Грынкі. Тут іх сабралася каля 800 чалавек. З гэтага часу і да канца жніўня паўстанцы вялі цяжкія абарончыя баі ў Белавежскай пушчы. Тут іх наведаў К. Каліноўскі.

Ва ўпартых кровапралітных баях з пераважнымі сіламі карнікаў В. Урублеўскі праявіў сябе як выдатны ваеначальнік і адважны воін... Так, 26 траўня ў лесе пад Серадовым паўстанцы былі раптоўна атакаваны і рассечаны на дзве часткі Тады, перашыхтаваўшы шэрагі, Урублеўскі размясціў аддзел у зарасніках каля лясной ракі. Пад націскам ворага паўстанцы пачалі адступаць.Урублеўскі, узначаліўшы касінераў павёў іх у атаку. Тры разы займаў вораг зараснікі ля ракі, тры разы касінеры, наступаючы па рэдкалессі пад густым агнём, выбівалі яго з зараснікаў.

У большасці рэгіёнаў Беларусі паўстанцкія аддзелы на працягу некалькіх месяцаў былі разбітыя і расцярушаныя па лясах.

Толькі ў Гарадзенскай губерні паўстанцы працягвалі ўпарта супраціўляцца. У траўні адбылося больш, як 20 баёў. Тут дзейнічалі 5 паўстанцкіх аддзелаў, у якіх было амаль 1700 чалавек. Найбольш буйныя сутычкі адбыліся каля мястэчка Мілавіды Слонімскага павета. Тут да 20 траўня сабралася некалькі аддзелаў паўстанцаў — усяго каля 800 чалавек: ваўкавыскі пад кіраўніцтвам Млодака – 270 чалавек, наваградскі – Міладоўскага – 140 чалавек, пружанскі – Улодака – 50 чалавек, слонімскі – Юндзіла – 300 чалавек. Агульнае кіраўніцтва ажыццяўляў палкоўнік Ляндар.

Супраць мілавідскай групоўкі было накіравана 5 рот салдатаў з 4 гарматамі. Першая бітва пачалася 21 траўня, яна працягвалася некалькі гадзін. Царскія войскі не здолелі ўзяць лагер і былі вымушаны адступіць з вялікімі стратамі. На наступныя суткі, ноччу, паўстанцы непрыкметна пакінулі лагер. У гэтым жа месяцы адбылася сутычка паміж карнікамі і аддзелам Духінскага, якая таксама працягвалася некалькі гадзін. Калі сцямнела, паўстанцы адарваліся ад супраціўніка.

2 чэрвеня аддзелы Урублеўскага напалі на Ружаны, акружылі казарму з салдатамі і абяззброілі іх. Затым перайшлі ў Ваўкавыскі павет і злучыліся з аддзелам А. Лянкевіча (Ляндара), які прыйшоў з-пад Мілавідаў. Аднак тут неўзабаве злучаны сілы паўстанцаў усё-такі былі разбіты царскіімі войскамі.

У разгар паўстання на пасаду віленскага генерал-губернатара быў назначаны М. М. Мураўёў, які праславіўся сваёю жорсткасцю. Новы генерал-губернатар з надзвычайнымі паўнацтвамі прыехаў у Вільню 26 траўня 1863 г. з ухваленай царом праграмай деянняў.

Супраць некалькіх тысяч паўстанцаў на Беларусі і ў Літве было накіравана рэгулярнае войска — 318 рот салдатаў, 48 эскадронаў кавалерыі, 18 казацкіх соцень, 120 палявых гармат.

Улада на месцах фактычна перадавалася ў рукі вайсковых начальнікаў, насельніцтву не дазвалялася пакідаць месца свайго жыхарства. Уводзілася кругавая парука і ўзаемная адказнасць. Мураўёў нацкоўваў адны пласты насельніцтва на другія, караў смерцю і высылаў на катаргу ўдзельнікаў паўстанцкага руху; дзейнічаў подкупам і ашуканствам супраць тых, хто хістаўся і баяўся, хто не мог правільна разабрацца ў падзеях.

Дзесяткі шляхецкіх сядзібаў былі спалены, а іх жыхары выселены з краю за тое, што яны падазраваліся ва ўдзеле ў паўстанні. Урад, які баяўся ўплыву на мясцовае насельніцтва чыноўнікаў шляхецкага паходжання, імкнуўся вызваліцца ад іх, ён асабліва ўважліва сачыў, каб іх не было на пасадах ва ўстановах, што кіравалі сялянскімі справамі.

Паводле афіцыйных дадзеных, у Літве і на Беларусі было пакарана смерцю 128, выслана на катаргу 853, адпраўлена ў Сібір на пасяленне 504

чалавекі і 825 чалавек выслана з пазбаўленнем усіх правоў. 320 удзельнікаў паўстання былі адпраўлены шараговымі ў армію, 767 — у арыштанцкія роты. Апрача таго, адміністрацыйным парадкам з краю было выслана 7836 чалавек. Усяго было выселена з краю 12 483 чалавекі.

Тым не менш 8 чэрвеня новага стылю паўстанцы зноў прынялі бой з царскімі войскамі над ракой Сцярцежай Ружанскай пушчы. Духінскі быў адразу ж адрэзаны ад асноўнай часткі аддзелу. Камандаваў **Урублеўскі**, які пад ураганным агнём царскіх салдат тры разы вадзіў у атаку касінераў і тры разы выбіваў карнікаў з гушчару. Духінскага ўдалося выратаваць.У гэты раз паўстанцы трымаліся добра і адышлі ў парадку забіраючы раненых.

Маёр фон Крэмер, які кіраваў у гэтым баі царскімі войскамі, быў вымушаны напісаць даволі блытаны рапарт:

*«...Мы пачалі рабіць безупыннае наступленне... Бачачы поўную бескарыснасць праследаваць частку разбітай шайкі, я палічыў патрэбным даць адпачынак, прывесці ў парадак свой атрад. Сабраўшы роты, ішлі 14 вёрстаў у мястэчка Ружаны, дзе заначаваў і з цырымоніяй аддаў зямлі забітых ніжніх чыноў...»*

У сярэдзіне чэрвеня да галоўнага паўстанцкага аддзелу Гарадзенскага ваяводства зноў далучыўся ваўкавыска-гарадзенскі аддзел на чале з Аляксандрам Лянкевічам і Густавам Стравінскім.

Арамовіч падрабязна, са шчырым замілаваннем апісвае супольны паўстанцкі лагер у Пераездзіку над Цемрай. Было шумна і весела. Паўстанцы адпачывалі, парадкавалі зброю і вопратку, дзяліліся ўражаннямі аб баях і паходах. Даваліся прызначэнні, пісаліся рапарты і адозвы. Вечарамі над лагерам разносіліся беларускія паўстанцкія песні, якія ствараў агульны любімец Фелікс Ражанскі (ён прыбыў з ваўкавысцамі).

Урублеўскі пераходзіў ад вогнішча да вогнішча, прысаджваўся да паўстанцаў, адведваў кашы з дымком, кідаў вострае слоўца. Ён прыкметна узмужнеў, аброс ладнай чорнай бародкай. Там, дзе з'яўляўся шэф штабу, размовы і смех успыхвалі з новай сілай. Разам з усімі Урублеўскі спяваў:

*Ах, ты, мая чорпабрыва,*
*Будзь здарова і шчаслiва!*
*Люблю цябе, любіць буду*
*І ніколі пе забуду.*
*Ой, у хаце не астацца,*
*Калі трэба ісці драцца...*
*На ворага косы маем,*
*Загуляем, як здужаем...*

Былі там словы пра «залатую вольнасць», пра Польшчу, пад якой паўстанцы-дэмакраты разумелі федэрацыю свабодных народаў.

З Пераездзіка **Урублеўскі** перайшоў ў Вялікі Кут. Высланы адсюль адважны камандзір Казімір Кабылінскі з конным аддзелам смелым нечаканым налётам захапіў Ружаны і абяззброіў там царскую вайсковую каманду.

Але хутка выстралы загрымелі каля самага паўстанскага лагера. Гэта па слядах Кабылінскага ў Вялікі Кут прыйшлі царскія войскі. Бой быў паспяховы для паўстанцаў. Карнікі адступілі, пакінуўшы на полі бою сваіх забітых, параненых і (мара кожнага паўстанца!) 29 дальнабойных штуцараў.

Тады якраз цвіла-адцвітала беларуская каліна. І вось пасля бою Урублеўскі нарваў ахапак каліны, зшыхтаваў аддзел і раздаў усыпаныя беласнежнымі пялёсткамі галінкі паўстанцам, якія найбольш добра паказалі сябе ў баі. Эпізод гэты малюе нашага героя вялікім рамантыкам. Ды і сам час быў узнёслы і рамантычны.

Шэф штабу Валер Урублеўскі, зазначае Арамовіч, быў «душою аддзелу» ва ўсіх радасцях і бедах. Ме-



***Кастусь Каліноўскі сярод паўстанцаў у 1863 г. Мастак П. Сергіевіч. 1855 г.***

навіта такія людзі, як Урублеўскі, што выйшлі ваяваць у імя высокіх ідэалаў, карысталіся найбольшай папулярнасцю ў народзе, паўсюдна мелі падтрымку і дапамогу. У аддзеле панаваў строгі рэвалюцыйны парадак. У дзённіку Арамовіча падкрэсліваецца ўважлівае стаўленне паўстанцаў да народа — не дапускалася, як піша наш летапісец, ніводнага гвалту.

21 чэрвеня, збіўшы царскі заслон у Жаркоўшчыне, паблізу Дабраволі і Рудні, паўстанцы ўвайшлі ў Белавежскую пушчу. Велізарная спрадвечная пушча ахоўвала, але і дадавала цяжкасцяў. Недасведчанаму чалавеку складана было ў ёй арыентавацца, ён мог назаўсёды згубіцца ў зялёным паўзмроку. А Урублеўскі — ляснічы па прафесіі — быў у лясной глухамані, як рыба ў вадзе. Да таго ж ён загадзя абзавёўся адпаведнымі картамі. *«Адзіным правадніком у маршах па гэтых глухіх нетрах,— піша Арамовіч, — быў шэф Урублеўскі з планам ляснічага, дзе былі ўказаны аддзелы, прасекі і іх нумары...»*

У калоніі Попелеў вырашана было падзяліцца. Духінскі і Урублеўскі падзялілі аддзел на чатыры часткі. Першая (60 чалавек) на чале з Вашкевічам рушыла ў Бельскі павет, другая (60 чалавек) на чале з Талкінавым накіравалася ў Сакольскі павет, трэцяя (120 паўстанцаў) на чале з Засулічам — у паўднёвую частку Ваўкавыскага павету, а група са 120 інсургентаў Густава Стравінскага, з якой знаходзіўся і штаб Гарадзенскага ваяводства з Духінскім і Урублеўскім, рушыла ў паўночную частку Ваўкавыскага павету. Пераправіўшыся цераз раку Нараў, аддзел Стравінскага спыніўся ва ўрочышчы Масцішча ў Свіслацкай пушчы. Тут паўстанцы два тыдні адпачывалі. У гэты час аддзел наведаўз інспекцыяй Канстанцін Каліноўскі. Ён мог прызнацца сябру, што паўстанне і на Гарадзеншчыне згасае. Але ні Каліноўскі, ні Урублеўскі не збіраліся здавацца, яны гатовы былі змагацца да апошняга.

З Масцішча аддзел выступіў да вёскі Пашкоўскія Астраўкі ў Ваўкавыскім павеце, дзе злучыўся з групай Засуліча і пружанскім аддзелам Шчаснага Ўлодака. 9 жніўня 1863 г. да Пашкоўскіх Астраўкоў падышлі 3 роты пяхоты і эскадрон уланаў. Аддзел у Пашкоўскіх Астраўках падвергся нечаканаму нападу і паўстанцы, якія не мелі штыкоў, ухіліліся ад рукапашнай.

*«Калі ў лесе з'явіліся ворагі,* — натуе Арамовіч, — *з нашай лініі быў адкрыты агонь, але партызаны ўжо ведалі пра няроўнасць сілаў... Таму пасля невялікай сутычкі нашы адступілі з лініі, за выключэннем 40 чалавек, пераважна кобрынцаў, якія з Урублеўскім яшчэ даволі доўга вялі бой на месцы і, цяснімыя царскімі салдатамі, пакрысе адступалі, увесь час адказваючы агнём...»*

Не кожны вытрымае поўнае трывог і небяспекі жыццё паўстанца-партызана. 15 жніўня 1863 г. Духінскі, зусім знясілены цяжкімі партызанскімі паходамі, атрымаў адстаўку і выехаў за мяжу. Камандуючым усімі паўстанцкімі ўзброенымі сіламі Гарадзеншчыны цяпер зноў, ужо і афіцыйна, становіцца Валер Урублеўскі. Загад аб яго прызначэнні падпісаў Кастусь Каліноўскі, які да гэтага часу зноў узначаліў беларуска-літоўскі паўстанцкі цэнтр («Выканаўчы аддзел») у Вільні. *«Палкоўнік Духінскі..., хаця і з дазволу Аддзелу выехаў, аднак выездам гэтым не Аддзел яму, а ён Аддзелу, а асабліва Гарадзенскаму ваяводству, вялікую ласку зрабіў»*,— з палёгкай каменціраваў перамену на Гарадзеншчыне Каліноўскі ў лісце да свайго сябра Б. Длускага. Задавальненне Каліноўскага можна лёгка зразумець. Замест чалавека, што з самага пачатку толькі замінаў руху, губерню ўзначаліў нястомны працаўнік рэвалюцыі, якому Каліноўскі верыў як самому сабе.

Па парадзе Каліноўскага Урублеўскі змяніў тактыку барацьбы: разбіў аддзелы на невялікія групы па 20—30 чалавек, загадаў ім разгарнуць прапаганду сярод сялян, шырэй уцягваць іх у барацьбу. У паўночную частку Ваўкавыскага павету адправіўся «Янка з-пад Гародні», у паўднёвую — «Юзюк з Беластока», у Шэрашаў — «Марэль», у Белавежскую пушчу — «Галабурда». У інструкцыях камандзірам аддзелаў ён загадаў выкарыстоўваць любую магчымасць для абнародавання маніфеста Нацыянальнага ўраду на "русинском языке" і надзялення сялян зямлёй. Мера гэта была неабходная, але запозненая.

Два тыдні аддзел Урублеўскага стаяў лагерам каля в. Глыбокі Кут Бельскага павету. 30 жніўня паўстанцаў атакавалі 3 роты пяхоты і палова эскадрона ўланаў пад камандаваннем маёра Шульжэнкі. Паводле яго рэляцыі, расійскія войскі атрымалі перамогу без усялякіх страт са свайго боку, забілі 31 "мяцежніка". Паведамленне пра перамогу над аддзелам Урублеўскага ў баі 7 верасня каля в. Піёнткава Бельскага павету праслаў і маёр Ганецкі, у якім гаварылася, што ён з паловай роты перамог "шайку" Урублеўскага, забіта 50 мяцежнікаў. Здзіўляе тое, што і Шульжэнка, і Ганецкі пісалі, што "шайка" Урублеўскага складалася з 300 "мяцежнікаў". "Бравыя" камандзіры перабольшвалі сілы аддзелу. У сапраўднасці ў аддзеле Урублеўскага мелася каля 180 паўстанцаў.

Аддзел Урублеўскага пад націскам расійскіх войскаў увесь час пераходзіў то ў Свіслацкую, то ў Белавежскую, то ў Пружанскую пушчы. Такая тактыка апраўдвала сябе. Царскія войскі ніяк не маглі разграміць аддзел. 12 верасня каля в. Рудня Ваўкавыскага павету паўстанцы Урублеўскага вырваліся з акружэння і рушылі ў кобрынскія лясы.

*“З чыста ваеннага пункту гледжання, калі адкінуць палітычны фактар, проста неверагодна, што паўстанцы так доўга пратрымаліся і нават выйгравалі баі”,* — адзначае расійскі гісторык Анатоль Смірноў. Але ў гэтым нічога дзіўнага не было. З Урублеўскім засталіся самыя мужныя і стойкія. Яны былі гатовы біцца да апошняга. Урублеўскі прапанаваў тым, хто ўпаў духам, пакінуць аддзел і здацца на міласць уладаў. Але такіх не знайшлося. Маладыя паўстанцы сталі сапраўднымі воінамі. *“Гэта была храбрая моладзь, загартаванэя ў працяглых паходах. З красавіка 1863 года яна пераносіла без нараканняў цяжар паходнага жыцця. Кожны з іх памятаў пра баі з маскалямі і таму не баяўся сустрэцца з ворагам. Вяртанне да дамашніх агменяў ім не ўсміхалася, бо за ўдзел у паўстанні іх дамы былі знішчаны Мураўёвым Вешальнікам. Сумняваюся, ці думаў хто, каб пайсці з аддзелу і ўцячы за мяжу. Пачуццё гонару, абавязку ў адносінах да Айчыны, у імя якой яны ўзяліся за зброю, не дазваляла ім пакінуць лагер”,* — адзначаў у сваіх успамінах афіцэр аддзелу Урублеўскага Антоні Баранцэвіч.

Аднак даводзілася цяжка, надзвычай цяжка. Ад’ютант Урублеўскага Ігнат Арамовіч так апісвае адзін з эпізодаў жыцця атрада: *“У нас не было чаго есці, але стомленым партызанам быў прыемны адпачынак і ў гушчары. Пастаянная небяспека, нястачы, голад для некаторых былі невыносныя, і начальнікі асобных аддзелаў, нягледзячы на тое, што гэтаму супраціўляўся Урублеўскі, кідалі сваіх партызан на волю лёсу, і самі ўцякалі за мяжу. Начальнік знаў мясціны і вёў нас. Пад вечар сядзелі мы сярод балот і прасек і дзяліліся кавалкам хлеба і крошкамі зялёнага тытуню. Сярод гушчароў, сярод дрыгвы немагчыма было ўбачыць дарогу. Камандзір сказаў, што трэба пачакаць світанку, бо наступіла ноч. Прылеглі мы на балоце. Кожны з нас шукаў больш зручнае месца каля кустоў, каб хоць галаву можна было пакласці трохі вышэй. На світанку нас разбудзілі нечыя воклічы. Гэта былі казакі, якія лавілі коней з начнога. Селянін, які прыйшоўда нас, расказаў, што тут у вёсцы стаяць тры роты маскоўскай пяхоты”.*

Урублеўскі вырашыў аб’яднаць гарадзенскія, берасцейскія і падлесскія аддзелы для зімоўкі на Падлессі, каб захаваць сілы і прадоўжыць змаганне вясной наступнага года. 18 верасня ў Ружанскай пушчы, ва ўрочышчы Туроса Урублеўскі яшчэ раз падзяліў аддзел на групы па 10—30 чалавек і сам застаўся з чатырма дзесяткамі людзей, якія не жадалі спыняць барацьбу.

Нацыянальны ўрад адобрыў план Урублеўскага, прысвоіў яму званне палкоўніка і прызначыў ваенным начальнікам Падлесся, даў паўнамоцтвы фармаваць новыя аддзелы.

Імя няўлоўнага, таленавітага паўстанцкага камандзіра **Урублеўскага** грымела па ўсёй Беларусі і Літве. Камандуючы царскімі войскамі ў Гарадзенскай губерні генерал-маёр Ганецкі, які змяніў Манюкіна, у сваім данясенні ад 2 верасня 1863 года пісаў у Вільню:

*«...у Пружанскім і Ваўкавыскім паветах блукалі ў апошнія часы чатыры шайкі: Улодэка, Млотэка-Стравінскага, Юндзіла і* ***Урублеўскага****, які лічыўся прадвадзіцелем усіх іх...»*

Паўстанцы смела ўступалі ва ўзброеныя сутычкі з царскімі войскамі. Адзін з такіх баёў быў каля вёскі Ласасіна. У рапарце «Аб адшуканні паўстанцкіх аддзелаў і бітвах з імі» пружанскі ваенны начальнік маёр Крэмер пісаў камандуючаму войскамі ў Гарадзенскай губерні З. С. Манюкіну:

*«Прайшоўшы без адпачынку каля 30 вёрст у 3 з паловай гадзіны папоўдні дагнаў шайку Слонімскага павету ў Ружанскай казённай дачы, ва ўчастку Пагарэлае, дзе быў пастаўлены паўстанцамі конны пікет, з якога адзін быў схоплены, а за 3 вярсты ў палосах дрыгвы, у гразкіх непраходных месцах, за невялікім ручайком у густой засені лісцевых дрэў выстаўлены паўстанцамі стралковы ланцуг, некаторыя стралкі сядзелі на дрэвах. Паслаўшы наперад 3-ю стралковую роту ланцуг з трыма паўзвязамі рэзервы 9-й роты, пачаў наступленне. Стралкі, падышлі да варожага ланцуга на адлегласць 50 крокаў, сустрэты былі густой стральбой, а асабліва пры падбадзёрванні паўстанцаў кіраўнікамі шайкі, каб адступаць, між якімі чуваць былі галас: «Панове, храбрэй, іх бардза мала, рота стральцоў, мы іх вшыстка паб’ем.” З намерам выманіць варожых стралкоў, з густога лесу я загадаў свайму ланцугу адступаць. Інсургенты, падбадзёраныя і тым, кінуліся наперад, але былі спынены трапнымі стрэламі нашых стралкоў варожы ланцуг заняў першапачатковую пазіцыю. Не маючы магчымасці выбіць выстраламі іх з пазіцый, я загадаў ісці ў атаку, і стралкі з лютасцю кінуліся ў гушчыню лесу, адкінулі варожы ланцуг, і ён адступаючы бягом, заняў іншую пазіцыю за невялікай палянкай, дзе касінеры спрабавалі спыніць нашых стралкоў, але былі сустрэты трапнымі стрэламі, спяшаючыся, адступілі за свой ланцуг. Раптам пачуліся бакавыя стрэлы, і казацкі ўраднік, падляцеўшы да мяне, заявіў, што вораг робіць абход з левага боку. Умацаваўшы абодва флангі рэзервамі 9-й роты, падаў сігнал наступлення, і паўстанцы пры адступленні рабілі спробы 8 разоў кідацца наперад з крыкамі «ўра», але кожны раз агонь стралкоў і часткі 9-й роты прымушалі іх уцякаць і хавацца ў густым, лесе, а мы пачалі бесперапыннае наступленне.*

*...У 7 гадзін паўстанцы ў беспарадку малымі часткамі ад 3 да 5 чалавек і паасобку пачалі*

*разбягацца ва ўсе бакі, ужо не адказваючы на наш агонь і кідаючы зброю, зусім схаваліся ў непраходнай дрыгве, якая прымыкала з левага боку да возера, за 4 вярсты ад вёскі Ласасіна, таксама і кіраўнікі шайкі паасобку выратаваліся ўцёкамі. Убачыўшы, што зусім дарэмна праследаваць часткі разбітай шайкі, я палічыў патрэбным даць адпачынак і прывесці ў парадак аддзел. Сабраўшы роты, прайшоў 14 вёрст у м. Ружаны, дзе пераначаваў і пахаваў з цырымоніяй забітых ніжніх чыноў...*

*...Страты паўстанцаў павінны быць значнымі, на адным левым крыле налічылі казакі 127 трупаў, сярод забітых — вайсковы лекар Каліноўскі і многія іншыя асобы, якія па выгляду і вопратцы не з простага звання. У паўстанцаў узяты ў палон беластоцкі памешчык Рафаіл Карыцкі. Аддзел гэты каля 700 чалавек пешых і 40 коннікаў складаўся з памешчыкаў, шляхты, чыноўнікаў, мяшчан, гімназістаў Беластоцкай, Гарадзенскай і Свіслацкай гімназій, адстаўных салдат і часткова з дзяржаўных сялян, меў правільную арганізацыю, г. зн. разлічаны на роты. Галоўны кіраўнік інсургентаў і камісар ваяводства Гарадзенскай губерні эмігрант Ануфры Духінскі, адстаўны палкоўнік, які прыбыў з Парыжа»*

Сам Мураўёў-вешальнік непасрэдна сачыў за карнымі аперацыямі па знішчэнні паўстанцкіх аддзелаў на Гарадзеншчыне і загадаў стварыць у Белавежскай пушчы з лясных аб'ездчыкаў спецыяльную групу для пошукаў Урублеўскага. Мураўёў пагражаў лясной варце, якая даўно была на падазрэнні ў царскіх улад, вялікімі карамі, Нягледзячы на гэта, варта не вельмі шчыравала.

Яшчэ 24 красавіка, калі ўладам не было вядома, куды знік начальнік егерскай вучэльні, быў падпісаны загад аб яго звальненні са службы. Калі ж стала вядома пра яго ўдзел у паўстанні, Гарадзенскі ваенны суд завочна 22 жніўня вынес Урублеўскаму смяротны прысуд. *"Былога начальніка Сакольскай вучэльні Валерыяна Урублеўскага, які цяпер хаваецца, за бытнасць спачатку рэвалюцыйным начальнікам Сакольскага павету, а пасля начальнікам шайкі на падставе высачайша зацверджаных правіл 11 траўня 1863 г. і 561-га артыкула і V часткі 1-й кнігі Ваенна-крымінальнага кодэкса — пакараць смерцю праз расстрэл"* — гаварылася ў прысудзе. Аднак улады не ведалі, дзе ў сапраўднасці знаходзіцца Урублеўскі, лічылі, што ён уцёк за мяжу або забіты. У дакладзе Мураўёву гарадзенскага губернатара Бабрынскага ад 30 снежня 1863 г. адзначалася:

*"Урублеўскі, начальнік Сакольскай егерскай вучэльні, паручнік рускай службы. Шайка пад яго камандаю больш дзейнічала ў Беластоцкім, Ваўкавыскім і Пружанскім паветах да самага рассеяння яе ў апошнім, і ён з некалькімі рэшткамі, як кажуць, выйшаў у Берасцейскі павет. Па яго загаду былі здзейснены зладзействы ў Шэрашаве і ў Белавежскай пушчы. Яшчэ будучы ў егерскай вучэльні, ён падгаварыў яго вучняў паступіць у шайку".*

У той час, як некаторыя камандзіры паўстанцаў (Густаў Стравінскі, Ян Калупайла і іншыя) уцяклі за мяжу, Урублеўскі працягваў змаганне. *"Магчымасць уцячы нават не прыходзіла яму ў галаву. І ў баях, дзе храбрасць значыла ўсё, Валер Урублеўскі быў выдатным камандзірам",* — пісаў гісторык паўстання, адзін з яго ўдзельнікаў Браніслаў Ліманоўскі.

Але паўстанне ішло на спад. Летам яшчэ актыўна дзейнічалі аддзелы ў Польшчы. Але паўстанцкі рух у Літве і заходняй Беларусі перажываў свой заняпад. Не маючы сіл дзейнічаць вялікімі аддзеламі, паўстанцы летам 1863 г. пачалі ствараць невялікія конныя групы. Іх мэта і задачы вызначыла спецыяльная інструкцыя. Аддзелы павінны былі весці выведку, знішчаць невялікія падраздзяленні царскіх войск, сродкі сувязі, а таксама «сачыць за аховай грамадскай бяспекі ў акрузе і, у выпадку неабходнасці, быць дапамогай цывільным уладам». Падпарадкоўваліся такія аддзелы мясцовым цывільным уладам.

Нешматлікія конныя аддзелы не былі пагрозай для буйных злучэнняў рускіх войск. У канцы лета Нацыянальны ўрад прызнаў, што працягваць паўстанцкія дзеянні ў заходніх губернях з'яўляецца немэтазгодным. Выканаўчы аддзел атрымаў загад ад 28 жніўня 1863 г. спыніць ваенныя дзеянні дзеля таго, каб падрыхтаваць новае паўстанне вясною наступнага года. Частка паўстанцаў разбілася на невялікія групы, перайшла бліжэй да мяжы і там працягвала змагацца. Але большасць партызан прывілеяванага саслоўя не асмелілася пакінуць родныя мясціны. Яны вярталіся ў свае вёскі і мястэчкі.

Восенню арганізаваная ўзброеная барацьба на тэрыторыі беларускіх паветаў Гарадзенскай губерні спынілася.

Апошні бой Урублеўскага у Гарадзенскай губерні адбыўся 28 кастрычніка, пасля чаго, адцяснены пераважнымі сіламі карнікаў, ён перавёў свае аддзелы ў Люблінскую губерню. Пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага і **В. Урублеўскага** паўстанцы правялі на тэрыторыі Гарадзенскай губерні **58 баёў з карнікамі.**

Стаяла восень, не за гарамі ўжо была цяжкая для партызанскай вайны зіма. Трэба было агледзецца, абдумаць перспектывы далейшай барацьбы.

Нечакана Урублеўскі пакінуў пушчу, каб бліжэй пазнаёміцца са становішчам спраў у ваяводстве, і потым пад чужым іменем выехаў у Варшаву. У яго ўзнік план зімовай канцэнтрацыі ўсіх уцалелых беларускіх груп і аддзелаў за Бугам — у Каралеўстве Польскім. План падтрымаў

Каліноўскі. Трэба было захаваць кадры, каб вясной распачаць новыя дзеянні на Беларусі.

Да зімы як на Беларусі, так і ў Літве паўстанне было задушана. Царскі ўрад, задушыўшы паўстанне, працягваў праводзіць на Беларусі палітыку рэпрэсій і нацыянальнага прыгнёту.

Так, у верасні 1863 года царскімі ўладамі была знішчана **в. Піняжкі.** У прысутнасці мясцовых жыхароў быў прачытаны загад гарадзенскага губернатара аб знішчэнні вёскі і высяленні сялян у расійскія губерніі. Потым вёска была падпалена з усіх бакоў, а яе землі былі перададзены Сухапольскай сялянскай абшчыне.

У навучальных і іншых установах дазвалялася толькі руская мова. Католікам забаранялася на Беларусі і ў Літве набываць маёнткі. На Беларусь накіроўваліся рускія чыноўнікі і памешчыкі. Мясцовыя ўлады рабілі захады, каб абмежаваць уплыў на Беларусі каталіцкага касцёла. Большая частка грошай, атрыманых у Літве і на Беларусі ў выглядзе штрафаў і кантрыбуцый, ішла на будаўніцтва цэркваў і ўтрыманне праваслаўнага духавенства.

Аднак рэвалюцыйная арганізацыя яшчэ існавала. Сваёй галоўнай задачай яна лічыла падрыхтоўку новага паўстання вясною 1864 г.

Для канцэнтрацыі беларускіх паўстанцаў Урублеўскі аблюбаваў Ліпняк на Падлессі — некалькі хат сярод балот і лясоў. Мясціна глухая. Да Беларусі — рукой падаць. І народ тут русіны — амаль такі ж самы, як дзе-небудзь пад Ваўкавыскам і Лідай.

Галоўная думка Урублеускага, піша Арамовіч, — *«аб'яднанне ўсіх літоўскіх (беларускіх) аддзелаў для прадстаўніцтва Літвы ў Кангрэсоўцы (Каралеўстве Польскім) у часе зімовага руху».* Гэта павінна было сведчыць, што Беларусь працягвае змаганне.

Адпаведны загад ляціць у паўстанцкія - групы, што яшчэ трымаліся на Гарадзеншчыне, а таксама тым беларускім паўстанцам, якія ўжо раней перайшлі ў Польшчу.

Прадстаўнік Берасцейскага аддзелу Ягмін, які адправіўся ў новы лагер, успамінаў пазней, што *«сустрэў там мноства незнаёмых асоб, сярод якіх малады чалавек гадоў дваццаці васьмі, дужы брунет сярэдняга росту і моцнага складу, аказаўся самім ваяводам». «Што складала яго славу,—* піша Ягмін пра Урублеўскага,*— гэта майстэрства валодаць зброяй і асабліва трапная стральба... яго партыя (аддзел) асабліва адзначалася трапнасцю стральбы».*

Фармаванне беларускіх паўстанцаў у Ліпняку прыкрываў палкоўнік Крысінскі. Хутка тут утварыўся аддзел пяхоты з 200 чалавек. Камандаванне, па распараджэнні Урублеўскага, прыняў былы афіцэр Багуслаў Эйтмановіч.

З Ліпніка Урублеўскі павёў свае аддзелы ў Люблінскае ваяводства, дзе змагаліся паўстанцы генерала Крука (Міхала Гаўка-Босака). Зноў маршы, пераходы, кароткія адпачынкі, зноў баі з царскімі войскамі. *"Дзеянні Урублеўскага, як магу зразумець, заключаліся ў тым, каб то маршамі, то контрмаршамі адцягнуць увагу рускіх войск і ў выпадку патрэбы дапамагчы Крысінскаму. Таму Урублеўскі быў у пастаянным руху"*, — тлумачыў яго тактыку афіцэр аддзелу Апалінар Радавіцкі.

Урублеўскі стараўся пазбягаць кровапралітных баёў з царскімі войскамі, але гэта не атрымлівалася. Аддзелы Эйтмановіча і Крысінскага 17 лістапада 1863 г. уступілі ў бой з атрадам маёра Грынявіцкага паміж вёскамі Расоша і Ламзана ў Бельскім павеце. Паўстанцы выкарысталі досвед партызанскай барацьбы. Падманлівым адступленнем яны заманілі карнікаў у засаду пад агонь штуцараў. Другая частка паўстанцаў абышла непрыяцеля, ударыла па флангу і вымусіла яго да ўцёкаў. Паўстанцы страцілі 9 чалавек забітымі, а карнікі — 15.

На другі дзень Урублеўскі на чале 200 коннікаў прыбыў да в. Каляны, дзе спыніліся Эйтмановіч і Крысінскі. *"Толькі нашы злезлі з коней, як выведнікі паведамілі, што паказалася маскоўская конніца* (на чале з падпалкоўнікам Квяцінскім). *Палкоўнік Урублеўскі наперадзе, а за ім увесь конны літоўскі (беларускі) аддзел рушылі да пікетаў; адразу ж разгарнуліся перад лесам у ланцуг. Непрыяцель, маючы артылерыю, пачаў сыпаць карцеччу па лесе і адначасова рушыў сваю пяхоту на нашых. Літоўскія коннікі сустрэлі салдат агнём і, адступаючы ў парадку, адстрэльваючыся, павялі салдат за сабой. Польскі і літоўскі пешыя аддзелы стаялі на ўскраіне лесу ў засадзе. Заманіўшы салдат у самую глыб засады, літоўскі конны аддзел адышоў убок, і салдаты апынуліся пад агнём штуцараў нашых пешых аддзелаў. Калі салдаты адступілі, і ўслед рушылі касінеры, на дапамогу сваім падышлі свежыя маскоўскія роты. Таму палкоўнік Крысінскі зняў з пазіцыі ўсю пяхоту і загадаў адступаць, а палкоўнік Урублеўскі з усёй конніцай разгарнуў ціральерскую лінію і прыкрыў адступленне. У парадку наша пяхота павольна адступала па полі, а конніца, разгорнутая ў ціральерскую лінію, ідучы з тылу, беглым агнём стрымлівала непрыяцеля".* Гэта апісанне бою, зробленае яго ўдзельнікам Арамовічам, сведчыць, што паўстанцы авалодалі прыёмамі не толькі партызанскай, але і армейскай тактыкі. Гэта была не шайка, як называлі аддзелы паўстанцаў царскія ўлады, а баяздольная вайсковая сіла, якая на роўных вяла бой з рэгулярнымі царскімі войскамі і нават у некаторых перамагала. Прынамсі, царскі гісторык паўстання Мікалай Берг адзначаў, што баі пад Ламзанамі і Калянамі *"канчаліся на карысць паўстанцаў".* У гэтых баях карнікі

страцілі 60 чалавек забітымі, 16 было ўзята ў палон, а паўстанцаў было 13 забітых і 14 параненых. У той жа вечар Урублеўскі выслаў два эскадроны да в. Кадзенца, дзе яны ўступілі ў перастрэлку з шасцю ротамі царскай пяхоты і казакамі, а пасля вярнуліся на стаянку ў в. Харыстыца. Каб адарвацца ад праследавання, паўстанцы ў ноч з 19 на 20 лістапада здзейснілі марш пад Лоўчу. Але і там іх, знясіленых, чакаў новы бой. Карнікі напалі на стаянку аддзелаў Эйтмановіча і Крысінскага і агнём загналі паўстанцаў у лес. Давялося выкарыстаць правераны прыём: падзяліцца на групы і дзейнічаць самастойна. Урублеўскі рушыў да Старасціна. Пад Гарбовам 26 лістапада яго аддзел сутыкнуўся з двума эскадронамі конніцы і атрадам пяхоты. І на гэты раз Урублеўскі ўзяў на сябе самае небяспечнае — прыкрываў адыход асноўных сіл аддзелу.

Так з баямі Урублеўскі прывёў аддзел у Люблінскае ваяводства, дзе злучыўся з украінскім аддзелам 70-гадовага графа Панінскага. Аб'яднаны аддзел пад камандаваннем Урублеўскага налічваў 400 паўстанцаў. Была ўжо глыбокая восень. Іх даймалі голад і холад. Ды і вораг быў побач. Ноччу паўстанцы не разводзілі вогнішчаў, асцерагаючыся прыцягнуць увагу казачых раз'ездаў.

Кружачы вакол Любліна, конны аддзел Урублеўскага з'яўляўся ў Немцах, Завепшыцах і Ленчнай, сустракаючыся з коннікамі паўстанцкіх генералаў Крука і Валігурскага.

30 снежня — у перадапошні дзень гераічнага 1863 года — аддзел Валерыя пасля цяжкага маршу марознай парой прыбыў у Малую Букову. Здарожаныя, перамёрзлыя коннікі спешыліся і былі гасцінна прыняты ў сядзібе. Нехта сеў за фартэпіяна. Пачуліся гукі мазуркі. Усю ноч не гаслі агні, над ваколіцай не моўклі паўстанцкія песні. Пелі, напэўна, і тую, беларускую — «Ой, у хаце не астацца...»

На золку 31 снежня 1863 г. наляцелі драгуны на чале з падпалкоўнікам Генсам. Нягледзячы на вялікую колькасную перавагу карнікаў, трэба было прымаць бой, каб выратаваць пешы беларускі аддзел, які знаходзіўся паблізу. Урублеўскі каб выратаваць аддзел Эйтмановіча са 146 коннікамі уступіў у бой з непрыяцельскім авангардам. Сярод заснежанага лесу закіпеў бой, які доўжыўся з 6 гадзін раніцы да 4 гадзін дня. Паўстанцы не кінуліся наўцёкі. Яны змагаліся з адчаем асуджаных, здавалася, што яны ў гэтым баі шукаюць геройскай смерці, якая славай пакрые іх імёны. Сутычка была жорсткай. Конніца секлася з конніцай. Пяхота Эйтмановіча ў парадку пасоўвалася да Жыліна, конніца з боем адыходзіла да Волі Верашчынскай. Пасля бою паўстанцы не далічыліся 18 таварышаў, але задача была выканана.

Сілы паўстанцаў убывалі. Урублеўскі разумеў, што паўстанне згасне, але не бачыў для сябе іншага выйсця, як змагацца за свабоду. Яго падтрымлівала ў гэты час ужо не вера ў перамогу, а ўласцівая яму палкая рамантычнасць рыцара свабоды. Здавалася, ён гатовы быў на немагчымае. У той час, калі многія паўстанцкія камандзіры распусцілі свае аддзелы і эмігравалі, калі сам ваенны начальнік Люблінскага і Падляшскага ваяводстваў генерал Крук, спаслаўшыся на хваробу, выехаў за мяжу, *"Урублеўскі працуе над падтрыманнем баявога духу і дысцыпліны ў невялікім сваім аддзеле, іншыя робяць, што ім падабаецца"*, — адзначаў дыктатар паўстання Рамуальд Траўгут. Ён прызначыў Урублеўскага ваенным начальнікам Люблінскага і Падлесскага ваяводстваў, але гэта яго не радавала. *"Трагічна выглядае гэта намінацыя ў хвіліну, калі правадыр сам на чале абадраных і галодных аддзелаў шукае ўжо толькі смерці ў баі"*, — прызнаўся Урублеўскі. Трэба было змагацца, хоць сіл заставалася мала. Загінуў Багуслаў Эйтмановіч, пакінуў свой аддзел Крысінскі, былі разбіты аддзелы Панінскага і Эйтмановіча.

Урублеўскі накіраваў на Падлессе і ў Замойскі павет сваіх камісараў збіраць паўстанцаў з разбітых аддзелаў і фармаваць новыя. Сам з невялікім аддзелам кружыў па Люблінскім ваяводстве. Паўстанцы знаходзілі спачуванне і падтрымку ў мясцовага насельніцтва. *"На працягу шасці месяцаў мы знаходзіліся на Любліншчыне і ўсюды бачылі толькі прыклады самай шчырай зычлівасці і садзейнічання ўсёй народнасці русінскай, а таксама і святарства, і мне не давялося пачуць хоць бы пра адзін выпадак здрады з іх боку"*, — адзначаў Баранцэвіч. У гэтай народнай падтрымцы Урублеўскі чэрпаў сілы для прадаўжэння барацьбы.

І ўсё ж праз шэсць дзён пасля бою пад Малой Буковай галоўная частка беларускай пяхоты была пасечана ў Ядлянцы пад Усцімавым, склаў галаву і яе камандзір Эйтмановіч.

Пасля ад'езду за мяжу хворага Крука камандаванне ўзброенымі сіламі паўстання ў Люблінскім і Падлесскім ваяводствах было даручана палкоўніку Урублеўскаму, але ўжо нічога нельга было зрабіць. Гэта былі апошнія іскры былога пажару.

Паляванне карнікаў на невялікі адзел Урублеўскага працягвалася. 15 студзеня 1864 г. яны напалі на двор Лубак, дзе спыніліся паўстанцы. Урублеўскі вывеў з двара частку аддзелу праз адну браму, а праз другую выйшаў Панінскі са сваімі коннікамі. Карнікі ўварваліся ў двор і ўзяліся рабаваць яго. Гэта выкарысталі паўстанцы, каб адарвацца ад ворага. Панінскі павёў свой аддзел да аўстрыйскай мяжы, а Урублеўскі з аддзелам у 45 коннікаў спыніўся ў Войцахаве.

Раніцай сюды наляцеў атрад кубанскіх казакаў на чале з падпалкоўнікам Зянкісавым. Зноў закіпеў бой. Паўстанцы атакавалі казакаў, і тыя, кінуўшы палонных, былі вымушаны адступіць. Урублеўскі выкарыстаў гэта і адвёў аддзел за раку Вепш. Яшчэ тры дні аддзел блукаў па Люблiншчыне. Начавалі паўстанцы ў маёнтках, а днём былі ў дарозе. Мароз даймаў так, што людзі думалі толькі пра тое, як уратавацца ад яго. Некаторыя злазілі з коней, ішлі пешшу, каб сагрэцца. 19 студзеня каля в. Руды Карыбутаўскія аддзел Урублеўскага дагналі кубанскія казакі Зянкісава, знішчылі ар'ергард, а пасля расправіліся з параненымі, якіх паўстанцы везлі на санях. Урублеўскі, як звычайна, прыкрываў адступленне асноўных сіл свайго аддзелу. З некалькімі паўстанцамі ён сустрэў ворага. Казакі наляцелі на яго. Востры клінок рассек Валерыю правае плячо, два шабельныя ўдары па галаве пазбавілі яго прытомнасці. Урублеўскі ўпаў з каня...

На гэтым канчаецца дзённік Арамовіча.

Пра смерць Урублеўскага ў гэтай сутычцы паведаміла польская газета «Глос вольны», якая выходзіла ў Лондане. Яго імя ёсць у зборніку паўстанцкіх некралогаў «Памятка для польскіх сем'яў» З. Калюмны (кніга выйшла ў Кракаве ў 1868 г.).

Але Урублеўскі не загінуў. Лёс зноў убярог гэтага бясстрашнага чалавека. Беспрытомнага Урублеўскага казакі палічылі забітым. Пасля заканчэння бою яго падабраў мясцовы селянін і перанёс у гумно, ноччу Урублеўскага пераправілі ў маёнтак Завепша, які арандаваў Ксаверы Складоўскі, дзядзька Марыі Складоўскай-Кюры. Там Валерыя схавалі і зрабілі ўсё, каб вырваць яго з лап смерці. Моцны арганізм перамог, хаця да поўнай папраўкі было яшчэ далёка. Навокал гойсалі карнікі, якія дорага б далі за галаву славутага камандзіра. Заставацца ў маёнтку было нсбяспечна, ды і сам Урублеўскі не хацеў наклікаць бяду на людзей, што прытулілі яго. Калі крыху ачуняў, узнік план пераправіць яго ў Галіцыю, якая ўваходзіла тады ў склад Аўстрыі.

За выкананне плана ўзялася маладая сваячка гаспадара Баляслава Складоўская, цётка будучага сусветна вядомага фізіка Марыі Кюры-Складоўскай. Гэта была смелая дзяўчына, якая не раз памагала паўстанцам і лічылася «кур'еркай» (сувязной) паўстанцкай арганізацыі.

Баляслава пераапранула Урублеўскага ў жаночае адзенне і везла яго ў карэце як сваю эканомку. Небяспечная дарога ішла праз усю Люблiншчыну да аўстрыйскай мяжы. Ужо ў самым пачатку адбыўся эпізод, які потым часта ўспамінаў Урублеўскі.

Каб выехаць з павета, трэба было атрымаць пропуск ад царскага вайсковага начальніка. Для гэтага Складоўская з бацькам і пераапранутым Урублеўскім адправілася ў вайсковы лагер. Пакуль бацька афармляў паперы, Баляслава са сваёй занадта рослай, але прыгожай «эканомкай» заставалася ў карэце. Вядо-ма, яны прыцягнулі ўвагу маладых афіцэраў, якія акружылі карэту. Спачатку ішлі звычайныя ў такіх выпадках заляцанні і жарты, потым аднаму з афіцэраў «эканомка» падалася падазронай і ён пачаў яе распытваць. Хвіля была вельмі трывожная. «Я стаў шукаць свой пісталет, — расказваў праз шмат гадоў Урублеўскі,— каб для апошняга свайго суцяшэння размажджэрыць яму лоб, але не мог намацаць кішэні пад спадніцай». На шчасце, у гэты момант пад'ехаў старшы афіцэр, які адагнаў сваіх маладых таварышаў і, нахіліўшыся да паўстанца, шапнуў: «Прывядзіце ў парадак свой твар». Складоўская зірнула на свайго суседа і абмерла: па ягонай шчацэ з незагоенай яшчэ толкам раны цёк тоненькі струменьчык крыві. Да канца жыцця Урублеўскі так і не ведаў, хто быў гэты высакародны афіцэр. «Ці быў гэта паляк або рускі? І ўсё ж я схільны думаць, што гэта быў рускі...» — раздумваў ён пазней.

Урублеўскі гадаў, хто быў той афіцэр. А нашыя гісторыкі гадаюць, хто быў сам Урублеўскі: паляк ці беларус? Можна гадаць, кім быў самы блізкі і давераны паплечнік і сябар Кастуся Каліноўскага, цывільны і вайсковы начальнік Гарадзенскай губерні, які нарадзіўся ў Беларусі, гаварыў і пісаў па беларуску, які нават на тэрыторыі Польшчы камандаваў выключна літоўскімі (беларускімі) аддзеламі і абапіраўся на русінскае (зноў жа беларускае) тутэйшае насельніцтва, але які і ўзначальваў арганізацыю "Люд польскі", і кіраваў польскай секцыяй І Інтэрнацыяналу. Можна гадаць, ці называў Урублеўскі сябе беларусам тады, калі беларусам сябе не называў яшчэ ніхто, калі да прарочых словаў Францішка Багушэвіча: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі", - было яшчэ 30 гадоў. Можна гадаць, кім ён сябе лічыў сам, але відавочна адно: Урублеўскі быў Змагар, а змагацца яму выпала менавіта за Беларусь, прынамсі ў паўстанні 1863-64 гадоў.

***Паводле матэрыялаў Пружанскага метадычнага кабінета, кнігі Генадзя Кісялёва "Сыны і пасынкі Беларусі" ("Арол са зламаным крылом"), артыкулаў Вітаўта Чаропкі "Рыцар свабоды Валерый Урублеўскі" і "Валерый Урублеўскі", апублікаваных у "Беларускім гістарычным часопісе" і "ЛіМе", кнігі "Памяць. Свіслацкі раён." артыкул скампанаваў***

***Станіслаў Суднік.***

# Саджалі ўсе, *або лёс грамадоўца*

***Гэта дакументальная гісторыя пра тое, як феліксаўскі каваль, паднабраўшыся рэвалюцыйных ідэй, захацеў, каб Беларусь стала вольнай дзяржавай, і што з гэтага выйшла.***

**(Да 110 - годдзя з дня нараджэння В. А. Салыгі.)**

**26 верасня 1926 года ў Лідзе адбыўся павятовы з'езд Беларускай сялянска-работніцкай Грамады. У яго працы прынялі ўдзел 100 дэлегатаў. Старшынём абраны Вікенці Антонавіч Салыга.**

Вікенці Антонавіч Салыга нарадзіўся 22 лютага 1896 г. у в. Феліксава, Жалудокскай воласці, Лідскага павету (зараз Лідскі р-н) у сялянскай сям'і. Скончыў тры аддзяленні народнай вучэльні. Навучыўся прафесіі каваля і з'ехаў у Санкт-Пецярбург. Там паступіў на Пуцілаўскі завод, дзе працаваў да жніўня 1914 года. З пачаткам Першай сусветнай вайны быў прызваны ў войска і прызначаны ў Двінскую цвердзь на артылерыйскі склад. Цвердзь была здадзеная немцам без бою, Дзвінскі артылерыйскі склад быў эвакуяваны ў Бранск, з Бранска ў Камышын, з Камышына ў г. Ялец. Першы раз яго пасадзілі ў Яльцы: *" патрапіў у палон да генерала Мамантава, дзён сем сядзеў у турме, збег"*.



***Вікенці Салыга (злева) ў маладосці***

*"У 1919 г вучыўся ў вайсковым тэхнікуме пры Смаленскім палітэхнічным інстытуце. У 1920 г. блізка ад Полацка фармавалі перадавую агнебазу для барацьбы з Пілсудскім. Маім начальнікам быў Іван Іванавіч Сідараў - начальнік забеспячэння Заходняга фронту, былы слесар Пуцілаўскага завода. Пазней служыў у Ржэўскай артбазе справаводам".*

У 1923 г. ад рэвалюцыйнага холаду і голаду вярнуўся да бацькоў у в. Феліксава, пабудаваў сваю кузню і працаваў кавалём. Ажаніўся з Марыяй Антонаўнай.

*"Хлеб ёсць, але жыцця няма".*

Выйсце бачылася барацьбе за свае чалавечыя і нацыянальныя правы. Арганізацыяй, якая найбольш поўна выражала інтарэсы беларускіх сялян у Заходняй Беларусі, была Беларуская сялянска-работніцкая грамада. І Вікенці Салыга, як і многія іншыя, уступае ў Грамаду.

Пачаткам дзейнасці Грамады лічыцца 24 чэрвеня 1925 года, калі дэпутаты польскага сойму Б. Тарашкевіч, С. Рак-Міхайлоўскі, П. Мятла і П. Валошын выйшлі з Беларускага пасольскага клуба і ўтварылі пасольскі клуб Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Жыхары Заходняй Беларусі адразу адчулі, што ў асобе Грамады ствараецца сапраўды народная арганізацыя, якая карэнным чынам адрозніваецца ад іншых партый.

Так у верасні 1925 г. пасольскі клуб Грамады распачаў агітацыю сярод беларускага насельніцтва за падачу адміністрацыйным уладам заяў з патрабаваннем адкрыць беларускія пачатковыя школы. Яна мела значны поспех. "Амаль усе пагалоўна вёскі Нясвіжскага раёна патрабуюць увядзення ў школах беларускай мовы, чаго ўрад не хоча дазволіць, а сяляне ў знак пратэсту не пасылаюць дзяцей у польскія школы"(1). Ужо на студзень 1926 года, нягледзячы на ўсякія перашкоды з боку ўладаў было пададзена 16000 заяў аб адкрыцці 412 школ (2).

Лідчына не засталася ў баку ад грамадоўскага руху. Першае буйное выступленне Грамады ў Лідзе адбылося 1 траўня 1926 года. На першамайскую дэманстрацыю, арганізаваную Грамадой, у Лідзе сабралася 800 чалавек. Да прыкладу ў Берасці на дэманстацыю сабралася больш 1000 чалавек, у Слоніме - 300 чалавек.

Пасля гэтай дэманстрацыі на Лідчыне пачалі стварацца гурткі Грамады. У чэрвені 1926 года былі створаны 4 гурткі (50 сяброў), у ліпені - 5 гурткоў (148 сяброў), у жніўні - 10 гурткоў (243 сябры), у верасні - яшчэ 8 гурткоў (327 сяброў). Усяго на верасень 1926 года на Лідчыне існавала 27 гурткоў Грамады, у якіх налічвалася 768 сяброў (3).

26 верасня 1926 г. у Лідзе адбыўся павятовы

*1. "Чырвоны сцяг", 1925, 30 ліпеня.*

*2. ЦДА Літвы, ф.2, воп. 1, спр. 9, арк. 19. "Народная справа", 1926, 19 чэрвеня.*

*3. ЦДАКР Беларусі, ф. 882, воп. 1, спр. 36, арк. 190, спр. 63, арк. 299.*

з’езд Грамады, на якім прысутнічалі 100 гарадскіх і сельскіх дэлегатаў. Старшынём Лідскага павятовага камітэта Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады быў абраны **Вікенці Антонавіч Салыга**. У склад камітэта ўвайшлі таксама **Мікалай Сарока, Кастусь Мінкевіч, Ян Тубілевіч**.

***Даведка.***

*Я, Сарока Мікалай Васільевіч, член КПСС, партбілет № 0832931. знаю тав. Салыгу Вікенція Антонавіча з 1925 года па сумеснай працы. Тав. Салыга Вікенці Антонавіч быў Старшынём акружнога камітэту “Грамады”, дзе праводзіў актыўную працу сярод насельніцтва, за што быў арыштаваны 15 студзеня 1927 года і асуджаны ў 1928 годзе Віленскім акружным судом на 4 гады турэмнага зняволення.*

*Сарока.”*

*(Даведка заверана 23 траўня 1959 г.)*

Камітэт займаўся распаўсюджваннем нелегальнай літаратуры сярод насельніцтва. Салыга сустракаўся з Мятлой П., Валошыным П. і Рак-Міхайлоўскім С. *“Працу весці было зацяжка, бо некаторых сваіх трэба было асцерагацца”*.

Тым не менш колькасны рост Грамады на Лідчыне працягваўся. У кастрычніку 1926 года ў Лідскім павеце было створана яшчэ 11 гурткоў (397 сяброў), у лістападзе было ўтворана новых 11 гурткоў (613 сяброў). Усяго на 1 снежня 1926 года ў Лідскім павеце дзейнічала 49 гурткоў Грамады з агульнай колькасцю сяброў 1778 чалавек, у тым ліку ў Дроздаве (старшыня Кудла), у Табале, Ганчарах, Бенявічах, Дакудаве, Агародніках. Па звестках на 14 снежня 1926 года ў Лідскім павеце дзейнічалі 52 прадстаўнікі ЦК Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Найбольшай актыўнасцю ў Лідскім павеце ў гэты час адзначаецца дзейнасць **Вікенція Салыгі** і **Кастуся Шымкевіча**. З красавіка па снежань 1926 года дэпутаты клуба Грамады выязджалі ў гарады і мястэчкі краю для правядзення справаздачных мітынгаў. Усяго было праведзена 23 мітынгі, адзін з іх - у Лідзе.

Пасля перавароту Ю. Пілсудскага ў Заходняй Беларусі пачала нарастаць хваля паліцэйскага тэрору. Грамада павяла актыўную барацьбу за амністыю палітзняволеных. Праводзіліся мітынгі і сходы. Польскія ўлады ўсяляк ім супрацьдзейнічалі. Так навагрудскі ваявода забараніў правядзення такіх мітынгаў у вёсках **Збляны і Рачкавічы** Лідскага павету (1).

Нягледзячы на нарастанне паліцэйскага ціску рост шэрагаў Грамады на Лідчыне працягваўся. Так на 10 студзеня 1927 года ў Лідскім павеце колькасць гурткоў Грамады вырасла да 65 (2). На кожны гурток прыпадала ў сярэднім 60 чалавек. Уся Грамада ў гэты час налічвала 117 тысяч чалавек.

Грамадоўскі рух набыў грандыёзныя памеры. 25 лістапада 1926 года Ю. Пілсудскі прыехаў у Вільню і правёў таемную нараду, на якой быў выпрацаваны план разгрому Грамады. Арышты пачаліся ў ноч 15 студзеня 1927 года. У тую ж ноч быў арыштаваны і Вікенці Салыга. Падчас следства сядзеў у Віленскай турме “Лукішкі”. У спісе паліцыі па справе Грамады ад 11.12.1928 значыўся пад нумарам 41 як старшыня Лідскага павятовага камітэту Грамады. Вінавацілі па гэтай справе 102 чалавек, да суда давялі 56. Працэс па справе Беларускай Работніцка-Сялянскай Грамады працягваўся тры месяцы - з 23 лютага па 22 траўня 1928 г.

Пры разглядзе справы Вікенція Салыгі ў судзе на яго абарону выступіў сам Браніслаў Тарашкевіч. Калі паліцыянт Махерскі, даючы паказанні ў якасці сведкі, сказаў, што абвінавачаны В. Салыга гаварыў на мітынгах і сходах аб тым, што няма беларускіх школаў, Б. Тарашкевіч задаў яму пытанне на беларускай мове:

- Дык, на думку сведкі, Салыга не меў права гаварыць, што беларускіх школ няма? (3)

Віленскі акруговы суд “за камуністычную дзейнасць” асудзіў 37 чалавек. Тарашкевіч Б., Рак-Міхайлоўскі С., Валошын П., Мятла П. атрымалі па 12 гадоў, Бурсевіч М. і Акінчыц Ф. - па 8 гадоў, Кузміч І. з Наваградскага павета, Якімовіч М., Шушкевіч У., Паддубік з Гародні, Гелда з Сакольскага павета, Саванец С. з Слонімскага, Куліна-Куліноўскі з Маладзечанскага - 6 гадоў турмы, Патапчук І. з Пружанскага, Сіняк, Якубчык П., Яхімовіч М. і Шатько І. з Слонімскага, Козіч М. з Сакольскага, Лабунька К. з Дзісненскага, Антановіч А. з Вілейскага - 5 гадоў, Гатько Клаўдзія з Наваградскага, Баліцкі Я. з Гародні, Каўпак М. і Кот І. з Пружанскага, Салыга В. з Лідскага, Шчыгельскі С. з Ваўкавыскага, Нікіфароўскі М. і Даніловіч з Дзісненскага, Беламызы М. і Зданюк А. з Сакольского павета - па 4 гады *(у аўтабіяграфіі В. Салыга піша, што быў асуджаны на 6 гадоў)*, Патоцкі А. , Харкевіч. з Ваўкавыскага, Марчук А. з Слонімскага - па 3 гады турмы. Асуджаныя выслухалі прысуд у поўным спакоі. Пасля таго, як суд пакінуў залу, заспявалі гімн “Ад веку мы спалі”. Паліцыя атачыла асуджаных і вывела з залы, увечар усіх пасажырскім цягніком адправілі ў Святакрыжскую турму.

*1. ЦДАКР Беларусі, ф. 882, воп. 1, спр. 63, арк. 11, 13, 16..*
*2. Там жа, ф. 882, воп. 1, спр. 63, арк. 418, спр. 28.*
*3. Там жа, ф. 882, воп. 1, спр. 27, арк. 588.*

Тэрмін В.А. Салыга адбываў у турмах Ліды, Вільні і ва "Вронках" за Познанню.

У 1929 г. у Вільні адбыўся апеляцыйны суд па справе асуджаных дзеячаў і актывістаў Грамады. Разгледзеўшы паўторна справу, суд прызнаў недаказанасць некаторых абвінавачванняў (падрыхтоўка паўстання, захоўванне зброі, шпіянаж), апраўдаў асобных актывістаў, астатнім скараціў тэрмін зняволення да двух, а кіраўнікам да шасці гадоў. Пад змяншэнне тэрміну да двух гадоў трапіў і В. Салыга.

**Архіўная даведка**
**ад 28 кастрычніка 1958 г.**

*У дакументальных матэрыялах архіўнага фонду "Цэнтральны Камітэт Беларускай Рабоча-сялянскай "Грамады" у абвінаваўчым заключэнні па судовай справе кіраўнікоў "Грамады" за 1928 год маюцца звесткі пра тое, што Салыга Вінцэнты (імя па бацьку не ўказана) на падставе артыкула 102 часткі 2-й Крымінальнага Кодэкса Польскай рэспублікі быў прыцягнуты Віленскім Акружным Судом да судовай адказнасці ў 1927-1928 гг. за камуністычную дзейнасць у Лідскім павеце.*

*Падчас следства знаходзіўся ў Віленскай турме "Лукішкі".*

*Прыгавора ў справе няма.*

*ПАДСТАВА: Ф.42, воп.1, с.28.*

*Начальнік Цэнтральнага дзяржархіва*
*Літоўскай ССР Г. Валінскене.*
*Начальнік аддзела І. Ругалайтэ.*

**Даведка ад 27 снежня 1961 г.**

*Інстытут гісторыі Партыі пры ЦК ПОРП на падставе наяўных дадзеных пацвярджае, што тав. Салыга Вікенці Антонавіч быў дзеячам рэвалюцыйнай Беларускай Сялянска- Работніцкай Грамады. За дзейнасць у вышэйпаказанай арганізацыі тав. Салыга В.А. (арыштаваны) у студзені 1927 г. і 23 лютага-22 траўня 1928 г. акруговым судом у Вільні прыгавораны да 4 гадоў турэмнага зняволення з залічэннем да тэрміну пакарання 14 месяцаў папярэдняга арышту. Апеляцыйны суд у Вільні 28 лютага-16 сакавіка 1929 года зменшыў тэрмін пакарання да 2 гадоў турэмнага зняволення з залічэннем да тэрміну пакарання 14 месяцаў папярэдняга арышту...*

*За Дырэктары Інстытута Гісторыі Партыі пры ЦК ПОРП Г. Ціхоцкая.*

Пасля адбыцця зняволення з 1930 па 1939 г. працаваў кавалём, *"не забываў і агітацыі, за што часта падвяргаўся арыштам і пабоям".*

У верасні 1939 г. прызначаны старшынём Лябёдскага валаснога выканкаму.

*Гр-ну Салыга Вікенцію Антонавічу*
*в. Феліксава, Лідскі р-н,*
*Гродзенскай вобласці*

*На Вашую заяву паведамляем, што дакументальных матэрыялаў Шчучынскага райвыканкаму і Лябёдскага валвыканкаму за 1939-1940 гг. на захоўванні ў архіве няма, з-за гэтага пацвердзіць Ваш стаж працы старшынём Лябёдскага валвыканкаму за ўказаныя годы не з'яўляецца магчымым.*

*Начальнік аблдзяржархіву А. Плешавеня.*
*Заг. стала даведак Веташкіна.*

Пазней працаваў старшынём Мала-Мажэйкаўскага сельсавета.

**Даведка ад 11 кастрычніка 1962 г.**

*Дадзена гр-ну Салыгу Вікенцію Антонавічу 1896 года нараджэння, урадж. в. Феліксава Жалудокскага раёна Гродзенскай вобласці ў тым, што ён да дня яго арышту 26 красавіка 1940 года працаваў старшынём Мала-Мажэйкаўскага с/савета Жалудокскага раёна Гродзенскай вобласці...*

*Начальнік падраздзялення УКДБ пры*
*СМ БССР па Гродзенскай вобл. Дайкоў.*

21 красавіка 1940 г. Вікенці Салыга быў арыштаваны Жалудокскім НКУС.

Асуджаны 28 жніўня 1940 г. і вывезены ў Архангельскую вобласць.

У месцах пазбаўлення волі знаходзіўся да 3 верасня 1941 г.

**Даведка**

*Выдадзена гр-ну Салыгу Вікенцію Антонавічу, 1896 года нараджэння ў тым, што ён знаходзіўся ў месцах пазбаўлення волі з 21 красавіка 1940 года па 3 верасня 1941 года.*

*Падстава:*

*Архіўная справа № П-7663 арк. 3 т. I і арк. 15 т. II, якая захоўваецца ў УКДБ Гродзенскай вобл.*

*Даведку склаў: супрацоўнік УААП*
*Гродзенскай аблвыканкаму Іўлеў.*
*Начальнік аддзела УААП*
*Гродзенскага аблвыканкаму*
*Палосін.*

Справа, па якой быў асуджаны В.А. Салыга, па яго меркаванні звязана з нагаворам ворагаў народа, быццам бы ён быў афіцэрам царскага войска.

Праз 22 гады - 24 ліпеня 1962 г. пастановай адмысловай нарады Вярхоўнага суда БССР па дадзенай справе ён быў рэабілітаваны "за адсутнасцю складу злачынства".

*Салыгу Вікенцію Антонавічу*
*Гродзенская вобласць, Лідскі*
*раён, в. Феліксава*

*Паведамляю, што вашая скарга пра-верана. Справа, па якой Вы былі асуджаны ў 1940 годзе, вызначэннем Вярхоўнага Суда БССР ад 24 ліпеня 1968 года вытворчасцю спынена за адсутнасцю складу злачынства.*

*Даведка пра спыненне справы Вам будзе выслана Вярхоўным судом БССР.*

*Пам. Пракурора Беларускай ССР*
*Па нагляду за следствам у органах*
*дзяржбяспекі, дарадца юстыцыі*
*П. Юрэль.*

***Даведка ад 26.07.1962 г***

*Справа па абвінавачванні Салыгі Вікенція Антонавіча, 1896 года нараджэння, перагледзена Вярхоўным судом БССР 24 ліпеня 1962 г. Пастанову Адмысловай Нарады ад 28 жніўня 1940 г. у адносінах Салыгі Вікенція Антонавіча адменена, і справа за адсутнасцю складу злачын-ства спынена.*

*Салыга В.А. рэабілітаваны па гэтай справе.*

*Старшыня Вярхоўнага*
*суда БССР С. Шардыка.*

Пасля заключэння дамовы савецкага ўраду з генералам Сікорскім Вікенці Салыга быў накіраваны ў польскую армію Андэрса, якая фармавалася ў Савецкім Саюзе. Прывезлі ў Тацішчава Саратаўскай вобласці, там ён быў прызначаны ў 5-ю красовую дывізію.

*"У Іраку быў апазнаны былымі польскімі стральцамі, арыштаваны польскім камандаваннем і аддадзены пад ваенна-палявы суд, за тое, што ў 1939-40 гг. актыўна дапамагаў усталяванню савецкай улады. Суд прысудзіў 3 гады і 6 месяцаў зняволення, але пры перавозцы з Ірака праз Іран у Палестыну ў г. Лятрунь у Тэгеране збег ад варты".*

З даведкі № 41/43 ад 9 студзеня 1943 г. камандавання Папаўнення №3 на Ўсходзе падпісанай маёрам Дмоўскім, выцякае, што Вінцэнты Салыга быў вызвалены ад вайсковага абавязку на аснове артыкула 10 пункт "с", як той, які меў прысуд аб пазбаўленні волі ў 1928 г. У даведцы пазначана, што пасольствам Рэчыпаспалітай Польскай у Тэгеране яму быў выдадзены польскі пашпарт № 14409.

У даведцы ад вайсковага аташэ Польскай Народнай Рэспублікі, выдадзенай 21.06.1960 г. гаворыцца тое ж што і ў даведцы з пасольства, пра ваенна-палявы суд не згадваецца.



***Даведка з польскай амбасады ў Тэгеране***

*Гр-ну Салыгу Вікенцію Антонавічу*
*БССР, Гродзенская вобласць,*
*г. Ліда, вуліца Савецкая, дом № 7.*

*Вяртаючы Ваш ліст ад 27.II.1960 года, перасланы ў Міністэрства Нацыянальнай Абароны ПНР з просьбай аб тлумачэнні арт. 10 пункта "ц" Закона ад 9 красавіка 1938 года аб усеагульнай вайсковай павіннасці паведамляю наступнае.*

*Згодна з высвятленнем Прававога Бюро Міністэрства Нацыянальнай Абароны ПНР арт. 10 пункт "ц" гаворыць:*

*"арт. 10 - Ад усеагульнай вайсковай павіннасці вызваляюцца...*

*ц/ асобы, звольненыя з войска, вайскова-марскога флоту або выдаленыя з афіцэрскага корпусу па рашэнні ці ў выніку судовага прыгавору з моманту ўступлення прыгавору ў законную сілу".*

*З прыкладзенай да Вашага ліста даведкі № 41/43 камандавання Папаўнення № 3 на Усходзе, можна меркаваць, што прычынай звальнення Вас з войска паслужыў прыгавор аб пазбаўленні волі...*

*Вайсковы аташэ пры пасольстве*
*Польскай Народнай Рэспублікі*
*генерал брыгады Ф. Мруз.*

Наступныя 14 гадоў Вікенці Салыга пражыў у Тэгеране, працаваў у розных майстэрнях. З 8 жніўня 1943 г па 2 верасня 1944 г працаваў слесарам у іранскай кампаніі Шкода. *"У працяг усяго тэрміна сваёй службы нёс яе да нашага поўнага задавальнення і пакідае службу па сваім жаданні, вольны ад якіх -альбо абавязальніцтваў перад намі".*

З кастрычніка 1944 г. па кастрычнік 1948 г. працаваў майстрам рамонтных майстэрняў

кулямётных заводаў у Тэгеране з месячным акладам 3600 рыалаў і па 28 кастрычніка 1949 г. - рабочым-электрыкам на фабрыцы па вытворчасці кулямётаў і вайсковага абсталявання.





***Вікенці Салыга ў Тэгеране***

*Вайсковае міністэрства,*
*Дэпартамент,*
*Аддзел*
*№6887*
*13.8.1327 г. /4 лістапада 1948 г./*

***Сведчыцца, што***

*Слесар № 7718 Вікенсі Салыга (так у дакуменце) згодна з загадам № 140 /пар. 3 … частка/ З 3.8.1323 г. з месячным акладам жалавання 3600 рыалаў, - быў прыняты на службу ў якасці майстра рамонтных майстэрняў нашых заводаў. 5.8.1327 года закончылася яго служба. Яго праца і паводзіны былі здавальняльнымі*

*Памочнік дырэктара і загадчык тэхнічнай часткі кулямётных заводаў*
*Палкоўнік - інжынер Парвіз.*
*Галоўны інжынер заводаў*
*Інжынер Жазеф Філа.*
*Дырэктар кулямётных заводаў*
*Палкоўнік Валі.*

***Даведка аб працы іншаземнага майстра Вікенція Салыгі.***

*Згаданая вышэй асоба працавала з 26 верасня 1945 года па 28 кастрычніка 1949 года ў якасці рабочага электрыка. Ён з'яўляецца савецкім грамадзянінам. Атрымоўваў вайсковае абмундзіраванне...*



***Даведка з Ірана***

Як відно з даведкі В. Салыга атрымаў у Іране савецкае грамадзянства. Мабыць вырашыў, што ў Польшчы яго нічога добрага не чакае.

З 1952 г. Вікенці Салыга працаваў у прыватнай майстэрні: *"Быў адным з лепшых майстроў маёй майстэрні і заслужыў маё задавальненне і хвалу."*

У жніўні 1957 г. праз рэпатрыяцыйную камісію ў Баку вярнуўся на радзіму ў в. Феліксава. Дочкі замужам, адна ў Прыморскім краі, другая - у Мастах, сын памёр. Каля года прапрацаваў у калгасе "Шлях да камунізму" кавалём, але *"на гэтую працу здароўе не дазваляла, і таму калгас пакінуў"*. У 1957 г. выпрацаваў 169

працадзён: верасень - 25 працадзён, кастрычнік -42, лістапад -30,5, снежань - 31,5. У 1958 г. выпрацаваў 132 працадні. Устаноўлены мінімум 250 працадзён.

4 снежня 1957 г. у Жалудокскім РАМ атрымаў пашпарт і неўзабаве перабраўся ў Ліду, дзе жыў у Новым завулку дом 10. З 4 снежня 1958 г. па 21 жніўня 1959 г працаваў на дамоўных пачатках сталяром пры Лідскім гарнізонным доме афіцэраў. Заробак яго вагаўся ў межах ад 75 рублёў у снежні 1958 г. да 15 руб. 32 кап. у чэрвені 1959 г.

У 65-гадовым узросце адзінокі Вікенці Салыга вырашыў выстарацца ў савецкай улады пенсіі па старасці і інваліднасці. Але гэта ака-



***Вікенці Салыга ў Феліксаве пасля вяртання з Ірана***

залася практычна немагчымым. Гарадзенскі абласны аддзел сацыяльнага забеспячэння налічыў яму ўсяго 8 гадоў 11 месяцаў і 6 дзён працоўнага стажу.

У жніўні 1962 г. Міністэрства сацыяльнага забеспячэння Беларускай ССР налічыла ў В. Салыгі стаж працы 10 гадоў, 10 месяцаў, 23 дні / *час знаходжання ў турме пры польскім буржуазным урадзе з 1928 па 1930 г., праца ў Тэгеране з 1945 г. па 1949 год і з 1952 года па 1957 год*/ і адмовіла ў прызначэнні яму пенсіі па старасці і інваліднасці, бо ён не мае *"неабходнага для прызначэння пенсіі стажу працы па найму. ... Час службы ў Царскім і Польскім войску з 1915 па 1921 г., праца ў якасці члена калгаса з 1957 па 1958 г., у якасці сталяра ў Лідскім доме афіцэраў у 1959 г. па дамове падраду і ва ўласнай кузні з 1923 па 1927 год і з 1930 г па 1939 год, паводле дзейнага заканадаўства, у стаж для прызначэння пенсіі не залічваюцца".*

Аднак Міністэрства сацыяльнага забеспячэння Беларускай ССР рэкамендавала Лідскаму раённаму аддзелу сацыяльнага забеспячэння *"улічваючы матэрыяльныае становішча тав. Салыгі... унесці на разгляд райвыканкаму пытанне аб прызначэнні яму дапамогі як былому члену калгаса, землі якога перададзены саўгасу або пры яго згодзе вырашыць пытанне аб памяшчэнні яго ў дом састарэлых на поўнае дзяржаўнае забеспячэнне".*

Апошнія дваццаць гадоў жыцця правёў у дамах састарэлых. У кастрычніку 1962 г. па рашэнні аблвыканкаму быў вызначаны ў Барысаўскі дом - інтэрнат. У 1966 г жыў у Смаргоньскім доме інвалідаў "Залессе", у 1968 г. - у Казлоўшчынскім доме ветэранаў працы і састарэлых. З 8 кастрычніка 1971 г. нахадзіўся на дзяржаўным забеспячэнні ў Лідскім доме - інтэрнаце для састарэлых і інвалідаў. З характарыстыкі: *"Зарэкамендаваў сябе з станоўчага боку. Пісьменны таварыш, шмат чытае мастацкай літаратуры, газет і часопісаў. Па сваім перакананні атэіст, праводзіць атэістычную працу сярод забяспечваных і абслуговага персаналу. Правільна разумее знешнюю і ўнутраную палітыку партыі і савецкага ўраду, правільна растлумачвае іншым. Па сваім старэчым веку і стану здароўя не прымае ўдзелу ў грамадскакарыснай працы дома-інтэрната."*



***Адзін з апошніх здымкаў В. Салыгі***

У 1974 г. выканкам абласнога Савета дэпутатаў разгледзеў хадайніцтва Лідскага раённага Савета дэпутатаў аб прызначэнні Салыгу В. А. персанальнай пенсіі і адмовіў.

Памёр былы старшыня Лідскага павятовага камітэту "Грамады" Вікенці Салыга ў 1983 г., пражыўшы 87 гадоў. Згадваецца ў "Гістарычнай энцыклапедыі Беларусі" у томе першым на стар. 416.

*Паводле асабістай справы В. Салыгі, якая захоўваецца ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі і кнігі У.А. Палуяна "Беларуская сялянска-рабочая грамада" ("Навука і тэхніка", Мінск, 1967) матэрыял падрыхтавалі да друку*

***Валеры Сліўкін, Станіслаў Суднік.***

# Мастацтва пачынаецца з агню

## 75 гадоў з дня нараджэння Ўладзіміра Мурахвера



*Ёсць таленты, якія згараюць як запалка, шуганулі і зніклі, ёсць як свечка - доўга і роўна гараць, а ёсць такія дзіўныя творчыя асобы, якія разгараюцца ўсё ярчэй і ярчэй і здаецца, што няма меж іх здольнасцям і талентам. Уладзімір Сямёнавіч Мурахвер - з такіх дзіўных талентаў - незгасальных па меры старэння.*

*З 1960 г удзельнічаў у шматлікіх выставах. Член Саюза мастакоў БССР (1964). Персанальныя выставы ў Маскве, Ленінградзе, Менску. Творы экспанаваліся ў Нямеччыне, Вугоршчыне, Чэхаславакіі, Даніі. У 1979 г. на выставе шкла і парцаляну ў г. Яблонец на Нісе (ЧССР) узнагароджаны залатым медалём за камплект дэкаратыўных вазаў. "Заслужаны дзеяч мастацтваў БССР" (1990). За сваю працу ўзнагароджаны 10 медалямі ВДНГ, дзвюмя Ганаровымі Граматамі Вярхоўнага Савета БССР і Срэбным медалём Мастацкай Акадэміі СССР. Мастацкія карціны - Януш Корчак, Мейерхольд, графіка. У 72 годзе - Ефрасіння Полац-кая. У 73 годзе - клязмеры (5 невялікіх унікальных работаў). Высо-каадукаваны інтэлігент, падзвіжнік, вельмі адораны і знакаміты ў вобласці мастацкага шкла, графік са сваім тварам, мастак-манументаліст. З'ява ў лідскай прамысловай і творчай гісторыі.*

*Пра яго пісалі ў кнігах і часопісах: Рожанковский В.Ф. Стекло и художник. // М. «Наука», 1971, снимки 51,70. Glass review. Vol. XXXIV (Чехословакия). - декоративные вазы. № 12. 1979, с. 7,12. Сурский О. Пластика неманского стекла. «Декоративное искусство СССР» № 7 1982, с.2-5. «Neuvostolittlaista lasia - aine ja tuoto» 1984, с.27,41. Воронов Н. Людмила Мягкова и Владимир Мурахвер. // «Декоративное искусство СССР» № 12 1989 с.17-20. Neues glas № 3 1990 с. 243. Glasmuseet. 1996 с. Х.*

*На Менскай выставе 2002 года, нараўне з работамі з шкла, выстаўляліся графіка і жывапіс - тое, чым займаўся Ўладзімір Сямёнавіч у вольны час. Водгукі наведвальнікаў выставы- гэта водгукі душ звернутых да Вялікага Мастака. Гэта зрэз чалавечага ўспрымання, дзеля гэтага ён працаваў, дзеля гэтага ён тварыў.*

*"Прасунутая" моладзь выказвалася ў сваім стылі: "Гэта стромка! - Мы тут патусаваліся. - Нас прыкальнулі чакушкі, бутлі, стапары! - Вы класны мастак. - Ваша выстава - супер! - Наогул, кайф."*

*Выхаваныя школьнікі захапляліся выхавана: "Нам вельмі спадабалася ваша выстава. - Дзякуй вам за вашы карціны! - Вас не забудзем. - Вашы карціны вельмі дзівосныя. - Жадаю, каб так было заўсёды на ўсіх выставах. - Велізарнае дзякуй, што ёсць такія таленавітыя людзі. - Усе вашы экспанаты былі проста выдатныя. - Працы прыгожыя і загадкавыя".*

*Замежныя студэнты і турысты захапляліся на сваіх мовах:*

*"Мы вельмі захопленыя не толькі Вашымі карцінамі, але і тэхнікай вырабу кампазіцый з шкла (іерогліфамі японцы). -Bardzo ciekawe. Specjelne podziakowania za Korczaka" (палякі).*

*Тэхнары і вайскоўцы адзначаліся каротка: "Суцэльна, ёміста, хараша! Брава!-Вельмі таленавіта, выдатна! Захапленне!!! і Майстэрства!!! - Захопленая да слёзаў. - Я узрушаная!- Нічога падобнага яшчэ не бачыла.-Бясконца вам удзячная. - Мяне ўразіла ваша выстава. Яна закранула маё сэрца!— Усё выдатна: выдатныя ідэі, выдатна рэалізаваныя."*

*Творчая інтэлігенцыя карысталася вытанчаным складам: "Тут лунае ў паветры водар творчасці.- Вашы работы сваёй праўдзівай жыццёвай устаноўкай і прасякнутыя глыбокім духоўным пачаткам зрабілі на мяне радаснае ўражанне.- Цудоўныя імгненні радасці. Дзівіць вытанчаная і выразная манера выканання работ.- Уваскрашэнне ў душы лепшых пачуццяў. - Жывапіс насычаная агнём нёманскіх печаў і вашай душы. -Вашы шкляныя постаці жывыя - у гэтай зале ўзіраюцца на нас з усіх бакоў.- У вашых работах дзівіць мудрагелістая пластыка, гульня матэрыялу.-Гэтае адкрыццё, якое назаўсёды застанецца з намі. -Вашы работы натхняюць, ваш талент не ведае меж. - Проста адпачываеш душой гледзячы на вашы творы.- Пышныя работы, мора фантазіі. -Мяне перапаўняюць радасць і гонар і шчасце, што я знаёмая з вамі.- Работы з шкла як выдатная музыка, застылая ў гуках і акордах, патэтычных і далікатных, журботных і імклівых".*

*Выказванні тыпу "Вы - проста геній" я апусціў.*

*А гэта галоўныя суддзі, прафесіяналы- мастакі: "Я узрушаны тваёй выставай. Малайчына! Ты - гэта нацыянальны мастак!!!- Вельмі радая, што да Вашай выдатнай несуцішнай фантазіі ў шкле дадаўся вельмі тэмпераментны і насычаны агнём Нёманскіх печаў і Вашай душы, жывапіс. -Радыя, што Ваш талент з гадамі становіцца ўсё ярчэй! "*

***Валер Сліўкін.***

# Уладзімір Сямёнавіч Мурахвер пра сябе і калегаў

Нарадзіўся я 5 снежня 1931 г. у г. Ананьеве Цярэспальскай вобласці, а пасля далучэння Бесарабіі да СССР - Адэскай вобласці.

Бацька мой, Сямён Навумавіч Мурахвер 1908 г.р настаўнік фізікі і матэматыкі не быў у партыі, не прынялі з-за “дробнабуржуазнага паходжання”, яго бацька быў эканомам у абшарніка. Бацька вельмі хваляваўся, як распавядала мама, нават хацеў рукі на сябе накласці, яшчэ б, не ўпускаюць у лепшы свет, як жыць пасля гэтага? Бацька дабраахвотнікам пайшоў на фронт, стварaліся такія знішчальныя батальёны з неабучаных і бяззбройных - на аддзяленне адна трохлінейка, іх выракалі на абавязковае знішчэнне загадзя.

Мая мама, Коган Сара Аронаўна, 1908 г.н., настаўніца гісторыі, літаратуры, камуністка. У мамы маёй было камсамольскае юнацтва і вера, што мы будуем новае, незвычайнае і самае лепшае з таго, што было дагэтуль, і галоўнае, што гэта было навукова абгрунтавана. Што мая мама? Такія людзі, як Фейхтвангер, Рамэн Ралан, А. Франс, Пікасо, верылі. Калі я ў 70 г. прынёс у хату біблію на рускай мове (іншай да сораму не ведаю) страшна спалохалася: “Вынесі, нікому не паказвай”.

Калі пачалася вайна маці нас здала ў дзіцячы дом і сама ўладкавалася выхавальніцай.

У Ананьеве было дзіцяччае мястэчка - цэлая група дзіцячых хатаў. З намі былі яшчэ нашы дзядуля і бабуля. З нашымі клункамі мы займалі цэлы воз. На трэці дзень у нас укралі ўсе дакументы і грошы. Якія маглі быць грошы ў настаўнікаў савецкіх ? Гэта зразумела, але ўсё ж.

Дзядуля па мамчынай лініі ў мяне быў вельмі каларытны. Невялікі, лысы, з бяльмом на воку. Ён быў пралетар і жудасна гэтым ганарыўся - не шпекулянт які-небудзь, а пекар па прафесіі. Шумны, шабутны, гаварыў, што некалі да рэвалюцыі працаваў у адной пякарні з Горкім. Прыдумаў, або не, не ведаю. Ён не ўмеў распісацца, ставіў крыжык заміж подпісу, або выводзіў КОГАН. Страшна пацеў пры гэтым і відаць было, як яму цяжка даецца. Памёр ён у веку 56 гадоў, як тады гаварылі, ад грудной жабы.

Немцы падыходзілі да Паўночнага Каўказу, і мы ўсім дзіцячым мястэчкам на “пяцьсот вясёлым” - так звалі таварныя вагоны- месяц або больш ехалі ў Ташкент.

Зіма 1941 г. для Ўзбекістана была на дзіва суровай да 20 градусаў марозу. У мяне пачалася пілагра, апухалі ногі і гнілі пальцы ног. Мацеры ўдалося перавесці мяне з 6-га дзіцячага дома ў 7-мы. Гэта Сімферопальскі дзіцячы дом, іх не расфармоўвалі, як нас, выхавальнікі былі вельмі добрыя, прыстойныя людзі, яны не абкрадалі дзяцей. Пасля канчатка вайны яны ўсім дзіцячым домом вярнуліся ў Сімферопаль.

Я застаўся з мамай, яна да гэтага часу ўжо працавала ў школе на двух стаўках, каб неяк нас пракарміць. Акрамя мяне, быў старэйшы брат Навум 1929 г. н., Толік, названы ў гонар Луначарскага, 1935 г.н. і Жэня - быў потым акцёрам і рэжысёрам тэатра паэтычнага слова. Жэня і Толя памерлі, пахаваныя на Бярозаўскіх могілках. Спачатку Толя ў 27 гадоў, потым Жэня, таксама ў 27 ад цырозу печані абодва не п’яніцы, гэта пасля жаўтухі ў Ташкенце.

У 1948 г. я паступіў у мастацкі тэхнікум імя П.П. Бянькова. 5 гадоў адвучыўся. Потым 6 гадоў у ЛВХПВ - Ленінградскай Вышэйшай Мастацкай Прамысловай вучэльні імя Мухінай. Яна добры мастак, але ўсё зрабіў барон Штыгліц. На свае крэўныя пабудаваў пышны будынак - палац у стылі мадэрн канца Х1Х стагоддзя, майстэрні, набыў унікальную бібліятэку. Заклікаў выкладчыкаў адкуль мог, лепшых, усё гэта ўтрымоўваў і аплачваў.

Настаўнікам нашым быў з 1953 г. Смірноў Барыс Аляксандравіч. Я потым бываў у іх у доме, які некалі прыналежаў яго жонцы Ніне Васільеўне, дакладней яе бацьку царскаму генералу. Нельга ёй было вучыцца ў ВНУ, яна была “лишенкой” ( пазбаўленай правоў). Цешча Б.А. жартавала: “Мы з недабітых буржуяў”. Б.А. вучыў нас не толькі рамяству, і ўменню прыдумляць, адчуваць матэрыял, але і сваім спосабам існавання ў жыцці і мастацтве, быў і застаўся недасягальным прыкладам для тых, хто ўмеў і жадаў яго разумець. Адукацыя ў Б.А. было архітэктурнае, жыццё аднак склалася так, што яму прыйшлося займацца і шклом. Акрамя гэтага ён рабіў праекты афармлення розных выстаў, вольна, як бы гуляючы, маляваў і так адчуваў шкло, як ніхто, праектаваў і рабіў керамічныя рэчы, метал, тэкстыль. Разам з Мухінай, акадэмікам Качалавым, тэхнолагам Эктэлісам яны пасля вайны аднаўлялі Ленінградскі завод мастацкага шкла.

На другім курсе факультэта шкла і керамікі мы з Л.М. Мягковай пажаніліся і ў нас нарадзіўся сын. Людміла Міхайлаўна да Мухінскай скончыла Таўрычаскую мастацкую вучэльню. Нарадзілася ў Ленінградзе ў 1929 г. Страшны год блакады перажыла ў горадзе, пакуль не адкрылася “дарога жыцця”. Маці яе Ганна Нічыпараўна Павутава была белашвачкай да рэвалюцыі, потым шорнікам на заводзе - рукі дрыжалі, тонкую працу рабіць ужо не магла. Бацька Міхаіл Міхайлавіч Мягкоў быў выдатным токарам.

Па рэкамендацыі Смірнова Б.А. мы ў 1958 г. былі на практыцы на ш/з “Нёман”. Пасёлак нам спадабаўся, усяго 3 тысячы жыхароў. Лес побач. Вітаюцца незнаёмыя дзеці, нам усё гэта

спадабалася так, што мы ў 1959 г. прыехалі на "Нёман" назаўжды. На завод з навакольных вёсак прыязджалі на роварах, нас уразіла іх колькасць. Быў утульны пасёлачак - усяго 1000 рабочых, і з экалогіяй усё было ў норме. Як шкло зварыцца, гудзе гудок, печы былі перыядычнага дзеяння, зварылі - выпрацавалі.

Гавораць: "Шчасце адных будуецца на няшчасці іншых". Нам, прыкладнікам пашанцавала - як раз у гэты час Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў і іжа з ім "разбіраліся" з абстракцыяністамі, як з буржуазным мастацтвам, шукалі і знаходзілі яго ўсюды. А мы, дакладней наша дзейнасць звязаная з побытам, утылітарным спажываннем, з вытворчасцю - гэта не абстракцыя якая-небудзь-гэта і трэба заахвочваць, вырашылі яны.

Прыадчыніўся жалезная заслона і нашы кіраўнікі раптам выявілі, што мы вельмі адсталі ў знешнім афармленні рэчаў, бытавых, звязаных інтэр'ерам, з новай мэбляй, якой у нас таксама не было. Краіна ж развівала групу А, а Б як-небудзь сама атрымаецца, ды і не важна гэта. Была б краіна родная і няма іншых клопатаў. А тут раптам высвятляецца, што гнілы капіталізм, які вось-вось хутка абрушыцца абагнаў у гэтай справе нас назаўжды. У гэты час для мяне, прынамсі, упершыню прагучалі словы дызайн, дызайнер-мастак прамысловасці, стыль-дызайн. І як звычайна воз паставілі паперадзе каня. Там, у іх, у грамадстве спажывання новыя рэчы: машыны, мэбля, шкло, метал, кераміка і г.д., неабходнасць мяняць моду і думаць аб выгадзе і інш. выклікана вытворчай канкурэнцыяй, жаданнем прадаць, дагадзіць, спадабацца, у тым ліку і коштам, г. зн, усё, што дыктуецца патрэбнасцю самога жыцця, у нас укаранялася зверху. Вось партыя і вырашыла, што нам патрэбен сучасны дызайн, гэта ў краіне вечных дэфіцытаў на ўсё.

Апошні рэцыдыў быў, калі Раіса Максімаўна, вядома выбітная з усіх жонак генсекаў, царства ёй нябеснае, вырашыла ўзначаліць яшчэ адну важную камісію па заахвочванні дызайнерскіх распачынанняў і ўкараненні іх у жыццё.

Вось гэтыя ўсе ВДНГ і "Верцялішкі" павінны былі прадэманстраваць, невядома каму толькі, якое ў нас выдатнае будзе жыццё гадоў гэтак... Чамусьці не атрымалася. І мэта кудысьці знікла. Уначы (насупраць першай прахадной завода, дыхтоўна, на каркасе з металу выразна і буйна было напісана "Наша мэта - камунізм" І куды мэта знікла?

Дызайн як стыль у нас быў мёртванароджаным дзіцём. У нашым аддзеле, акрамя мастакоў была брыгада ў гуце 7 чалавек і брыгада апрацоўкі 5 чалавек. Затое была магчымасць нам папрацаваць, і адміністрацыя ішла на гэта. Было зроблена шмат дэкаратыўных, студыйных рэчаў і рэчаў, якія мы б жадалі запусціць у вытворчасць. Нельга сказаць, каб зусім так не ўкаранялася нічога з таго, што мы прапаноўвалі да масавага выпуску. Мы паказвалі гэта на саюзных і рэспубліканскіх радах і выставах. Гэта і стварыла нам адпаведную рэпутацыю. Прыходзілася часцяком ісці на кампраміс. Мастакоў было спачатку 3, мы з Мягковай і Яўген Гладкоў. Потым з'явілася Сільва Раўдвеэ. Пасля высылкі ў Сібір яна скончыла інстытут у Таліне і працавала на шклозаводзе "Нёман" гадоў 15. Гэта было выдатнае набыццё для завода. Яна - працаўнік, таленавітая, вельмі прадукцыйная, талковая і кантактабельная, свая баба. Потым з'явілася Валя Дзивинская, выпускніца Мухінскай - яна адчувала і разумела шкло лепш за нас усіх. У 2000 г. памерла ад раку ў Ленінградзе - царства ёй нябеснае, папрацавала на заводзе мала, але як! Валодзя Жохаў - таксама ленінградзец, выдатны рысовальшчык. Потым яшчэ была Керсці Вакс таксама з Таліна, а потым адмыслоўцаў пачаў выпускаць Менскі інстытут. У нас працавалі Таня Малышава і Воля Сазыкіна. Воля як мастак наймацнейшай была, зараз яна загадвае кафедрай шкла ў Менску ў Акадэміі. Сільва з вялікай аддачай працавала, але яна ніколі не пакідала думкі вярнуцца ў Талін. За час працы на заводзе яна зрабіла каля 5 персанальных выстаў у Таліне і, калі вярнулася туды праз 15 гадоў, яе адразу зрабілі старшынёй прыкладнай секцыі. Калі ўлічыць якога ўзроўню ў іх кераміка, метал, тэкстыль, скура, гэта вялікі гонар для яе і прызнанне яе заслуг. Менскія дзяўчынкі (Таня і Воля) таксама не жадалі назаўжды застацца па-за горадам. Там мамы, прапіска, кватэры. Каля 10 гадоў працаваў Аркадзь Анішчык, які скончыў чэшскую школу. Рабіў ён еўрапейскі дызайн, які ніяк не ўпісваўся ў нашу вытворчасць, а працавалі мы на Іх Вялікасці Колькасць і Вал. Нам падабаліся яго работы. Вельмі выверанныя, дакладныя па прапорцыях, з пачуццём меры ва ўжыванні дэкору. Гэта быў чысты дызайн-стыль, але не для савецкага прадпрыемства.

Ва ўсіх у нас была аддуха - не ідзе, скажам, у вытворчасць, хоць мы прыстасоўваліся, стараліся задаволіць вытворчасць з мінімальнымі стратамі эстэтычнай якасці, наколькі было магчыма - мы рабілі дэкаратыўныя рэчы, якія паказвалі на розных выставах і іншы раз іх закуплялі музеі Расіі і Беларусі. У мяне ёсць работы ў Нямеччыне, Даніі. Да зарплаты нашай гэта адчувальны дадатак. Гэта наша кухня і выхад да масаў іншы раз.

Які час быў! Збіраліся, слухалі разумных мастацтвазнаўцаў, паказвалі напрацаваныя за год калекцыі, для гэтага і жылі, і працавалі, усе ведалі адзін аднаго і радаваліся сустрэчы. І місія якая ў нас была, вылучыць лепшае, рэкамендаваць у вытворчасць і выхоўваць густы (?) працаўнікоў. Якое глупства. Адзін час мы ў гэта верылі.

Валеры Сліўкін

# Будаўніцтва Лідскага замка і ўладкаванне прылеглай тэрыторыі (14-15 стагоддзі)

**Сцвярджэнне 1.**

***Лідскі замак падвяргаўся перабудове.***

**Доказы.**

Першапачаткова замак меў адну паўднёва-заходнюю вежу. Другая паўночна-усходняя вежа была збудаваная пазней. Падмурак яе ляжыць на 70-80 см глыбей за падмурак сценаў. Вежа прыбудована да паўночнай і ўсходняй сценаў замка: зроблена ўпрытык дакладка таўшчынёй 80-90 см.

Пры будаўніцтве вежы выкарыстоўвалася цэгла цёмна-карычневага колеру, большага памеру і лепшай якасці. Такая ж цэгла ўжыта пры абліцоўванні малога ўсходняга ўваходу. З такой ж вялікапамернай і больш якаснай цэглы складзены байніцы, якія захаваліся на паўднёвай сцяне.

**Сцвярджэнне 2.**

***Для завозу будаўнічых матэрыялаў і для праходу будаўнікоў на замкавы двор у паўднёвай і паўночнай сценах замка існавалі праезды. Праёмы, якія захаваліся ва ўсходняй сцяне, не забяспечвалі правядзенне будаўнічых работаў.***

**Доказы.**

Немагчыма ўявіць будаўнічыя работы ў замку без шырокага праезду, праз які маглі б заязджаць вазы з будаўнічымі матэрыяламі: валунамі, цэглай, бярвёнамі, вапнай.

Будаўнікі замка - а іх было некалькі тысяч чалавек - былі паселеныя з паўночнага боку замка. Там, у міжрэччы Лідзейкі і Каменкі, і паўстаў горад Ліда. Да XIX стагоддзя горад не выходзіў за межы гэтага міжрэчнага абшару.

Ні ўсходні бок замка, ні заходні не прыдатныя для ўладкавання першапачатковых уездаў: з захаду размяшчалася забалочаная даліна Каменкі, з усходу - забалочаная даліна Лідзейкі.

Аптымальнае месца для будаўнічага праезду - паўночная сцяна.

Сляды праезду ў паўночнай сцяне захаваліся. Там ляжыць самы вялікі валун дыярытавага складу памерам 152х 98 см, вагой каля 4 тон. За 58 см ад яго заходняга канца і за 100 см ад усходняга назіраюцца два ўчасткі цаглянага мура ў выглядзе стаякоў. Межы цагляных стаякоў унутры выразныя. Адлегласць паміж стаякамі - 3 м 10 см. З заходняга боку ў сцяну ўманціраваныя 19 цаглін у 12 радоў, шырыня мура да 82 см, з усходняга -15 цаглін у 8 радоў, шырыня ад 30 да 60 см. Ніжнія цагліны ляжаць на вышыні 80 см ад асновы сцяны. Участак сцяны паміж гэтымі цаглянымі стаякамі закладзены валунамі без захавання раднасці характэрнай для сценаў замка.



***Закладзены самы старажытны паўночны ўезд у замак. Галоўны элемент закладкі вялізарны валун. Сучасны выгляд.***



***Рэшткі цаглянага стаяка паўночнага ўезду.***




***План Ліды 1795 года, які яскрава пацвярджае выха д вуліцы Віленскай да сярэдзіны паўночнай сцяны замка і паказвае вуліцу, якая падходзіла да паўднёвай сцяны.***

У паўднёвай сцяне замка на вышыні 2 м маецца закладзены цэглай паўцыркульны праём вышынёй 3.1 м, шырынёй 2,5 м. У верхняй частцы ён аконтураны цаглінамі ў выглядзе аркі. З знешняга боку паўднёвай замкавай сцяны пад праёмам пры раскопках выяўленая валунны



***Паўднёвы ўезд у замак. Унутраны бок сцяны. Сучасны выгляд.***



***Паўднёвы ўезд у замак. Вонкавы бок сцяны. Сучасны выгляд.***



*Усходні ўваход у замак. Сучасны выгляд.*



Стена крепости в Лиде

*Усходні ўваход у замак. 1954 г.*
*Здымак А. Міцяніна.*

адмостак. Гэты праём у літаратуры атрымаў назву фортка і лічыўся запасным выйсцем пры крытычных сітуацыях.

Цэгла з стоек паўночнага праезду і абліцоўвання паўднёвага праёму такая ж па памеры, колеру і складу, як і цэгла сценаў замка.

**Сцвярджэнне 3.**

***З'яўленне малога ўсходняга ўваходу сведчыць аб тым, што замак апынуўся на востраве.***

**Доказы.**

Нейкія акалічнасці прымусілі рэзка ўзмацніць непрыступнасць Лідскага замка. Уздоўж паўночнай сцяны быў пракапаны роў, рака Лідзейка перагароджана дамбай, і вакол замка ўтворана штучнае возера. Замак набыў астраўное становішча.

На карціне мастака Іосіфа Пешкі канца 18 стагоддзя бачна водная паверхня вакол маляўнічых руін замка. На карцінах мастакоў першай паловы 19 ст. Васіля Гразнова і Вікенція Дмахоўскага відаць, што водная паверхня пачала зарастаць чаротам.

Капанне рова праводзілася пасля ўзвядзення паўночнай сцяны замка і пасля закладкі паўночнага праезду. Грунт з рова высыпаўся на знешні бок паўночнага схілу з перакрыццём ніжняй часткі сцяны.

Усходні малы ўваход шырынёй 2,5 м, вышынёй 2,45 м першапачаткова не існаваў, ён прабіваўся ў сцяне. Вышыня яго недастатковая для заезду ў замак верхам на кані, у замак мог прайсці толькі пешаход. Ён павінен быў прыйсці па масце або прыехаць на лодцы. Пры археалагічных раскопках апорных маставых паль не выяўлена, значыць, карысталіся лодкай.

**Сцвярджэнне 4.**

***Каралеўскі ўезд ва ўсходняй сцяне прабіты па выключна ўрачыстым выпадку, пасля таго, як была пабудаваная поўнача-усходняя вежа і зроблены малы ўваход.***

**Доказы.**

Каралеўскі ўезд і малы ўваход не маглі з'явіцца адначасова, паколькі малы ўваход - сведчанне ўзмацнення абаронных магчымасцяў замка і рэзкага абмежавання доступу ў яго.

Каралеўскі ўезд у сілу сваіх вялікіх памераў (шырыня 4,5 м, вышыня 6 м) значна аслабляе абаронныя магчымасці замка і мог з'явіцца толькі тады, калі ваенныя небяспекі зніклі.

Падчас будаўніцтва каралеўскага ўезду была засыпана студня, якая размяшчалася насупраць уезду. Пры археалагічных раскопках




***Каралеўскі ўезд ў Лідскі замак на старой паштоўцы.***



***Каралеўскі ўезд  і ўсходні ўваход у Лідскі замак. Сучасны выгляд.***



***Каралеўскі ўезд у Лідскі замак. Сучасны выгляд.***

ніхто не думаў.

У гістарычнай літаратуры агульнапрызнана, што крыжакі тройчы бралі Лідскі замак - у 1384, 1392 і 1394 гадах. Упершыню аб паспяховым штурме 1384 г. напісаў доктар мастацтвазнаўства, прафесар Ю.А. Ягораў (1954). Спасылак ён не зрабіў, на якія першакрыніцы абапіраўся не паведаміў, але неяк так атрымалася, што гэтае меркаванне на правах падзеі якая безумоўна мела месца ўвайшло ў літаратуру *(Ткачоў 1978, Трусаў, 1990, і інш)*. Аднак, ні адзін з беларуска-літоўскіх летапісаў аб паходзе на Ліду ў 1384 г. не паведамляе. Кры-жакам у 1384 г. было не да паходаў на Ліду - увесну яны будавалі цвердзь Рытарсвердэр каля ўпадзення Віліі ў Нёман, у пачатку ліпеня князь Вітаўт ім здрадзіў і сыйшоў да вялікага князя Ягайлы, увосень стрыечныя браты Ягайла і Вітаўт захапілі Рытарсвердэр.

У сапраўднасці, крыжакі авалодалі Лідскім замкам адзіны раз у студзені 1392 г. Князь Зміцер-Карыбут *"абараняцца ў ім не захацеў, выехаў паспешна са сваім дваром і дружынай, пакінуўшы ўсё, што было ў замку і горадзе на здабычу непрыяцелю". (Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno. 1839. T. 5. S. 482).*

Узімку 1394 г. крыжакі другі раз прыходзілі да замка. Лічыцца, што *"жыхары мужна адбілі ўсе варожыя штурмы"*, у чым я вельмі сумняваюся па прычынах наступнага парадку: адкуль было ўзяцца жыхарам, калі за два гады да гэтага крыжакі спалілі горад і вывелі ў палон усіх, каго маглі злавіць, і забілі ўсіх, каго павінны былі забіць. Гэтак жа відавочна, што замак яны не маглі і не павінны былі пакінуць у захаванасці - разбурылі ўсё, што маглі разбурыць і спалілі ўсё, што магло гарэць.

У жніўні 1392 г. Ягайла і Вітаўт сустрэліся і падпісалі Астроўскую дамову ў Востраве каля Мыта, а не ў Лідскім замку. Лічу, што не па прычынах сарамлівасці Вітаўта, які ўдзельнічаў у студзеньскім паходзе на Лідскі замак, а таму, што замак быў у развалінах. У 1394 г. крыжакі прыходзілі да гарадскога папялішча і пустога замка.

У 1397 г. вялікі князь Вітаўт засяліў татарамі наваколле Ліды, але татарскі хан Тахтамыш не жыў у замку, а "жыў у адмысловай хаце, якая стаяла на тым месцы, дзе цяпер (у 1905 г.) размешчаны хаты плябаніі рымска-каталіцкага касцёла. Мясцовасць гэтая доўгі час насіла назву Тахтамышава двара" *(Шымялевіч М. Горад Ліда і Лідскі замак.// Віленскі каляндар. Вільня, 1905. с.*

у ніжняй частцы студні на глыбінях 2.5-4 м "сустракалася толькі грубая кухонная кераміка XIУ-XУ ста-годдзяў". *(Археалагічная справаздача аб палявых даследаваннях, праведзеных Лід-скім замку ў ліпені-жніўні 1978 г. Кніга 1. Стар.28.)* У другім калодзежным зрубе, выкапаным замест засыпанага, пера-важалі артэфакты 17-га стагоддзя.

Выкладзеныя довады дазваляюць азначыць адпаведную схему перабудоў замка. Першапачаткова былі два ўезды ў замак - паўночны і паўднёвы. Затым была пабудавана поўначаусходняя вежа, закладзены паўночны праезд і прабіты ўсходні малы ўваход. Тады ж замак набыў астраўное становішча. У гэты ж час былі ўладкованыя байніцы паўднёвай сцяны. Праз некаторы час быў прабіты каралеўскі ўезд і засыпана паўночная студня.

Зараз паспрабуем вядомыя гіста-рычныя падзеі ўвязаць з перабудовамі замка.

Відавочна, што да першага нападу на замак аб узмацненні абаронных маг-чымасцяў

40.)

Да аднаўлення Лідскага замка Вітаўт мог прыступіць толькі пасля 1399 г - пасля паразы на Ворскле. Паміж 1401- 1405 гг. была збудаваная поўнача-усходняя вежа, выкапаны роў каля паўночнай сцяны, адсыпана грэбля, якая перагарадзіла Лідзейку. Вакол замка ўтварылася штучнае возера, і замак набыў астраўное становішча. У гэты ж час была пабудавана (або адноўлена) баявая галярэя з байніцамі, прабіты ўсходні ўваход і закладзены паўднёвы і паўночны праезды. Да замка можна было пад'ехаць толькі на лодцы і ўвайсці праз адзіны ўсходні ўваход. Змянілася функцыянальнае прызначэнне Лідскага замка - Вітаўт ператварыў яго ў турму.

26 чэрвеня 1405 г. *"Князь Витовтъ взял Смоленескъ... и княгиню полонил, княж Юрьеву, а князь Юрьи съ сыном своим Феодором бъжа в Новъгород".* Жонка Юрыя Святаслававіча - дачка Алега Іванавіча Разанскага і дзеці Юрыя, акрамя Хведара, разам з прыдадзенымі ім баярамі былі паселены ў Лідскім замку. Вітаўт далучаў Смаленскае княства да ВКЛ, і спадчыннікі Юрыя Святаслававіча былі перашкодай. 5 жніўня 1406 г. Юры Святаслававіч паспрабаваў вызваліць жонку і дзяцей, з вялікім аддзелам ён напаў на Ліду - спаліў горад і касцёл, але замак узяць не здолеў. Аб княгіні смаленскай і яе дзецях летапісы больш не ўспамінаюць.

У снежні 1408 г. на таемнай нарадзе Вялікага князя Вітаўта і караля Ягайлы было прынята рашэнне аб грандыёзным паходзе на Тэўтонскі Ордэн. Вітаўт пачаў узмоцнена рыхтавацца да вайны і ператварыў Лідскі замак у склад зброі і правіянту. Падрыхтоўка да вайны ажыццяўлялася ў вялікай таямніцы. Неабходна было выкаваць і закупіць вялікую колькасць зброі, а таксама стварыць запас правіянту для ліцвінскіх харугваў і здзейсніць усё гэта ў таямніцы. Лідскі замак, акружаны вадой, з невялікім адзіным уваходам, як нельга лепш падыходзіў для гэтых мэтаў. У замку з'явілася, хоць магла і раней існаваць, кузня.

Пасля Грунвальдскай перамогі 15 ліпеня 1410 г. Лідскі замак страціў сваю ваенную значнасць, ізноў змянілася яго функцыянальнае прызначэнне. Пазней: - узімку 1422 г. у тэрміновым парадку быў прабіты каралеўскі ўезд ва ўсходняй сцяне. У замку рыхтаваліся сустракаць з Наваградка маладых. У лютым 1422 года ў замку адбылася самая выдатная падзея за ўсю гісторыю яго існавання - вясельны баль караля Ўладзіслава Ягайла і князёўны Соф'і Гальшанскай. Да каралеўскага праезду павінны былі мост пабудаваць, але пры археалагічных раскопках рэшткаў паль не знайшлі. Мабыць быў збудаваны пантонны мост, хоць Вітаўт быў "гаразд" на цуды, мог і ледзяны зрабіць. *"Вясёлыя баляванні працягваліся да вялікага паста і доўга дастаўлялі матэрыял для аповядаў аб выяўленай тут пышнасці". (Шымялевіч, с. 41)*

Прыведзеныя доказы і вядомыя гістарычныя факты дазваляюць сцвярджаць, што будаўнічыя работы на Лідскім замку вяліся ў тры этапы.

**1 этап (1323-1328 гг.).** Арганізатар работ Вялікі князь Гедзімін.

Выбар пляцоўкі.

Падрыхтоўка і выраўноўванне будаўнічай пляцоўкі.

Подвозка валуноў. Падрыхтоўка вапны. Выраб цэглы.

Копка траншэі. Закладка падмуркаў.

Узвядзенне сценаў замка і паўднёва-заходняй вежы.

**2 этап (1402-1405 гг.).** Арганізатар работ Вялікі князь Вітаўт.

Узвядзенне поўнача-усходняй вежы.

Будаўніцтва або аднаўленне байніц і баявой галерэі.

Копка рова ля паўночнай сцяны замка.

Адсыпка дамбы.

Пабудова ўсходняга ўваходу.

Закладка паўднёвага і паўночнага праездаў.

Затапленне прылеглага да замка абшару.

**3 этап (студзень 1422).** Арганізатар работ Вялікі князь Вітаўт.

Пабудова каралеўскага ўезду.

Копка паўднёвай студні.

Засыпка паўночнай студні.

Пабудова маста пантоннага або ледзянога.

У далейшым замак толькі руйнавалі. Завіхаліся больш людзі, чым сонца, дождж, снег і вецер.

***Літаратура.***


*1. Егоров Ю. Градостроительство Белоруссии. М, 1954, с. 24-25.*

*2. Narbutt T. Dzieje narodu litewskiego. Wilno. 1839. T. 5. S. 482.*

*3. Ткачоў М.А. Абарончыя збудаванні заходніх зямель Беларусі XIII - XVIII стст. Мінск, 1978.*

*4. Ткачев М.А. Замки Белоруссии. Минск, 1987.*

*5. Трусаў А.А. Старадаўніх муроў адраджэнне. Мінск. 1990.*

*6. Шимелевич М. Город Лида и Лидский замок.// Виленский календарь. Вильно, 1905. с.40.*

*7. Трусов О.О. Археологический отчет о полевых исследованиях, проведенных в июле-августе 1978 г. Книга 1. Стр.28.*

**Валеры Сліўкін**

# ЛІДСКАЕ ПІВА

## Лідскі піваварны завод

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**1971 г.**

Вартасць асноўных вытворчых фондаў на 1.01.1971 год склала 1 283,2 тыс рублёў. У цэху разліва безалкагольных напояў зманціраваная лінія прадукцыйнасцю 6000 бутэлек у гадзіну.

Пастановай МХП БССР ад 28 ліпеня піўзаводу прысвоена званне "Прадпрыемства высокай культуры вытворчасці". У жніўні Дзяржкамітэт стандартаў пры Савеце Міністраў СССР прысвоіў піву "Лідскае" "Знак якасці". Гэта быў першы лідскі тавар, адзначаны пяцікутнікам. Лідскаму піўзаводу падпарадкаваны Наваградскі піўзавод.

Распавядае **Э.Б. Выгоўскі.**

*"У 1971 г. галоўным інжынерам на піўзаводзе быў Раманоўскі Ўладзімір Мікалаевіч. Сляпцову хутка 70 гадоў, Раманоўскаму 50. Быўшы ў камандзіроўцы Сляпых даведваецца, што Раманоўскі запрасіў другога сакратара гаркама партыі Шарыка і яны правялі сход - пара маладым даць дарогу і вызваліць дырэктара, большасць маўчала, як звычайна. Сляпых па прыездзе пайшоў у гаркам: "Як гэта так, без мяне". Першым тады быў Кабяк С.Т, увалІў Шарыку і даў каманду: "Вось вам тыдзень тэрміну, прыбраць з завода абодвух, не ўмеюць жыць разам, хай жывуць асобна. Прадпрыемства стабільнае, змена адбудзецца бязбольна". Кадравікі дазналіся, што ў мяне ў дыпломе - " інжынер харчовай прамысловасці". 9 лютага 1971 г. тэлефануюць: "Ідзі да піўзавода, там цябе чакаюць дырэктар і першы сакратар". Мы тады будавалі піянерскі лагер у Бурносах. Думаў штонебудзь па піянерскім лагеры. Прыходжу, стаяць. У жыцці ніколі не хадзіўшы на піўзаводах.*

*- Пайдзем паходзім па піўзаводзе.*

*Сляпцоў, Кабяк і я, хадзілі - цікава.*

*- Заўтра на 9 гадзін прыходзь у гаркам. Вазьмі партбілет.*

*Назаўтра ў 9 гадзін прыходжу. Было планавае бюро гаркаму. Выклікаюць, ставяць, зачытваюць маю біяграфію.*

*- Ёсць прапанова прызначыць дырэктарам піўзавода. Я асалапеў:*



**Г.А. Сляпцоў.** *Мастак А. Судар, 2006 г, палатно, алей. Публікуецца ўпершыню.*

*- Адмаўляюся. Я нават брыгадай не кіраваў.*

*- Не можаш - навучым, не жадаеш - прымусім.*

*- Дырэктарам не буду. У мяне няма досведу кіраўніцтва прадпрыемствам.*

*- Ты тры месяцы ўжо быў дырэктарам завода электравырабаў. На калегіі выступаў.*

*- Не. Не, не пайду.*

*- Партбілет пакладзі на стол.*

*- Не вы мне яго давалі. Давала партыйная камісія - дастаў партбілет, паказаў і назад у кішэню.*

*- Малайчына, - гаворыць Кабяк, - не губляешся.*

*- А галоўным пайдзеш? - пытае Папова Н.І., яна тады трэцім была.*

*- Дома параюся.*

*- Нам патрэбен канчатковы адказ.*

*- Сляпцоў 18 гадоў дырэктар, яго паважаюць. Я не маю досведу.*

*- Дык ён ужо пенсіянер.*




***Этыкеткі безалкагольных напояў, якія выпускаліся Лідскім піўзаводам у 70-я гады 20-га стагоддзя.***

*- Дырэктарам не згодны.*

*- Добра. Раманоўскага ў міністэрства, Сляпцова пакідаем дырэктарам, вас - галоўным.*

*Як я потым зразумеў, мяне паволі рыхтавалі і правяралі. У студзені на партканферэнцыю адправілі. У нумары пасялілі з генералам, лётчыкам. Высвятлялі, колькі гарэлкі я магу выпіць. Увечар у рэстаране і потым у нумары да раніцы. Кастынг я прайшоў.*

*Назаўтра Сляпцоў і я на таксі, нам давалі такія талоны для праезду на таксі, у Менск, у міністэрства. Мяне зацвердзілі, і наступныя два гады я прапрацаваў галоўным інжынерам піўзавода.*

*- Я табе дапамагу, ты кіруй - сказаў Сляпцоў. Мы з Касыгіным з аднаго году, яму можна краінай кіраваць, а мне піўзаводам нельга.*

*Зарплату нам далі аднолькавую - па 180 руб. У заробку я моцна страціў”*

**1972 г.**

З сакавіка завод у падначаленні аб’яднання піваварнай безалкагольнай і вінаробнай прамысловасці Міністэрства харчовай прамысловасці БССР “Белпівапрам”. Ордэнам Кастрычніцкай рэвалюцыі ўзнагароджана Шыцікава К.Е., ордэнам “Працоўнага Чырвонага Сцяга” - Галяева М.П., медалём “За працоўную доблесць” - Пакулаў С.І. У кожным квартале прадпрыемства па выніку рэспубліканскага сацспаборніцтва сярод прадпрыемстваў харчовай прамысловасці БССР займала першае месца з уручэннем грашовай прэміі і пераходнага сцяга Мінхарчпрама БССР і ЦК прафсаюза працоўных харчовай прамысловасці.

## *9. Дасягненні завода пад кіраўніцтвам Э.Б. Выгоўскага.*

**1973 г.**

Пайшоў на заслужаны адпачынак Сляпцоў Георг Арцёмавіч. Дырэктарам завода прызначаны Выгоўскі Эдуард Барысавіч.

*“У 1973 г. калі Сляпцову споўнілася 69 гадоў, гаворыць: “Усё годзе, пайду дахаты”.*

*З ушанаваннямі праводзілі яго на пенсію. Мы з ім жылі ў адным доме за магазінам “Камсамольскі”. Домік пабудовы 1926 г. Кватэру, калі сыходзіў з “Электравырабаў”, я аддаў галоўмеху, ён сваю двухпакаёвую таксама аддаў. Цэлы ланцужок змен кватэр адбыўся. У тыя гады не “хімічылі” з кватэрамі.”*

Пабудаваны будынак кампрэсарнай, у ім абсталявана механічная майстэрня, памяшканне старой майстэрні пераабсталявана ў матэрыяльны склад для захоўвання сыравіны і матэрыялаў. Ліквідавана старая саладоўня, на пляцоў-цы, якая вызвалілася пабудаваны і абсталяваны цэх для разліву бачкавога піва. У цэху ўсталяваны апарат для разліву бачкавога піва,



***Б.В. Кузьма***



*Ванда Ткач*

рэканструяваны рацыяналізатарамі завода пад кіраўніцтвам Кузьмы Браніслава Вікенцевіча.

Праведзеная рэканструкцыя сістэмы астуджэння хмелесховішча, укаранёна ўжыванне молатага хмелю пры вытворчасці піва. Камсамольскай брыгадзе Ванды Ткач прысуджана званне "Лепшая брыгада" па МХП БССР з уручэннем прэміі і вымпела. У спа-борніцтве па МХП БССР вытворчаму ўчастку разліву піва прысвоена званне "Лепшы вытворчы ўчастак". У III квартале ў сацспаборніцтве завод заняў першае месца ў рэспубліцы. Яму ўручана грашовая прэмія ў суме 2 300 рублёў і сцяг Мінхарчпрам БССР і БРК прафсаюзаў.

**У кнізе водгукаў Лідскага піўзавода запісана:** *"22 верасня 1973 г. Чэхаславацкія буйныя спецыялісты па піцці піва пацвярджаюць самую лепшую якасць лідскага піва ва ўсёй Расіі. Гэта ў першы раз, калі дэгустацыя піва ў Расіі праводзіцца, як у ЧССР."*

**1974 г.**

Уведзены новы цэх складавання і транспартоўкі парожняй тары, брадзільны склеп, аддзяленне асвятлення і астуджэння сусла. Сканчаюцца работы на кампрэсарнай лагернага склепа, градзірні. Уведзены цэх разліва піва ў бочкі.



***Э.Б. Выгоўскі.*** *Мастак А. Судар, 2006 г, палатно, алей. Публікуецца ўпершыню.*



***Градзірня***

Распавядае **Э.Б. Выгоўскі**:

*"Гэта было ў 1974 г. Я быў у Кляцкова, як раз у яго ў гэты час быў Аляксей Аляксеевіч Смірноў - сакратар ЦК па прамысловасці.*

*- Рады з табой пазнаёміцца. Вельмі пада-баецца лідскае піва. Заўтра буду ў Лідзе, пады-ходзь.*

*У ДА была нейкае нарада, я падышоў да яго.*

*- Якія праблемы? Жадаю, каб Лідскі піўзавод развіваўся. Выйдзі на Папову, афармі дакументы і прыязджай у ЦК.*

*Менавіта ён прыняў рашэнне. Вылучылі ліміт на будаўніцтва. У міністэрстве грошай няма. "Хто даў ліміт - хай дае і грошы". Знайшлі і грошы. Дзякуючы А.А. Смірнову правялі рэканст-рукцыю. Галоўнае было стварыць базу для далей-шага развіцця. Вада, каналізацыя, цяпло і холад. Калі ўсё гэта ў дастатковай колькасці ёсць, можна развівацца без асаблівых цяжкасцяў. Тады, напрыклад, на балоце ўзвялі кампрэсарную. Дагэтуль будынак стаіць і не даў ніводнай расколіны. Энергетыку ўсю зрабілі. Наступныя 20 гадоў завод мог спакойна існаваць".*

**1975 г.**




*Дошка пашаны Лідскага піўзавода.*

17 снежня па выніках рэспубліканскага агляду па рацыянальным выкарыстанні водных рэсурсаў і прадухіленні забруджвання рэк і вадаёмаў сцёкавымі водамі сярод прамысловых прадпрыемстваў і арганізацый рэспублікі Беларускай рэспубліканскай радай навукова-тэхнічных таварыстваў, дзяржаўным камітэтам Савета Міністраў БССР па ахове прыроды, Прэзідыюмам Рэспубліканскай рады Беларускага таварыства аховы прыроды заводу ўручаная Ганаровая грамата.

Распавядае **Тыртых (Чэпелева) Галіна Уладзіміраўна**, мікрабіёлаг з 1968 па 1982 г.:

*“Работа мікрабіёлага - санітарны кантроль на заводзе, чыстата, культура вытворчасці і мікра-біялагічны кантроль. Задача: выявіць мікрафлору - шкоднікаў вытворчасці і знішчыць іх. Сусла - спрыяльнае асяроддзе для мікрафлоры. Праверка на трох этапах у працэсе браджэння. У боксе праводзіцца пасеў. Удакладняецца, ці няма шкодных мікраарганізмаў і ці дапусцімая іх колькасць. Допуск для кішэчнай палачкі - адна на 100 мл. Калі болей - праводзіцца санітарная апрацоўка.*

*Інфіцыяванне ідзе ў падвале. Павінен быць чыста вымыты посуд. Рабочыя мыюць посуд, 35 ёмкасцяў трэба вымыць. Мікрабіёлаг павінен праверыць, вынікі будуць толькі цераз 2 дні. А працэс ужо не пайшоў, яго не спыніш. Я ўвяла бальную сістэму адзнакаў. Калі пры пасеве было ад 0 да 5 - ставіла “пяцёрку”. Зрабіла дошку і пісала “добра” і “выдатна”. Не дай бог “двойка”, караліся, пазбаўляліся прагрэсіўкі. Яны даказвалі, пярэчылі: “Пакажыце, як мыць, навучыце!”. І не адзін раз лазіла ў ёмкасці, мыла. На лініях разліву кожны дзень патрэбна прафілактыка.*

*Людзі былі вельмі адказныя. На заводзе была вельмі высокая дысцыпліна вытворчасці. Крушэўскі, Галяева навучаны былі - чыстата, парадак, мыццё, дэзінфекцыя, рэгулярнасць. Якасць трымалася за кошт санітарыі.”*



*Лабараторыя*

**1976 г.**

Загадам МХП БССР ад 6 красавіка створана Лідскае вытворчае аб’яднанне піваварнай прамысловасці. У яго склад увайшлі Гарадзенскі і Наваградскі піўзаводы. Лідскі піўзавод стаў галаўным прадпрыемствам аб’яднання.

Распавядае **Кудзіна Яніна Францаўна**:

*“Да нас далучылі яшчэ два піўзаводы. Мы ездзілі ў Гародню і Навагрудак. Спрабавалі зварыць добрае піва. У іх і ахалоджвання не хапала, браджэння не было нармальнага, і дрожджы яны ў нас бралі.”*

У II квартале прадпрыемства стала пераможцам рэспубліканскага сацспаборніцтва. 15 ліпеня “За паспяховае выкананне заданняў дзевятага пяцігадовага плану і ў сувязі са 100-годдзем з дня заснавання” завод узнагароджаны ордэнам “Знак пашаны”. 5 жніўня Ганаровай Граматай ВС БССР узнагароджаныя генеральны дырэктар аб’яднання “Лідапіўпрам” Выгоўскі Э.Б,, старэйшы майстар Крушэўскі М.І., брадзільшчыца Свідэрская Т.І. Граматай ВС БССР узнагароджаны машыніст халадзільна-кампрэсарнай станцыі Гурнач І.І., кантралёр гатовай

прадукцыі Яцэвіч М.У. У гонар юбілею адмы-слоўцамі завода створаны новы гатунак піва “Наша марка”. На ўрачыстасці ў Ліду 7 жніўня былі запрошаныя кіраўнікі ўсіх прадпрыемстваў горада, а таксама латвійскія і літоўскія піववары. Кінастудыя “Беларусьфільм” зняла дакументальны фільм аб піўзаводзе.



***Уручэнне ордэна “Знак пашаны” Лідскаму піўзаводу***

Распавядае **Э.Б. Выгоўскі**:

*“Генеральным дырэктарам мяне прызначылі ў траўні 1976 года. Далучылі Наваградскі і Гарадзенскі піўзаводы. Стваралі новую сістэму кіравання. Звычайна аб’яднанні ў абласных цэнтрах фармавалі, Ліда - выключэнне. Кабяк тады быў старшынём аблвыканкаму. Кляцкоў мяне ведаў. На адным з бюро абкаму разглядалася пытанне аб выкананні 5-гадовага плану. Мы план не выканалі. Была вызначана рэканструкцыя, а яе не зрабілі, грошай міністэрства не выдзеліла, а лічбы плану засталіся. Дакладвалі харчавікі і мы. Чуй першым дакладваў: “Аб распаўсюджванні досведу Лідскага камбіната харчовых канцэнтратаў…”. Другім пытаннем было “Аб выкананні 5-гадовага плану Лідскім піўным заводам”*

*Чуй выходзіць з паседжання і шэпча мне:*

*- Не стаў ніякіх задач.*

*Ён свой даклад пабудаваў па прынцыпе: міністэрства павінна, аблвыканкам можа, партыйныя органы маглі б.*

*- Ты што сюды прыйшоў нас вучыць?- узарваўся Кляцкоў.*

*Я дакладваў па іншаму: “Мы дамовімся, мы ўвядзём, мы зробім, мы ўзмацнім”. Тады мы прымалі 4-5 вагонаў тары і адпраўлялі 4-5 вагонаў піва аж да Масквы. Кляц-коў сказаў: “Бачу, што людзі думаюць. Дырэктар даклаў, як збіраецца вырашаць праблемы”. Планавалася мне вымова, абмежа-валіся “прыняць да ўвагі”. Вымову па партыйнай лініі аднойчы ўсё ж атрымаў - за адсутнасць росту шэрагаў членаў партыі, як член бюро.*

*Да 100-годдзя завода мы рых-таваліся сур’ёзна. ЦК Беларусі выйшаў на прамысловы аддзел ЦК Саюза аб магчымасці ўзнагаро-джання завода. Усе матэрыялы пайшлі праз ЦК, а з міністэрства ніхто не варухнуўся. Выклікаюць мяне ў Маскву ў ЦК. Дзве гадзіны праседзеў у кабінеце ў Ігнацевай, потым яна стала намеснікам міністра харчовай прамысловасці СССР: размаўлялі аб усім, нават аб тым, як завадчане дапамагалі абутнікам падчас штрайку 1936 года. Тэхніка-эканамічныя паказчыкі ў нас былі вельмі высокія. 45 месяцаў запар атрымлівалі прэміі. Проста з кабінета патэлефанавала ў Міністэрства: “Разбярыцеся, чаму няма прад-стаўлення на ўзнагароджанне Лідскага піўзавода, хто там у вас не жадае далей працаваць?”. - Едзьце дадому, завод будзе ўзнагароджаны ўрадавай узнагародай.*

*Праз тыдзень патэлефанаваў памочнік і паведаміў аб узнагароджанні ордэнам “Знак пашаны”.*

*- Назавіце дату, калі вы будзеце адзначаць?*

*- Мы запланавалі ў жніўні.*

*- Мы паспеем.*

*Толькі тры піваварныя прадпрыемствы Савецкага Саюза былі ўзнагароджаныя ордэнамі: Ленінградскае аб’яднанне імя Сцяпана Разіна - ордэнам Працоўнага Чыр-вонага Сцяга, Маскоўскі піваварны завод імя Бадаева - ордэнам “Знак Пашаны” і Лідскі піўзавод. Дзве сталіцы і Ліда.*

*Харчавікі да гэтага часу, у лютым па выніках пяцігодкі атрымалі ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. На банкеце ў іх у сталовай пры Паповай у віншаванні я сказаў: “Думаю, што хутка таксама атрымаем”. Папова адрэагавала: “Ну вы даеце!”.*

*На ўрачыстасці Кляцкоў прыехаў. Міністэрскае кіраўніцтва было. Людзі былі задаволеныя. Завод выглядаў вельмі прыстойна. Тэхнічныя паказчыкі адпрацаваныя былі ўсе”.*

Распавядае **Знімяроўская (Сакалоўская) Галіна Браніславаўна**:

*“У чэрвені 1976 г. мяне прынялі на працу. Гэта быў год стагоддзя завода. Начальнікам АК быў Сакалоў, я яму прыглянулася, і ён паставіў мяне асістэнтам сцяганосца на ўрачыстым сходзе. Турко Міша нёс сцяг, а я і Ванда Ткач на сцэне стаялі каля сцяга. Ёсць фотаздымак: Чуй сядзіць у прэзідуеме на сцэне ў крэмпленавай новай сукенцы*



***Г.Б. Знімяроўская***

*з белым каўнерыкам, Выгоўскі выступае, а мы ўтраіх са сцягам стаім углыбіні сцэны. Сакалоў вельмі хваляваўся, ходзіць па лесвіцы, нярвуецца: а раптам ты не прыйдзеш. А я прыйшла ў белай блюзцы і карычневай спадніцы.*

*Узялі мяне ў лабараторыю. Загадчыцай была Паліна Фёдараўна Смірнова - своеасаблівы чалавек, дзіўных парой уяўленняў і поглядаў. Побач з ёй я прайшла добрую школу. У лабараторыі тады працавалі Смірнова, Галіна Ўладзіміраўна Чэпелева (Тыртых) і мікрабіёлаг Маркелава. Галяева і Смірнова - жанчыны аднаго ўзросту, аднаго ўзроўню, кантактавалі, але блізка не сябравалі. Смірновай ужо няма. Муж яе рана памёр, дачка і сын выехалі з Ліды.*

*Хімікам-лабарантам я прапрацавала 8 гадоў. Завочна вучылася ў ВНУ. Хадзіла на курсы кіроўцаў, у абед, у час перапынку бегала на кіраванне. Паліна Фёдараўна - строгая, не дазваляла сыходзіць у рабочы час. Калі здала на правы, і ў мяне з’явілася машына, мы ўставалі ў 5 раніцы і ехалі на аўтамабілі ў грыбы. Яна прыходзіла на працу ў 9, а нам дазвалялася прыходзіць у 9.30. Мы набіралі па вядру баравікоў за 1,5 - 2 гадзіны. Ёй падабалася збіраць грыбы. П.Ф. да мяне добра адносілася, я добра рабіла аналізы.”*

Распавядае **Пер’ева (Лапата) Яўгенія Stationіславаўна**:

*“У 1976 годзе прышла на піўзавод. Начальнік АК Сакалоў сказаў: “У нас для Вас месца няма - ёсць рабочыя месцы, але Вы ж не пойдзеце?” Я згадзілася пайсці рабочай. Накіравалі працаваць у падвал. Было на заводзе тады тры цэхі: варачныпадвал, саладоўня і разлівачны.*

*Год ці паўтара адпрацавала рабочай, стала дзяжурным зменным тэхнолагам. Слізкі графік, тры змены. Дзесяткі чанаў, да кожнага трэба падысці, правесці замеры, як зняліся дрожджы, як асвятлілася піва, даць указанні рабочым. Пасля 7 сутак спіртавога браджэння пералівалі моцнае, неасветленае піва - “зоську” з варачнага ў падвал. Мы не мелі права памыліцца, парушыць тэхналогію. 89 танкаў, ціск павінен быць 0,4 - 0,6. Трэба замерыць шчыльнасць, запісаць у журнал, што рабіць. Начальнік участка глядзіць, што піша тэхнолаг, ці гатова піва для перапампоўкі. Практыка - велізарная справа. Усялякае бывала - варка не пойдзе, і ціск не трымае.”*

**1977 г.**

Тры кварталы завод займаў у рэспубліканскім сацспаборніцтве прадпрыемстваў лёгкай прамысловасці першае месца. Штораз прадпрыемства ўзнагароджвалася грашовай прэміяй у суме 4 200 рублёў.

Распавядае **Тыртых Галіна Уладзіміраўна**:

*“1 траўня мы прыходзілі на завод з дзецьмі, з сем’ямі. Адлік часу. Бачылі дзяцей, бачылі поспехі. Сустракаліся, апраналіся святочна. Па цэхах, у бытоўках ставілі сталы, да дэманстрацыі елі, выпівалі па чарцы. Спаборнічалі ў афармленні калонаў. Выдаваліся прэміі. Святочныя стасункі, калектыўныя. Пачастункі, рыбку прыносілі. Але без лішняга.”*



***1 траўня***

**1978 г.**

Увялі ў вытворчасць комплексную сістэму кіравання якасцю - першымі сярод прадпрыемстваў сваёй галіны. Асвоілі танізавальны напой “Байкал”. У чэрвені на базе аб’яднання “Лідапіўпрам” праходзіў рэспубліканскі семінар піваваpаў.

**1979 г.**

Напою “Бураціна” прысвоены “Знак якасці”, тэрмін яго захоўвання павялічаны да 9 сутак.

**1980 *г.***

На заводзе было трое коней, якія выкарыстоўваліся для падвозкі тары, бутэлек. Міністэрства загадала ўтрымоўваць бычкоў. Пагадзіліся даглядаць дапаможныя рабочыя Баль-

цэвіч, Буель і інш., за гэта ім завод даплочваў 20 % тарыфнай стаўкі. Адрамантавалі старыя стайні, затым зрабілі з цэглы прыбудову. Бычкі набралі па 400 кг.



*В.К. Бальцэвіч*

**1981 г.**

У сакавіку Прэзідыюм Беларускага рэспубліканскага кіравання навукова-тэхнічнага таварыства харчовай прамысловасці ўзнагародзіў калектыў піўзавода "Ганаровай граматай" за добрую працу і ўдзел у рэспубліканскім аглядзе "На лепшае прадпрыемства па эфектыўнасці комплекснай сістэмы кіравання якасцю прадукцыі".

**Антаніна Іосіфаўна *Урбан*** прызнаная "Лепшым майстрам Міністэрствы харчовай прамысловасці БССР 1981 *г.*": *"Людзі паважалі, слухаліся. Спаборніцтва было, камсамольскія брыгады. 10 гадоў я прапрацавала майстрам на разліве, прыйшла да Выгоўскага: "Перавядзіце ў іншы цэх, больш не магу". П'яніцы лезлі ў цэх, кралі, бра-кавала бутэлек, этыкетак. Бутэльку выкрадуць - трэба здаць 400 г. шкла, дзе ўзяць? Выгоўскі патрабавальны і вельмі ўважлівы дырэктар быў, я яго прашу - пакладзе рукі на стол і маўчыць. Потым пагадзіўся, але папярэдзіў: "Ты ідзеш на парахавую бочку".*

**1982 г.**

Выпушчана рэкордная колькасць піва 200 790 гл. Асвоена вытворчасць піва "Ячменны колас".

Сыйшоў на пенсію Крушэўскі - легенда завода, на яго месца перавялі А.І. Урбан.

*"Склеп быў святым месцам на заводзе. У склепе стаялі 118 танкаў: 46 жалезных па 1,5 тыс. дал, яны стаялі з 1946 г, 10 алюмініевых з 1968 г, астатнія алюмі-ніевыя па 2 і 4 тыс декалітраў з 1970-72 г. Лёду тады ўжо не было, засталіся толькі кішэні, дзе некалі захоўваўся лёд. Там у тры ярусы стаялі 46 танкаў. Люкі былі для ўборкі. Усё герметычна зачынялася. Да 1970 г. чаны былі адчыненыя. Там пры віндзе ляжалі жалезныя пласціны, з іх падымалі запраўленыя бочкі. Дык там аматары піва выбілі дзірку супраць чана і з яе слоікам чэрпалі, зверху апускалі на аборцы. Калі я была начальнікам склепа адзін раз у суткі ў любы час хадзіла ў склеп, над кожнай ёмістасцю трэба было падумаць. Гэта мяне Крушэўскі прызвычаіўён заўсёды прыходзіў глядзець. Душа баліць за якасць. Які з чанаў паводзіць сябе не так. У той час шчыльнасць была аднолькавая, зброджвалі да 4.1градусаў.*

*Была гісторыя адна смешная, але не вельмі прыемная. Лабараторыя дзяржстандартаў у партыі піва не выявіла нейкі долі спірту. Следчы выклікаў тэхнолагаў і працоўных на допыты: "Куды выкралі спірт? Выпілі - не залілі ў піва?"*

**У кнізе водгукаў Лідскага піўзавода запісана:** *"30 чэрвеня 1982 г. Мы пілі піва розных краін і гарадоў Саюза, але лепшага нідзе не пілі. Смак, водар і ўцэлым букет вашага піва, пакарылі нашыя сэрцы. У Саюзе няма лепшага за вашае піва. Шчацінін, Абрамаў, Генкін і інш. (10 чалавек).*

*9 верасня 1982 г. Гэта было адкрыццё! Адкрыццё інтэлектуальнае, інфармацыйнае і... смакавае. Хіба можна было падумаць, што лепшыя гатункі піва - гэта "Лідскае" з г. Ліды. І гэта аказалася фактам. Супрацоўнікі Міністэрства сувязі СССР."*



*Калектыў участка разліву*

**1984 г.**

На прылаўках з'явіўся "Напой Лідскі" коштам 15 капеек з гарантыйным тэрмінам захоўвання 15 сутак.

Распавядае **Знімяроўская Галіна Бра-ніславаўна**:

*"У 1984 г. мяне перавялі начальнікам цэха безалкагольных напояў. Ішла на пенсію Кірыенка Зінаіда Іванаўна, і мяне паставілі на яе месца. Вельмі цяжкі быў цэх. Працавалі ў дзве змены і па святах. Памятаю, 31 снежня дадому пайшла ў 8 вечара. Патрэбна была прадукцыя, попыт быў велізарны. Квасу па 30 бочак у дзень запраўлялі. Квасніца была Качар Марыя Іванаўна, у яе раптоўна памёр муж, а другой квасніцы не было. Я стала на яе месца і 3 дні працавала. Квас адчуваць трэба, чысціня павінна быць ідэальная"*




***Калектыў цэха безалкагольных напояў***

**1985 г.**

Пры вытворчасці піва шчыльнасцю 11% выкарыстоўваліся несалоджаныя матэрыялы з ужываннем ферментных прэпаратаў. Звыш плану выраблена прадукцыі высокай якасці на 64,2 тысячы рублёў.Асвоеныя новая марка піва “Светлае адмысловае” і газаваны напой “Бананавы водар” коштам 20 капеек з гарантаваным тэрмінам захоўвання 15 сутак. Аб’ём рэалізаванай прадукцыі склаў 9,6 млн. рублёў.

**Выгоўскі пра сябе:**

*“Яшчэ 10 гадоў пасля стагоддзя адпрацаваў генеральным дырэктарам аб’яднання. За 10 гадоў зарплата вырасла да 230 рублёў.*

*Цікавая была гісторыя. Тэлефануе ўвечар нам. міністра Шчарбакоў: “Да нас прыязджае Пампіду. Чым займаешся ?”- Піва п’ю. Бярэ трубку Ярэй - міністр. Пастарайся раніцай быць цвярозым, пастаўся як належыць. Прывязеш 1000 бутэлек піва да прыезду Пампіду і Брэжнева. Што тут пачалося?. Мільён званкоў і ўказанняў. Адабралі 1000 аднолькавых па колеры бутэлек. Спакавалі іх у кардонныя скрыні. Скрыні даcталі ў гандлі. У кожную скрыню пакавальны ліст, у кожную ячэйку штамп АТК. Заглаб усё праверыла. Патэлефанаваў гандлёвым арганізацыям па дарозе на Менск, калі з машынай што здарыцца, каб дапамаглі. Паліна Фёдараўна павезла ў сталовую Саўміна. Прыём быў просты: “Што, піва лідскае ? Згружай у кут”. Распісалася прыёмшчыца, штамп пляснула: “Едзь”. Аж крыўдна было. Так стараліся. Праз 10 дзён Пампіду памёр. Застудзіўся ў БССР, схапіў запаленне лёгкіх. Іду па калідоры ў Міністэрстве: “Ты яшчэ тут ? А Пампіду ж памёр.”*

*У іншы раз пажартавалі:*

*- Табе зарплату дадалі ? Ты ж генеральны.*

*- У мяне генеральскія лампасы толькі на трусах і зарплата такая ж.*

*Шмат было цікавых падзей. Дружна жылі з вайскоўцамі. Мы ім дапамагалі сустракаць начальства. У кнізе водгукаў ёсць запісы афіцэраў з Моніна, алімпійскага чэмпіёна Мядз-ведзя. Зрабілі невялікую дэгустацыйную залу. Паставілі дубовы стол. У Вялікім Мажэйкаве рабілі колы драўляныя. Далі нам дубовы ствол. Мы яго распілавалі на 3 часткі, асяродак пусцілі на ножкі. Бакавіны - як стальніцы. Пакуль пілавалі - тры пілы зламалі. Чаканкі там вісяць мной зробленыя.*

*За гады працы на піўзаводзе ўзнагародзілі мяне ордэнам “Знак пашаны” і дзвюмя граматамі ВС БССР. Цягнулі на сабе Гарадзенскі і Навагр*адскі піўзаводы. Шмат увагі і грошай пайшло. Навагрaдскі завод быў стратны, без усякай кампенсацыі атрымалі”.*

**Пра яго:**

**Багравец:** *“Выгоўскі -вельмі шмат ідэй, вельмі разумны. ЦКТ - гэта яго ідэя. Усё яго любілі. Лідэр любой кампаніі. Бесперапынна займаўся рэканструкцыяй.”*

**Кудзіна і Урбан:** *“Выгоўскі патрабавальны і вельмі ўважлівы дырэктар быў.”*

**Тыртых:** *Выгоўскі - хударлявы, высокі, вельмі энергічны, гумарыст. Ён працягнуў традыцыі Сляпцова жыць з калектывам, адпачываць, спартовыя спаборніцтвы праводзіліся, санітарная дружына была. Былі агульныя выезды. Ён заўсёды быў з калектывам. Ішоў на крок наперадзе ІТР. Любіў інтэлектуальна прыцiснуць да сценкі.”*

## *10. На дырэктарскі пост прыходзіць Уладзімір Якаўлевіч Юфа*

У 1986 годзе здарыліся дзве найважных падзеі, якія вызначылі будучыню завода: закуплены тры ЦКТ данецкай вытворчасці і дырэктарам завода становіцца Ўладзімір Якаўлевіч Юфа.

**1987 г.**

Распрацаваныя новыя выгляды безалкагольных напояў: “Чарнаплодная рабіна”, “Палявая кветка”, “Грона”, “Крушон”, “Разыначка”, “Залацісты” коштам 30 капеек і гарантаваным тэрмінам захоўвання 30 сутак, выраблены з выкарыстаннем кансерванту; квас фруктовы, хлебны, грушавы. Заменены кандыцыянер у саладовенным цэху. Для паляпшэння фільтравання і выдалення суспензіраваных рэчываў усталяваны дыяталітавы фільтр. З яго дапамогай удалося атрымаць вельмі чыстае піва. У брадзільна-лагерным склепе ўсталяваныя два па-



***Варачны цэх***

ветраахаладжальнікі, вентылятар Ц - 470. У безалкагольным цэху ўсталяваны фільтрапрэс для фільтравання купажоў.

**У кнізе водгукаў Лідскага піўзавода запісана:** *“25 лютага 1987 г. Параўноўваючы вашую прадукцыю з прадукцыяй іншых піўных заводаў, піваvараў Вільнюса, Навасібірска, Баку, Мурманска і г. д. з упэўненасцю і чыстасардэчнасцю можам заявіць, што вы далёка наперадзе. Застаецца толькі марыць, каб вільнюскія півавары дасягнулі вашага ўзроўню. Трупа дзяржаўнага драматычнага тэатра ЛССР.”*

**1988 г.**

Павялічаны асартымент прадукцыі, выпускаліся піва “Маскоўскае”, “Жыгулёўскае”, “Адмысловае”; напоі “Дарункі лесу”, “Абрыкосавы водар”, “Цытрына-лайм”, “Паўднёўка”, “Журавінавы”, “Паўднёвы”; сіропы памяранцавы і яблычны. З мэтай павелічэння ўстойлівасці безалкагольных напояў праводзілася дадатковае фільтраванне і цеплаапрацоўка сокаў, якія паступаюць. Для гэтага быў набыты і ўсталяваны варачны кацёл МЗС - 2446. Пачата будаўніцтва новага цэха безалкагольных напояў з усталёўкай двух 12-ці тысячных ліній разліву. Пракладзеныя новыя трубы ад кампрэсарнай да брадзільна-лагернага ўчастку з іх ізаляцыяй. У брадзільна-лагерным склепе ўсталяваны ахаладжальнік піўнога сусла.

**У кнізе водгукаў Лідскага піўзавода запісана:** *“13 чэрвеня 1988 г. Шмат чулі пра вашае піва, але ўпершыню паспрабаваўшы, зразумелі, што гэта вышэй усіх словаў. Былі ў Чэхаславакіі, ГДР, там спрабавалі вельмі шмат гатункаў. Вашае на сусветным узроўні! Такое піва можна варыць толькі з любоўю да сваёй справы. Жадаем вам усіх поспехаў, выхаду на сусветны рынак. Удзельнікі тэлевіктарыны “Што? Дзе? Калі?” Шангін, Голубева, Парамей, Навумава, Даўгоў, Бялка.”*

**1989 г.**

У красавіку ад Лідскага завода аддзелены Наваградскі піўзавод. Павялічаныя аб’ёмы выпуску піва з больш высокай рэнтабельнасцю: піва “Лідскае” -12330 гл, “Маскоўскае” - 10780 гл. У цэху разліву піва ўсталяваная гаспадарчым спосабам без прыпынку вытворчасці лінія магутнасцю 12 тысяч бутэлек у гадзіну. Усталяваныя дзве бутэлькамыечныя машыны, два разліваныя блокі, тры этыкеціравачныя апараты, два транспарцёры. Аміячны кампрэсар заменены на халадзільную ўстаноўку 21 МКТ - 220. Адрамантаваная і запушчаная завадская артсвідравіна магутнасцю 12 м3 / гадзіну. Укаранёныя ў вытворчасць напоі: “Флора памяранцавая” з тэрмінам захоўвання 30 сутак, “Тархунавы”, “Верасок”, “Рамонак”. На катэгорыю “Высокая якасць” атэставана шэсць найменняў: “Бела-снежка”, “Саяны”, “Цытрынавы на ксіліце”, “Памяранец дыетычны”, “Палявая кветка” і піва “Лідскае”. Уведзеная брыгадная сістэма аргані-зацыі працы ў механічным цэху і будбрыгадзе.

Рэнтабельнасць вытворчасці перавысіла 45 %. Атрымана прыбытку 1233 тысячы рублёў. Выпушчаны рэкордны за ўсе гады існаванне завода аб’ём безалкагольных напояў 91 110 гл.

**1990 г.**

У піўным цэху і цэху безалкагольных напояў усталяваныя фільтры для ачысткі паветра. Зманціраваная станцыя рэгенерацыі шчолачы. Заменены нержавеючай трубой трубаправод для сусла ад адстойніка да суславага аддзялення. Праведзена рэканструкцыя дражджавога аддзялення. У квасным цэху ўвялі камбінаваную закваску. Заменены хуткасным паранагравальнікам бак гарачай вады. Падведзена пара для падагрэву дэзрошчыны. Засвоены новы від напою “Вячэрні Арбат” коштам 25 капеек і гарантаваным тэрмінам захоўвання 20 сутак, і піва “Прынёманскае” з светлага соладу з дабаўленнем рысавай сечкі і першагатунковага хмелю. Юфа Ў.Я, Тыртых Г.У., Мітрасава Р.С., Скрыпко Д.Б. распрацавалі тэхналогію вытворчасці піва “Стары замак” з светлага соладу з дабаўленнем рысавай сечкі і першагатунковага хмелю.

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Паэт Смарагд Сліўко

## Да 75-годдзя з дня нараджэння

Смарагд Фёдаравіч Сліўко 16 снежня 1931 года ў горадз Яраслаўлі ў сям'і акцёра і паэта, які працаваў у Яраслаўскім тэатры імя Волкава. Падчас вайны ён загінуў, пахаваны ў Польшчы. Сліўко - прозвішча айчыма, які ўсынавіў Смарагда.

Дата нараджэння - лічба 16 - адметная тым, што яго маці шаснац-цатае і апошняе па ліку дзіця з сялянскай сям'і, усіх членаў якіх забралі на той свет Грамадзянская і Вялікая Айчынная войны, а заставалася ў жывых толькі цётка, якая выйшла замуж у вёску з-пад Ваўкавыска. Айчым больш за 10 разоў паранены і цяжка кантужаны ў Айчынную, толькі ў 1946 годзе знайшоў яе, самую малодшую і адзіную сястру сваёй жонкі, і пераехаў да яе жыць, ратуючыся ад холаду і голаду расейскай поўначы, разам з 14-гадовым сынам Смарагдам і сямігадовай дачушкай, якая стала ўрачом-тэрапеўтам і жыве зараз у Менску.

З таго ліхога пасляваеннага часу і па сёняшні дзень жыве Смарагд Фёдаравіч у Беларусі і лічыць яе сваёй сапраўднай Радзімай.

З Ваўкавыска айчыма перавялі на службу ў Гародню, дзе Смарагд вучыўся як перарастак, дзіця вайны, у вячэрняй школе, адкуль узялі яго ў войска. Чатыры гады без водпуску служыў у танкавых войсках у пасёлку Агатуё Чыцінскай вобласці. Вярнуўся ў Гародню ў званні яфрэйтара і давучваўся ў вячэрняй школе рабочай моладзі, працуючы рэжысёрам лялечнага тэатра пры палацы культуры. Потым вучыўся на стацыянары Гарадзенскага педінстытута імя Я. Купалы на гістарычным факультэце, крыху пазней злітым з філалагічным. Таму ў дыпломе аб атрыманні вышэйшай адукацыі ў 1961 годзе з'явіўся запіс аб прафесіі: настаўнік гісторыі і рускай мовы.

Колькі памятае сябе, удзельнічае ў мастацкай самадзейнасці, спявае, танцуе, складае і выконвае прыпеўкі, выступае ў ролі канферансе, у тым ліку і ў педінстытуце, дзе і пазнаёміўся з партыйным і савецкім дзеячам у будучыні С.Ц. Кабяком, пасля заканчэння інстытута той ужо працаваў сакратаром Астравецкага РК КПБ і прапанаў сябру Смарагду ўзяць накіраванне ў Астравец. Так Сліўко трапіў ў гэты самы ўсходні райцэнтр Гарадзенскай вобласці, на другі дзень пасля прыезду ўключыўся ў мастацкую самадзейнасць пры РДК, дзе пазнаёміўся з цудоўнай дзяўчынай маладым спецыялістам-эканамістам Ірынай Нікадзімаўнай, якая неўзабаве стала яго жонкай і музай.



Лёс перамясціў актыўнага, энергічнага настаўніка-артыста ў Ліду, дзе ён настаўнічаў у трэцяй, пятай, восьмай і дзевятай школах да выхаду на пенсію. У Лідзе яго апанавала новае захапленне. Эстраду кінуў і разам з Пятром Дакукам арганізаваў народны тэатр пры Лідскім ГДК. Пра той час сведчыць куча грамат, афішаў і іншых дакументаў, перададзеных у мясцовы музей. Яшчэ болей укаранялася захапленне паэзіяй. Але пісаў болыл для сябе, у стол. Сябры парэкамендавалі звярнуцца ў рэдакцыю газеты “Уперад”, і Віктар Мікалаевіч Кучынскі прыязна аднёсся да новага аўтара, надрукаваўшы падборку вершаў. Крыху пазней літстаронкі рыхтаваў Уладзімір Васько, які пачаў рэдагаваць асобныя радкі Смарагда, а той злаваўся-сердаваў, але цяпер вельмі ўдзячны сп. Васько за ўрокі паэтычнай патрабавальнасці. У год 70-гадовага юбілею Смарагд Фёдаравіч Сліўко выпусціў у свет кніжку вершаў, гумару і прозы пад назвай “Бывай, дваццатае стагоддзе”. Той жа патрабавальны Уладзімір Гаўрылавіч Васько пісаў з гэтай нагоды:

*“Для сапраўднай паэзіі неабходны вельмі многія складнікі, але каб хоць асноўныя з іх — гэта глыбіня думкі, прывабны і шчыры эмацыянальны свет, вобразнасць і вернасць рэаліям жыцця —*

*высвечваліся на поўную моц, то ўжо і такія вершы можна залічваць у разрад паэзіі. У творах лідчаніна Смарагда Сліўко яны прысутнічаюць. Акрамя таго, памянёны аўтар умее стварыць пэўны настрой у душы чалавека, выявіць сваё духоўнае "я", нават прызнаць у некаторай ступені наш маральны стан. Уся справаў тым,што складнікі паэзіі, улоўныя і няўлоўныя, не ляжаць "на паверхні. Іх патрэбна здабываць сваім талентам. Смарагд Сліўко добра ўмее гэта рабіць, хоць самакрытычна і заўважае:*

Пыхчу и в поте таю,
Слюнявлю словари...
Знать, Бога не хватает,
Что должен быть внутри.

*Апошнія два радкі, патрэбна думаць, аўтар аднёс не толькі да сябе, але і да ўсёй пішучай братвы. Сапраўды, перш каб што выказаць, неабходна, каб нешта было ўнутры. Духоўнадушэўная пустэча аўтара, якімі эпітэтамі яе ні ўпрыгожвай, на якой вершаванай "талерачцы" яе ні падавай, нікога яна не закране за жывое, нікога не ўзрушыць і, тым больш, нікога і нічым не ўзбагаціць.*

*Смарагд Сліўко стаіць у баку ад гэтай непажаданай выявы. Ён паэт шчыры, па-філасофску ўдумлівы, арыгінальны. І бярэцца за пяро тады, калі на тое ўзнікае мулкая ўнутраная патрэба. Разам з тым, ён паэт шырокага тэматычнага і жанравага дыяпазону. У яго ёсць вершы высокага грамадзянскага гучання, ёсць праніклёныя тонкія лірычныя творы, ёсць творы пра нашу наднямонскую, наддзітвянскую прыроду, ёсць гумар, сатыра, едкія эпіграмы, празаічныя замалёўкі, навелы, выкананыя ў паэтычным духу.*

*Не дзіўна,што ў адпаведнасці з гэтым і клапоцячыся пра чытача, ён у сваім зборніку "Прощай, двадцатый век" не зваліў усё як папала, у адну кучу, а разбіў творы па раздзелах, каб лепш было ў іх арыентавацца.*

*У якасці дачніка (і вядома ж, паэта) Смарагд Сліўко часта бывае на беразе Дзітвы і нават начуе там у сваім несамавітым доміку. Напэўна ж, там і нараджаюцца ў яго такія нечаканыя радкі:*

Поёт и пляшет и смеётся
Средина, самый пуп весны!
А небо на осколки рвётся,
Устав от зимней тишины.

*У вершы "Закат над прудом", даючы каларытны малюнак перадвячэрняй прыроды, паэт як бы атаясамлівае сябе з ёю, як бы зліваецца з ёю, хмялее ад яе невыказнай прыгажосці:*

Я будто есть и будто нет,
Я пьян, хотя и трезвый.
И надо мной висит букет
Из яблочных созвездий.

*Можна было б прыводзіць і яшчэ нямала моцных куплетаў з яго разнастайных вершаў, але маштабы рэцэнзіі не дазваляюць гэта рабіць, таму мне хочацца звярнуць увагу чытача яшчэ на такую даволі прывабную грань таленту Смарагда Сліўко, як схільнасць да крытычнага асэнсавання жыцця. Асабліва ў яго карацельках дастаецца дубам у прамым і пераносным значэнні гэтага слова. Вось толькі два чатырохрадкоўі з гэтай серыі:*

* * *

У дома дуб стоит столбом,
И я в него врубился лбом.
Стою и думаю без зуба:
Сломал, наверно, сук у дуба.

* * *

Во дворе росли два дуба
Возле здания, у клуба,
И от культработы клуба
Оба дуба дали дуба.

*Зборнік "Прощай, двадцатый век", я думаю, не застанецца па-за ўвагай нашых чытачоў і парадуе іх як сваім зместам, так і прыгожым мастацкім афармленнем."*

Паэт Міхась Мельнік з нагоды выхаду зборніка *"Прощай двадцатый век"* адзначаў:

*"Паэт шчыры з чытачом у сваіх пачуццях, давярае яму. Ён не толькі лірык з вобразным светаўспрыйманнем, але і чалавек высокай духоўнай культуры, які ўмее захапляцца каштоўнасцю напісанага іншымі, і адначасова вельмі далікатна адносіцца да прыроды, здольны багатварыць і не стамляцца здзіўляцца дасканаласці яе прыгажосці.*

*Вачыма кранальных вершаў глядзіць паэт на свет, радуецца розным праявам жыцця, любуецца прыгажосцю блізкіх сэрцу мясцінаў. Лірычны герой твораў С. Сліўко - асоба гарманічная, рамантычная, узвышаная, якая ўмее з жарцю любіць усё і ўсіх. Гэта пацвярджаюць і такія радкі:*

Вобрал в себя я все погоды:
И плач дождя, и солнца смех,
И вот в седеющие годы
Опять влюблён во всё и всех.

Зямны шлях паэта Смарагда Сліўко закончыўся 5 жніўня 2006 года. А яго паэтычны шлях працягваецца. Да чытачоў ідуць вершы, не апублікаваныя пры жыцці. Нядаўна выйшаў зборнік "От сердца к сердцу", рыхтуецца да выдання зборнік "Продлись, мгновение". Вельмі шкада, што гэта пасмяротныя выданні, але недзе там на шалях вечнасці яны заважаць роўна столькі, колькі душы ўклаў у іх паэт. А душа тут у кожным слове, у кожным радку.

***Пятро Макарэвіч.***

СМАРАГД СЛІЎКО

# І дзе Айчыну ўзяць, калі не маеш дому...

**ЗВІНЯЦЬ ЗВАНЫ**

Ідуць у дол сябры,
Ідуць паадзіночцы.
Адзін я да пары
Яшчэ не ў той сарочцы.
Звіняць, звіняць званы,
І то, адно ў нядзелю.
Каму пяюць яны?
І дзе маё вяселле?
Цалую злючы крыж
Над новаю магілай.
Ты ўжо навечна спіш,
А мне шчэ трэба сілы.
Хоць цяжка паміраць,
А жыць цяжэй жывому.
І дзе Айчыну ўзяць,
Калі не маеш дому...
Нясу я свой паклон
Паўз змроку берагі
І з болем бачу сон
Пра тых, хто дарагі.

*Пераклад Станіслава Судніка.*

**ДА ЧЫТАЧОЎ**

Калі сумуецца, рагочацца
Ці творыцца ў душы бядлом,
А раптам некаму захочацца
Прыгубіцца маім радком.

Хай не крыніца, не балота,
Звычайны, ціхі ручаёк,
Мажліва і адчуе хто там
Гаючае вады глыток.

*Пераклад Пятра Макарэвіча.*

**ЧАГОСЬЦІ НЕ ХАПАЕ**

Я рад заўжды таму,
Арэ хто і лунае.
Але нутру майму
Чагосьці не хапае.

Ўлюбёны любы й мне,
Вітаю мора кветак,
Калі вакол свае,
Калі вясна і лета.

І ўсё-такі, чаму
Гвалтуе ўлада слова,
На шкоду ўсяму,
Часцей жа - бесталкова?

За што нам любы птах?
Вядома, за свабоду:
Ў яго нябесны шлях
На зайздрасць нам народу.

Мне хораша й таму,
Што Зло ў Дабры згарае...
Ды сэрцу ўсё ж майму
Чагосьці не хапае.

*Пераклад Пятра Макарэвіча.*

**НЕ ХОЧА НІХТО ПАМІРАЦЬ**

Няўжо толькі там, у нябёсах, нам рай?
Царкоўныя казкі, даволі!
Нікому не хочацца з нас паміраць,
Хай мы і ў смяротным звышболі.

Вясёлкаю дні адляцелі ў зеніт,
І шчэрыцца пашча прадоння.
Сплялася з касы прыдарожных ракіт
Мне пуга з “учора” і “сёння”.

Каб ёю лупіць не багоў, а сябе
За розум наш рабскі, бязволле,
Каб ворагаў нам зразумець пакрысе,
Узважыць сяброўскія ролі.

А часу няма, і не трэба ілгаць,
Што ТАМ, у ЯГО - распрывольна...
Не хоча ніхто на зямлі паміраць,
Хоць рэжа нас боль неадольны.

*Пераклад Пятра Макарэвіча.*

**ВАСІЛЁК**

Як навальніца, і паветра стыне,
І ад дажджу і дождж прамок,
Сярод пахіленых травінак
Сінее толькі васілёк.

Трымайся, сінявокі ўдачнік,
І адкрывай прыроды свет,
Бо ты жывучы, як той дачнік,
Даруй, што рваў цябе ў букет.

Люблю жывых і ўсё жывое,
І, нават тых, чый выйшаў час
Каб не даваць табе спакою,
Каб множыць вартасці запас

*Пераклад Марыны Масла.*

**ЗВЁЗДЫ**

Лишь две звезды в короткой трудной были
Слились в мое житейское кольцо:
Одна меня на песню вдохновила —
Другая сделала поэтом и отцом.

Как хорошо, что в сине-черном небе
Есть две надежные, горящие добром,
И где я есть, и где ни разу не был,
Они во мне сверкают серебром.

Кольцо, где нет ни капельки возврата,
Где есть тоска и радость до сих пор.
Одна звезда сиянием богата,
Другая жизнью смотрит мне в упор.

Ох эти звезды! Знать, не зря придумал
Их вечный знахарь с умной головой,
Чтобы сверкать без молний и без шума,
Но быть открытым сердцем и душой.

Стою распахнутым у краешка балкона,
И хочется увидеть вновь зарю.
А две звезды сияют с небосклона.
«Спасибо, жизнь!» — я звездам говорю.

**ПРИГЛАШАЮ К ШАЛАШУ**

***Моим друзьям – поэтам***

Смешно, смешнее не бывает,
Где слёзы по губам текут,
Я на праздник созываю,
Кто давно уж не был тут.

Я погляжу на вас и только,
И даже рот не дам открыть.
Чтоб были Ваня, Миша, Толька
И те, кого нельзя забыть.

Я Бочарова почитаю,
Пока он сходит в магазин.
А Винник нам сморозит чаю,
Он в этом деле господин.

Ну, а Васько всё подытожит
И разгладит, где не так,
А иногда на глупой роже
Словесный сделает синяк.

Я не о том, а всё ж об этом.
“Ну как живёте?” - не спрошу.
Ведь там не делают поэтов,
Но приглашают к шалашу.

Ой! Сколько в нас грехов-огрехов!
Не перечислит даже Бог
И много, множество орехов,
Которых я разгрызть не мог.

Ну вот и всё. Спасибо, братья,
Что заглянули на чуть-чуть.
Ой нет! Идите без объятья.
Мы встретимся. Когда-нибудь.

**ВЕСНА И ОСЕНЬ**

Огнем томится красная сирень,
Себя в подруги предлагая.
А рядышком, склонившись на плетень, —
Невестой вишня молодая.

И ждут чего-то нежно и легко
И воздух запахом милуют,
И прошлое уплыло далеко,
Оставив запах поцелуя.

Люблю весну... А осень — на ветру,
Когда любовь срывает все с любимой,
Чтоб разлучиться по утру —
И стать весной неповторимой.

Природа-матушка, волшебная страда,
Созвездие разлук и радость встречи,
Где все в обнимку: нет и да,
И где любовь любовью лечат.

Весна и осень — словно близнецы,
Они лишь таинства разлуки.
Летят в скворечники скворцы,
А мы друг к другу тянем руки.

**БОЮСЬ ПОТЕРЯТЬ ДАЖЕ МІГ!**

Я в тех, кто тоскует и плачет.
Я там, где смеются и пьют.
Я там, где не ищут удачу.
Я там, где в других не плюют.

А если усну, - разбудите.
Мне скучно без вас и себя.
Как солнце достигло зенита,
Уходит, себя истребя.

А мне бы до туда добраться,
Где уже нет вышины,
И там, мои сёстры и братья,
Не встретил бы злой тишины.

Где молнии с тучей играют
И нету в просторе границ,
Декабрь улыбается маю,
И падают звёзды с ресниц.

А если усну, - разбудите,
Боюсь потерять даже миг.
Я в каждой кудрявой раките
И в том я, чего не достиг.

Я смех и слеза расставаний.
Я в таинстве ласковых рук.
Я зарево в снежном сиянье.
Я север, и запад, и юг.

А если усну, - разбудите.
Боюсь потерять даже миг.
Любите поэтов, любите...
Хотя б за единственный стих.

**НОЧЬ, ТУМАН И СТИХИ**

Всё ниже, ниже ночь,
И звёзды стали ниже.
Сиреневый туман
Меня с кустами лижет.

И вот уж нет меня,
В сиреневом я таю,
А надо мной звезда
Стихи мои читает.

Я, слушая, пою.
И будто бы я в храме.
И звуками сражён,
Своими же стихами.

Шепчу их наизусть
ДРУГОЙ ЗВЕЗДЕ и звёздам –
И расплескалась грусть.
Спасибо, что не поздно.

**МЕЧТА О ПОТОМ**

Ушла весна, оставив осень.
А там – зима белым – бела,
Но душа огня лишь просит,
Чтобы гореть, сгореть до тла.

И всё. Уйду, оставив годы
В моём шальном черновике.
Я где-то жил и бутербродил,
Таскал картошку в рюкзаке.

Я был попом. А поп – учитель.
Я звал к добру, а не в печаль.
И вы, пожалуйста, лучитесь,
Себя расплёскивая вдаль.

Звените, милые, звените!
Пусть треснет колокол, звеня,
Чтоб оседлать звезду в зените!
Но это будет без меня.

И всё равно. Вольюсь глазами
И языком с отрытым ртом.
Я буду с вами, только с вами!
Ведь я мечтаю о потом.

**ПАРУСА**

Я мечту не успел
Ни догнать, ни обнять,
Но я всё же летел
Паруса догонять.

Я большого хотел,
Но сумел позабыть,
Что у жизни прицел –
Самых слабых добить.

Нам бы ветер в лицо
Тормошил, как сквозняк,
Нам бы быть бы бойцом,
Но не так, как ветряк.

Но я здесь, на земле.
И землёю дышу.
Я с женою в тепле.
Что ещё? Я пишу:

Паруса надо мной,
И колышется даль.
И над морем покой,
Тишина и печаль.

**ГОЛУБИЗНА**

Выключилось солнце –
И во мне луна
Гуляет как бесонница,
От звёзд и до окна.

А под луною – небо
Серебряной фольгой.
Я там ни разу не был,
Где ветер голубой.

Хоть звёзды, словно крабы,
Раскинулись дугой.
А мне туда! Хотя бы
Вздохнуть голубизной.

...И все ж земля – родная
И в ней родимый дом.
А там жена святая
В рассвете голубом.

И голубой улыбкой
Меня встречает мать,
И воздух нежный, зыбкий,
Как голубая прядь.

Я весь голубизною
От пяток до волос
Пронизанный весною,
Как сам Исус Христос.

И пусть, что там я не был,
Здесь – ветер голубой.
И здесь сверкает небо
Таинственной фольгой.

**ЗВЁЗДЫ**

Гляжу с балкона в небо!
Там быль вмешалась в небыль,
И розовые тучи,
Подолами крутя,
Хотят упрятать звёзды,
В серебряные гроздья,
И душу на лохмотья,
Как мыши, теребят.

Из худшего – не худший,
Из лучшего – не лучший,
И не посередке,
А где-то тут и там,
В мечте моей косматой,
Без воздуха крылатой,
Люблю я всё, что вижу,
И на душе – бальзам.

Одной звезде покорен,
Но по-другому скроен,
И тучи без признанья,
Руками отвожу.
И вновь любуюсь небом,
Где был и вовсе не был,
И звёздное сиянье
Я в галстук завяжу.

**КТО ЖИЗНЬ НЕ ДОЖИЛ**

Из множества много, кто жизнь не дожил.
В судьбе кривоногой, где тысячи жил.
Они не умели, чтоб жить не спеша.
Все наши метели взяла их душа.
И царствуют где-то, всё также горят,
Лишь солнцем одеты, как сто негритят.
И всё же завидуют тем, кто внизу,
Кто в горе хохочут, не пряча слезу.

**ЛИПА У ОКНА**

Я теперь просыпаюсь рано и, подходя к окну, вижу, как старая липа нежно здоровается со мной. Я выхожу на балкон и шепчу: "Здравствуй, милая! Ты с каждым годом все крепчеи крепче, выше и выше. Я давно знаю тебя, всякую, разную. Осенью – серой и обмусоленной дождями, и ты из последних сил пытаешься удержать последние листья. Но время непобедимо, и ты смиряешься. И только добрый снег прикрывает твое озябшее тело. Но руки твои в белых перчатках всё так же тянутся ко мне и к небу.

Милая липа, ты повторяешь меня. Да нет, мы просто близнецы. И мать у нас одна. И потому не случайно ты постоянно перед моим окном. Чтобы я не забывал о нашем родстве. И если я на ночь закрываюсь шторой, то утром я её распахиваю, и ты, как верная безъязычная дворняга, внимательно высматриваешь меня: прежний я или нет, сдался или ещё могу. И ты уверенно знаешь, что будет. А я – нет.

Но время бежит. И вот уже капает слезами зима с твоих озябших рук. И вдруг утром я не узнаю тебя: ты улыбаешься мне своим новым зелёным детством. Потом молодецким буйством твоих роскошных листьев. И я уже не вижу твоих протянутых ко мне рук, хоть знаю, что они есть, только твои пальцы уже в других перчатках. И я доволен твоим вечным обновлением, и добро, со вздрагиванием завидую тебе… И теперь смотрю. Но что это? Ты та же и уже другая. Ты светло зелёная, в радости. Ты – в положении любви. Ты цветёшь! И твои жёлтые детки скоро разлетятся с ветром, и запах твоей новизны, всё, что есть за моей распахнутой балконной дверью, - всё наполняется и пере-полняется тобой.

Спасибо, милая. Я живу, как и пчёлы, что летят в твой целебный нектар. И я оживаю, и я напьюсь твоего чая и напоследок подниму стакан твоей амброзии и скажу много самых прекрасных слов: "Спасибо!"

**НЕБА**

Я ляжу на траве і гляджу ўгору. Неба штосьці сёння расшчодрылася. Усміхаецца сонцам. І расцвіло васількамі над пахілай вярбой і нерасчэсаным кустоўем.

Белыя, як бавоўна, воблакі павольна плывуць у стара-даўнім вальсе. І я, як скульптар, ляплю з іх усё, што мне захочацца. Вось гэта скала дзесьці ў неабдымным блакітным моры. А гэта чыйсьці профіль, які ўжо распаўзаецца і прымае іншае аблічча.

Я гляджу, любуюся і думаю. Воблакі і сонца – твой убор. Без яго ты аднастайнае і пустое. Як сон без бачанага ў сне альбо манекен абыякавай вечнасці.

Ты, неба, вечнае. І я таксама. Што ты значыла б, калі б не было мяне ў ранішнім тумане, ва ўскудлачаным арэшніку, у хмарах, у табе? Ты прыгожае, таму што я люблю цябе, як чысты сшытак, у які можна запісаць свае думкі альбо пакласці любімую фарбу.

І не вецер, а я апранаю цябе сваім уяўленнем у розныя жаданні. Без мяне ты як шэдэўр у зачыненым пакоі. А я цябе адкрываю, таму што я чалавек.

Толькі яму даступна разумець гармонію прыроды, музыкі і фарбаў.

Ён з-за любові даўно прыручыў цябе, і ты яго носіш. І дапамагаеш прарвацца праз сябе ў больш далёкую вышыню. А чалавеку заўсёды патрэбна вышыня, таму што ён любіць прыгожае.

***Укладанне Міхася Мельніка.***

